# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 22 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2003 г.


## У НУМАРЫ:



# Паўстанка



**Ускладанне кветак да помніка Валерыі Цехановіч 27.07.2003 г.**

*На Лідскіх парафіяльных могілках па вул. Энгельса знаходзіцца магіла ўдзельніцы паўстання 1863 г. Валерыі Цехановіч з Цыбульскіх. Валерыя Цехановіч пражыла 92 гады, з іх 70 пасля паўстання. Падобна, калі яна памерла ў 1933 годзе, больш жывых паўстанцаў не засталося. І ўжо 70 гадоў стаіць на яе магіле помнік, такі ж стойкі, як і сама Валерыя.*

**Труба паўстання клікала да зброі,**
**Дзяды будзілі ўнукаў да сякер,**
**І здань адвечнай вольнасці святое**
**Шаптала ў снах: “Ніколі ці цяпер!”**

**Кідалі хлопцы бацькаўскія гоні,**
**Кідалі ў баразне самотную саху,**
**І мацеры ласкавыя далоні,**
**І недакрытую на свіране страху.**

**Дзяўчаты не выседжвалі па хатах,**
**Паліў іх сэрцы светлай волі пал,**
**Узрослыя на гераізме Плятар,**
**Кідалі прасніцу і бралі самапал.**

**Так і Валерыя пайшла ў паўстанне,**
**На шалі лёсу кінула жыццё,**
**Вяліяе Айчына і каханне,**
**Запаленае воляй пачуццё.**

**Спазнала страты,**
**вечнасць расставання,**
**Ды вычын мужны не прапаў дарма,**
**І семдзесят гадоў пасля паўстання**
**Нясла паўстанкі гордае імя.**

**І семдзесят гадоў яе магіла,**
**Як слуп памежны нашых пуцявін,**
**Яна Айчыну вольную любіла,**
**І наша воля - вечны ёй спамін.**

*Станіслаў Суднік.*




**Людвік Нарбут.** ***Меранкоў М. А., г. Менск, 1990 г. Палатно, алей, 80 х 60 см.***
***Захоўваецца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.***

# Лідскі Летапісец



Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні



Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 2 ( 22 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2003 г.


# Дыназаўр імя Дамейкі

Двое маладых чылійскіх вучоных заявілі, што знайшлі парэшткі невядомага да гэтага часу дыназаўра. Ён належыць да малавядомай і малалікай сям'і тытаназаўраў. Вучоныя назвалі яго **"Дамейказаўрам"** у гонар нашага земляка і вялікага чылій-скага даследчыка ды навукоўца 19-га стагоддзя, нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі.

Падчас раскопак на поў-начы краіны Давід Рубілар і Аляксандр Варгас знайшлі 40 працэнтаў шкілета старажыт-най жывёліны. Гэта самы поўны шкілет, які да гэтага часу ўдавалася знайсці ў Чылі.

**Дамейказаўр** - травоядны гігант больш 8 метраў даўжыні, які жыў на Зямлі прыблізна 70 мільёнаў гадоў назад.

*Да гэтага часу імем Да-мейкі былі названыя горны ланцуг на поўначы Чылі, гара ў Андах на поўначы Чылі, мінерал дамейкіт, дамейкіт бэта - мінерал, падвід дамейкіту, аманіт Дамейкі - від аманіту, адкрыты Дамейкам у фармацыі юрскага перыяду, фі-ялка Дамейкі, новы від каўчу-каносу, азалія Дамейкі, від слі-мака, від акамянелых малюскаў, адкрыты Дамейкам у 1841 г., порт Дамейкі на паўднёва-за-ходнім беразе возера Lanquihue ў Чылі, мястэчка Дамейка на мяжы III і IV рэгіёнаў Чылі, прысёлак каля порта Дамейка, інстытут Ігната Дамейкі ва універсітэце ў Вальпараіса ў Чылі, музей міне-ралогіі "Ігнат Дамейка" ва уні-версітэце Ля Сарэны ў Чылі. Імем Ігната Дамейкі названыя шахты, у тым ліку і шахта па здабычы адкрытай Дамейкам чылійскай салетры. Названы вуліцы, плош-чы, музеі, залы, паштовыя стан-цыі, СМІ, грамадскія і спартовыя арганізацыі. Ёсць фонд імя Да-мейкі, стыпендыя імя Дамейкі і шмат чаго іншага.*



**Ігнат Дамейка**


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Ґ 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Наклад 350 асобнікаў**

Часопіс надрукаваны ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская - 23.

Часопіс падпісаны да друку 12. 11. 2003 г.
Замова № 2549.
Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў




Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

# КРОНІКА ЛІДЫ

**Вясной 2003 г. на Лідчыне спыніла існаванне калгасная сістэма. Лідскія калгасы пераўтвораны ў 13 прыватных унітарных аграрных прадпрыемстваў**

***Новая шыльда на мяжы Прыватнага ўнітарнага аграрнага прадпрыемства “Прынёманскае”***



**У траўні 2003 года ў раёне Лідскага вакзала завершана будаўніцтва стэлы ў гонар 130-годдзя Беларускай чыгункі**



***Фігурка Маці Божай у выгараўшай капліцы***

**8 чэрвеня 2003 выгарала знутры капліца Божай міласэрнасці ў пас. Маладзёжным**





**15 чэрвеня 2003 года ў капліцы Святой Барбары ў Лідзе асвечаны 10 мемарыяльных дошак на памяць польскіх лётчыкаў, чый лёс звязаны з Лідай**

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## красавік – чэрвень

**1503 год, красавік.** Кароль Аляксандр міласціва дазволіў яўрэям вярнуцца ў ВКЛ.

**1633 год, 6 чэрвеня.** Кароль Уладзіслаў IУ канфірмацыйным прывілеем пацвердзіў Ліпнішкам магдэбургскае права

**1843 год, красавік.** Прынятае рэшэнне аддаць абгарэўшыя сцены піярскага касцёла і клештара ў Лідзе праваслаўнай парафіі.


**Людвік Нарбут**

**1863 год, красавік.** Аддзел Людвіка Нарбута разросся да 300 чалавек, перамясціўся ў Гарадзенскую пушчу. У ваколіцах возера Думбля ў Лакшуцянскім лесе адбыўся 4-гадзінны бой аддзела, вядомы ,як бой пад Кавалькамі, са значна большымі сіламі палкоўніка Вернера. У паўстанцаў забіта 7 чалавек, у тым ліку Войцах Нарбут і Ўладзіслаў Навіцкі і 9 паранена.

**18 (30) красавіка.** Л. Нарбуту прысвоена годнасць палкоўніка паўстанцкіх сілаў. Загадам ад 18 красавіка ён быў прызначаны камандуючым усімі баявымі сіламі паўстанцаў на Літве і Беларусі.

**21 красавіка (3 траўня).** Аддзел Цімафеева прыбыў ў Забалаць, а адтуль ў Дубічы, дзе размясціўся на начлег.

**22 красавіка (4 траўня).** Людвік Нарбут і 12 паўстанцаў загінулі ў баі пад Дубічамі над р. Котра.

**6 траўня.** Адбылося пахаванне ўсіх загінуўшых паўстанцаў каля Дубіцкага касцёла ў брацкай магіле.

**8 траўня**. Дамінік Будкевіч прадаў двор Мінойты Юліі Гадачэўскай.

**24 траўня.** У Вільні растраляны Раймунд Зямацкі (Ваверскі пробашч) па выраку вайсковага суда за чытанне ў касцёле маніфеста паўстання.

**5 чэрвеня.** Расстраляны памешчык з Кір’янаўцаў Альберт Ласковіч, за тое, што ў Наваельнінскім касцёле патрабаваў ад ксяндза, каб той прачытаў маніфест паўстання.

**13 (24) чэрвеня.** У Лідзе на Выгане (зараз вул. Перамогі) расстраляны ішчолнскі пробашч Адам Фалькоўскі за чытанне маніфеста паўстання ў Ішчолнскім касцёле.

**1883 год, 12 траўня.** Пачаліся работы па пабудове Вільня–Ровенскай чыгункі.

**1913 год, 19 траўня**. Лідская павятовая камісія пастанавіла, што школы пісьменства: Парачанская ў Тарноўскай, Вангаўская і Мікуліцкая ў Беліцкай, Дакудаўская і Касілаўская ў Мытлянскай валасцях, паводле сваёй дзейнасці падпадаюць пад тып царкоўна-прыходскіх школаў.

**31 траўня (13 чэрвеня).** Перастала выдавацца штотыднёвая газета “Лідскае слова”.

**1 чэрвеня.** Ў Лідзе нарадзіўся Гары Полак, матэматык, прафесар Мерыленскга універсітэта (ЗША).

**1923 год, красавік.** Чырвоныя партызаны напалі на маёнтак Быкаўшчына Жырмунскай воласці. Паліцыя даносіла, што ў Беліцкай гміне дзейнічае аддзел чырвоных партызан лікам у 50 чалавек.

**28-30 красавіка.** У Лідзе распаўсюджаны зварот Камуністычнай партыі Польшчы.

**Чэрвень.** Штрайк рабочых швейных майстэрняў.

Манахі-піяры адправілі ў Варшаву ў канцылярыю прэзідэнта ліст, у якім прасілі вярнуць ім касцёл і нерухомасць у Лідзе.

**1943 год, 25 красавіка.** У ноч з Вялікай суботы (24) на Вялікдзень (25) жыхары в. Дайнава Антось Ухто, Дыяніз Ухто, Капцэвіч з Дайнавы, Карэйва з Бельскіх і яшчэ адзін чалавек з забытым прозвішчам ноччу раскапалі магілу расстраляных ксяндзоў, перавезлі ў Устронь каля Дайнавы і закапалі ў агародзе сям'і Ухто і ў лесе. Магілы падрыхтаваў 18-ці гадовы Юры Ухто.

**25 красавіка.** Рашэннем Баранавіцкага падпольнага абкаму КП(б)Б створаны міжрайпартцэнтр начале з Яўхімам Данілавічам Гапеевым – упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і Беларускага партызанскага штаба, камандзірам Лідскай партызанскай зоны (злучэння), са штабам поблізу в. Паташня ў Налібоцкай пушчы.

**Я. Д. Гапееў**

**12 траўня.** Аддзел імя Варашылава поблізу вёскі Баяры атакаваны акаўцамі, загінула пяцёра партызан.

**Вясна.** Выпуск бухгалтараў з школы, арганізаванай немцамі восенню 1942 года.

**1 чэрвеня.** Выйшаў першы ваенны нумар газеты "Уперад", рэдактар Г. Г. Коган.

**3 чэрвеня, нядзеля.** Па распараджэнні камандавання Наваградскай акругі АК ст. сяржант 77 палка Юзаф Сянкевіч перад фарным касцёлам ў Лідзе пасля святой імшы застрэліў выпускніка Шчучынскай настаўніцкай семінарыі Яна Клышэйку.

**5 чэрвеня.** У Лідзе і Лідскім раёне распаўсюджаны першы нумар газеты "Уперад".

**6 чэрвеня.** Створана падпольная група ў Лідскім гэбітскамісарыяце.

**Чэрвень**. Чырвоным партызанам растлумачылі: заходнія вобласці – неад'емная частка БССР і рэкамендавалі: "Усімі спосабамі... распускаць нацыяналістычныя аддзелы і групы".

Немцы паказалі сусветнай грамадскасці Катынь-брацкую магілу польскага афіцэрства. Савецкі ўрад разарваў адносіны з польскім лонданскім ўрадам.

**Чэрвень.** Створана партызанская брыгада імя Кірава. Абядноўвала аддзелы "Іскра", "Балтыец", "Арол", "Кастрычніцкі", "За Савецкую Беларусь", імя Арджанікідзэ – агульнай колькасцю каля 1200 чалавек.

**11 чэрвеня.** Група партызан аддзелаў "Барацьба" і імя Варашылава на хутары Баяры Смалоцкія была акружана акаўцамі. З 17 чырвоных партызан удалося выратавацца толькі аднаму. На трупах забітых была пакінута запіска: "Так будзе з ўсімі бальшавіцкімі бандытамі".

**17 чэрвеня.** Поблізу раз'езду Выгода ўзарваны вайсковы цягнік, які ішоў з Ліды на Баранавічы. Рух спынены на 24 гадзіны.

**22 чэрвеня.** Генеральны камісар Беларусі Вільгельм Кубэ прыняў рашэнне арганізаваць ў Беларусі "Саюз беларускай моладзі". Цэнтр СБМ знаходзіўся ў заводскім пасёлку Альбярцін, філіі – ў Наваградку, Лідзе, Баранавічах.

**Лета.** У Лідзе разам з бацькам, мачахай і сястрой арыштаваны паэт Валянцін Таўлай. У Лідскай турме ім напісана некалькі вершаў.

**1953 год, 13 чэрвеня.** Уведзены ў эксплуатацыю малочна-кансервавы завод (Загад міністра лёгкай і харчовай прамысловасці № 787) ў складзе Беларускага галоўнага кіравання маслаfailробчай-сыраробчай прамысловасці мясных і малочных прадуктаў БССР.

Пачалося будаўніцтва жылля для рабочых і дзіцячага садка.

**Чэрвень**. Грынцэвіч І. А. у лесе забіў старшыню калгаса Пятра Шота.

**1963 год. 11 красавіка.** Выканкам гарсавету пераіменаваў вуліцу Лідскую ў вуліцу імя. Валянціна Таўлая.

**Травень.** Пачаў будавацца лакафарбавы завод.



**Будуецца Лідскі лакафарбавы завод**

**1963 год.** Каманда валейбалістак г. Ліды стала чэмпіёнам Усесаюзнай спартакіяды школьнікаў у Валгаградзе.

Каманда лідскіх шахматыстаў заняла перашае месца ў вобласці.

**1983 год, 16 красавіка.** Зарэгістраваны статысячны лідскі жыхар – Дяніс Казак.

# Лідкія юбіляры 2003 года

**Нарбут Станіслаў Тодаравіч** (4.05.1853 – 11.03.1926) нарадзіўся ў маёнтку Шаўры Лідскага павету, зараз Воранаўскага раёна. Скончыў Першую Віленскую класічную гімназію (1871), вучыўся ў Мюнхенскім універсітэце (1872-79), выключаўся за ўдзел у хваляваннях, заплаціў буйны штраф. Абараніў дысертацыю аб каўтуне на ступень доктара хірургіі і акушэрства (7.08.1879). Слухач Дэрпцкага універсітэта (1888-91), атрымаў дыплом лекара Імператарскага Дэрпцкага універсітэта. Займаўся прыватнай практыкай у Друі і Браславе. 29.04.1904 прызначаны ўчастковым лекарам у Браслаў, будуе местачковую бальніцу. У Першую сусветную вайну ўзначальваў лазарэт на Паўночна-Заходнім фронце, цяжка паранены, часткова ампутаваная нага.

У 1919 г. вяртаецца да лячэбнай практыкі. Пахаваны ў Браславе на Замкавай гары. У 1927 годзе на сродкі, сабраныя жыхарамі, пабудаваны помнік.



**Помнік Станіславу Нарбуту ў Браславе. Фота Аляксандра Колышкі, Ліда.**

**Алюшкевіч Мікалай Осіпавіч** (1873 – 1903?). Нарадзіўся ў Лідзе, вучыўся ў Лідскай навучальні. Дзеяч адной з першых сацыял-дэмакратычных арганізацый у Расеі – групы Бруснева. Друкаваў на гектографе і распаўсюджваў сацыял – дэмакратычныя выданні, падрыхтаваў рэферат "Пра рабочае пытанне ў Расеі і на Захадзе". Заснаваў у Ноўгарадзе падпольную друкарню, у 1897 г. высланы ў Валагодскую губерню.

**Сыпнеўскі Юзаф** (17.06.1883 – 7.02.1937)

Нарадзіўся ў Перапечах Лідскай воласці, бацька эканом маёнткаў Садоўскіх у Перапечах і Шванебахаў у Жырмунах. Доктар сельскагаспадарчых навук, загадчык кафедры ў Познані.

**Курыловіч Віктар Аляксандравіч** (3.04.1913 – 05.1984)

Протаіярэй, з 1946 г. служыў у прыходах Лідскага дабрачыння. У 1961 – 63 і 1968 – 84 гг. Дабрачынны Лідскай акругі. Узнагароджаны ордэнам Прэпадобнага Сергія Раданежскага 3-й ступені (1983).

**Юхновіч Станіслаў.** Нарадзіўся 10 чэрвеня 1923 г. у Лідзе ў сям'і вайскоўца і настаўніцы.

Польскі архітэктар, даследчык горадабудаўніцтва, доктар тэхнічных навук (1965), прафесар (1974). Сябар шматлікіх міжнародных і польскіх навуковых аб'яднанняў, якія займаюцца вывучэннем архітэктурнага наваколля. Чалец Прэзідыюма грамадскага камітэта па аднаўленні помнікаў старыны Кракава (1989).

Вучыўся ў Ковеле, Самбары, Катавіцах, Львове. Жаўнер АК, адначасова вучыўся ў Львоўскім палітэхнічным інстытуце (1942 – 44), працягнуў навучанне ў палітэхніцы ў Кракаве (1945 – 47), у Гданьску (1948). Працаваў кіраўніком майстэрні па аднаўленні галоўнага горада ў Гданьску, праектнай арганізацыі г. Кракава (1950 – 59). Быў стыпендыятам фонду Форда ў універсітэце ў Філадэльфіі (1959 – 60). Пазней – навукова-метадычны супрацоўнік Кракаўскага палітэхнічнага інстытута, кіраўнік установы пры інстытуце па праектаванні гарадоў і мястэчак (1967 – 70), намеснік дырэктара інстытута горадабудаўніцтва і прасторавага планавання (1970 – 73). У 1973 – 81 гг. кіраўнік арганізацыі па горадабудаўніцтву і рэгіянальным планаванні ў Нігерыі, адначасова дэкан факультэта праектавання навакольнага ландшафту Заірскага універсітэта (1974 – 76), заснавальнік і кіраўнік Цэнтра ўдасканальвання горадабудаўнікоў для краін, якія развіваюцца, пры Кракаўскім палітэхнічным інстытуце.

Выканаў праекты рэканструкцыі галоўнага горада ў Гданьску (1948 – 50), будаўніцтва Новай Гуты (1950 – 59, у сааўтарстве), перабудовы цэнтраў Лодзі, Кракава, Хорава, Любліна, Сант-Яга (1962 – 70), рэкультывацыі і рэабілітацыі тэрыторый, пашкоджаных здабычай вугалю ў раёне Вальбжыха (1990 – 91). Выдаў у Кракаве кнігі: "Аб сувязях і ўплывах транспарту на фармаванне цэнтраў гарадоў у ЗША" (1962), "Цэнтры польскіх гарадоў. Вывучэнне ўдасканалення і развіцця цэнтраў" (1971), "Форма і структура плана новай сталіцы Нігерыі" (1976), "Да праблемы аховы і ўдасканалення атачэння ў Польшчы" (1990), "Крыніцы паталагічнай урбанізацыі і экалагічнага крызісу Кракава" (1990), "Заходняя Афрыка. Атачэнне, культура, развіццё. З досведу праектавання гарадоў у Нігерыі" (1996).

Аляксандр Кольшка

# Лідскія ксяндзы ў студзеньскім паўстанні 1863 г.

Большасць ксяндзоў падтрымлівала паўстанне, многія прымалі удзел у яго арганізацыі. Актыўны іх удзел быў натуральным працягам удзелу ў маніфестацыях перад паўстаннем 1861 года і патрыятычных змовах. Святары адпраўлялі св. імшы за Айчыну, маліліся за забітых у маніфестацыях, з аказіі нацыянальных і патрыятычных гадавін. Такія маніфестацыі адбываліся ў Вільні і ў іншых парафіях дыяцэзіі.

Рэха паўстання хутка дайшло ў нашыя мясціны. Ужо ў першай палове лютага 1863 г. у Лідскім павеце дзейнічаў партызанскі аддзел Людвіка Нарбута, а найбольш напружаная барацьба паўстанцаў ў Беларусі і Літве назіраецца вясной. Удзел ксяндзоў у паўстанні ішоў у некалькіх кірунках: пастырская апека ў паўстанчых аддзелах (як капеланы), паўстанчая адміністрацыя, абвяшчэнне распараджэнняў паўстанчых уладаў, патрыятычныя казанні і праца на карысць паўстання сярод жыхароў, а таксама непасрэдны ўдзел у паўстанні са зброяй у руках.

Асаблівае значэнне мела пастырская апека ксяндзоў над аддзелам. Прысутнасць святара ў аддзеле падымала дух змагароў, часта яна надавала ўсяму руху рэлігійны характар, стараючыся давесці, што высілак і ахвяры недарэмныя. Паўстанцы яшчэ больш пераконваліся, што змагаюцца за слушную справу. Часцей за ўсё гэта былі святары, якія прыязджалі на якісьці час у аддзел і тады яны ажыццяўлялі святыя сакраманты, прымалі прысягі ў паўстанцаў, а таксама хавалі памерлых, забітых у сутычках. За святарскую паслугу паўстанцам ксяндзам прыйшлося заплаціць турмой, ссылкамі і не раз смерцю.

Не ўсе духоуныя асобы Віленскай дыяцэзіі падтрымлівалі паўстанне. Некаторыя былі настроены супраць яго, таму што не бачылі ў гэтай барацьбе шанцаў на перамогу. Былі і такія, якія выслужваліся перад царскімі ўладамі.

За ўдзел і ўсякую дапамогу паўстанцам царскія ўлады жорстка каралі людзей. Асабліва праславіўся ў гэтым плане генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў, які з траўня 1863 года да красавіка 1865 года люта душыў Літву і Беларусь. За сваю дзейнасць «по усмирению польского восстания» ён атрымаў мянушку «Вешальнік».

Бязлітасныя кары прымяняў ён і ў адносінах да духавенства: пакаранне смерцю, катарга, ссылка ў далёкія сібірскія губерні, пазбаўленне правоў, у тым ліку святарскай годнасці, канфіскацыя маёмасці, турмы і грашовае пакаранне.

У ліку першых пакаранне смерцю атрымаў ксёндз **Станіслаў Ішора**, вікары з парафіі ў Жалудку (Лідскі дэканат). 8 сакавіка 1863 года аддзел Нарбута прыбыў у Жалудок. Ксёндз прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест і згадзіўся быць капеланам. Калі пасадзілі ў турму пробашча, ксяндза Юзафа Ясінскага, вікары 6 лютага 1863 г. прыбыў у Ліду і па загаду каменданта горада палкоўніка Казаніна быў арыштаваны. Ксёндз Ішора сам здаўся ўладам, дамагаючыся вызвалення нявіннага пробашча. Ён быў асуджаны ў Вільні на 5 гадоў катаргі, нягледзячы на амністыю, тых, хто сам здасца ўладам. Генерал-губернатар Назімаў змякчыў пакаранне да 5 гадоў высылкі. На няшчасце, 26 траўня ў Вільню прыбыў новы генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў і замяніў прыгавор карай смерці. 3 чэрвеня (22.05) 1863 года ксёндз Ішора быў расстраляны на Лукішках, як першая ахвяра Мураўёва ў Вільні. Сведкі пакарання смерцю ўспаміналі, што святар звярнуўся да натоўпу з такімі словамі: «Трымацца і не падаць духам. Мы паміраем, а вам перадаём далейшыя лёсы Айчыны».

4 чэрвеня 1933 г. у касцёле св. Якуба ў Вільні была пасвенчана мемарыяльная дошка памяці ксяндза з такім надпісам: ***"S. p. ks. Stanislaw Iszora, urodzony w Wilnie 12 kw. 1838 r., wikarjusz w Zoludku, kaplan bohater za sprawe Kosciola i Narodu, stracony w Wilnie na Lukiszkach 3 czrw. 1863 r. Czesc jego pamieci."*** *("С. п. кс. Станіслаў Ішора, народжаны ў Вільні 12 крас. 1838 г., вікары ў Жалудку, каплан-герой за справу касцёла і народу, страчаны ў Вільні на Лукішках 3 чэрв. 1863 г. Слава яго памяці")*

Мураўёу замяніў таксама ксяндзу **Раймунду Зямацкаму**, пробашчу парафіі Ваверка (Лідскі дэканат) прыгавор, які асуджаў яго на цяжкія працы, смяротнай карай праз расстрэл. Гэты святар таксама прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест, быў арыштаваны 15 лютага 1863 г., высланы ў Ліду, адтуль у Вільню, дзе і быў расстраляны таксама на Лукішках праз два дні пасля ксяндза Ішоры, а таму 5 чэрвеня (24.05).

23 ліпеня 1933 г. на касцёле св. Рафала ў Вільні адкрыта памятная дошка памяці ксяндза: ***"S. P. Ks. Rajmund Ziemacki, ur. w Losku 19 wrzesnia 1810 r. Uczestnik powstania 1831 r. Wikarjusz parafji sw. Rafala w Wilnie, nastepnie proboszcz w Wawiorce, powiatu Lidzkiego, Kaplan-Bohater, zginal smiercia meczecska, rozstrzelany na placu Lukiskim w Wilnie 5 czerwca 1863 r."*** *("С. п. кс. Раймунд Зямацкагі, нар. у Лоску 19 верасня 1810 г. Удзельнік паўстання 1831 г. Вікары парафіі св. Рафала ў Вільні, пазней пробашч у Ваверцы, Лідскага павету, каплан-герой, загінуў смерцю пакутніка, расстраляны на пляцы Лукішкі ў Вільні 5 чэрвеня 1863 г.")*

Трэці святар **Адам Фалькоўскі**, пробашч Ішчолны, прачытаў паўстанчы маніфест і заклікаў сялян да паўстання. Арыштаваны 2 сакавіка 1863




**Мемарыяльная дошка на памяць трох расстраляных ксяндзоў Лідскага павету ўкапліцы Св.Барбары ў Лідзе, устаноўленая 13.07.2003 г.**
**На дошцы герб паўстання (арол, Пагоня і анёл з мячом), а таксама сімвал капланства (келіх і аплатка).**

**Надпіс на дошцы: *"Памяці ксяндвоў-пакутнікаў Лідчыны: кс Адам Фалькоўскі, пробашч парафіі ў Ішчолне, кс. Раймунд Зямацкі, пробашч парафіі ў Ваверцы, кс. Станіслаў Ішора, вікары парафіі ў Жалудку, якія былі замардаваныя царскімі ўладамі ў чэрвені 1863 г. у Лідзе і Вільні за ўдзел у студзеньскім паўстанні. Парафіяне. Жыхары Граева. Таварыства польскай культуры на Лідчыне. Чэрвень 2003 г."***

г. і высланы з Ліды ў Вільню. Ён быў расстраляны ў Лідзе 24 (13) чэрвеня. Так пра гэтую падзею піша ксёндз-дэкан Іпаліт Баярунец: *«У 6 гадзін раніцы ксёндз Адам Фалькоўскі ішоў на месца пакарання смерцю сканцэнтраваны і чытаў малітвы з трэбніка. Яго прывялі з лідскай турмы на месца, дзе быў выкапаны дол і падрыхтавана свежая вапна ў вялікай бочцы. Яму быў прачытаны прыгавор аб смерці, потым прывязалі да слупа і завязалі вочы.*

*Пачуўся залп з казацкіх карабінаў. Мёртвы ксёндз абвіс, потым расстралянага адвязалі і цела укінулі ў дол без труны і залілі вапнай. Магіла была закопана, эскадрон казакаў на конях зацёр усякі след магілы».*

*3 траўня 1919 года магіла была адноўлена, а чыгуначнікі паставілі на ёй крыж. Ў метрычнай кнізе Лідскай фары з 1 студзеня 1861 г. па 18 кастрычніка 1871 г. на старонцы 50 запісаны акт № 85: "1863 г. июня 13 дня в г. Лида скончался ксёндз Адам Фальковский, администратор ишчолнского костёла, был причащён св. таинством ксёндз Адам Фальковский, имевший от роду лет 51, настоятель Ишчолнского костёла. Тело его похоронено за г. Лидой при дороге до Крупы".*

Мураўёў хацеў стэрарызаваць святарства і грамадства. Можна дапусціць, што смерць гэтых святароў, асабліва двух першых, была помстай Мураўёва віленскаму біскупу за тое, што той не асудзіў паўстанцаў.

Да смерці прыгаварылі таксама ксяндза **Яна Кажанёўскага**, вікарыя з Новага Двара. Ён таксама прачытаў у касцёле паўстанчы маніфест. Генерал-губернатар Назімаў выступіў, аднак, да цара з просьбай аб замене пакарання смерцю і атрымаў дазвол на кару 12 гадоў катаргі ў шахтах і пазбаўленне духоўнай годнасці. Ксяндзу пашчасціла, што яго выслалі з Вільні ў Табольскую губернію перад прыездам Мураўёва.

Чарговы род рэпрэсій - гэга катарга, якая была тэрміновай і бестэрміновай. Страшнымі пакутамі катаржнікаў былі кайданы, з якімі асуджаныя вымушаны былі цяжка працаваць.

Апрача ўпамянутага ўжо ксяндза Кажанёўскага яго сусед, пробашч з парафіі Васілішкі ксёндз **Сырвід Ануфры**, быў пакараны за прачытанне маніфесту 12 гадамі катаргі ў шахтах Тамбоўскай губерніі (Антоні Гжымала-Пшыбытка ў "Ziemi Lidzkiej" № 1 за 1937 г. сцвярджае, што гэта менавіта ксёндз Сырвід быў памілаваны па просьбе жонкі губернатара Патапава, ў дзявоцтве княжны Абаленскай).

Ксяндза **Рамуальда Скібінскага**, пробашча парафіі Дзембрава, пакаралі васьмігадовай катаргай у сібірскіх фабрыках. Асуджаных на смерць ці на катаргу пазбаўлялі таксама святарскай годнасці.

Трэба тут успомніць таксама ксяндза **Юзафа Гарбачэўскага**, вікарыя з Эйшышак, які ваяваў у аддзеле Нарбута, і далейшы яго лёс цяжка прасачыць.

У рамках рэпрэсій пасля студзенскага паўстання на самой толькі лідскай зямлі трох святароў пакаралі смерцю, а чацвёртаму вырак смерці замянілі катаргай.




**Ускладанне кветак да магілы кс. Адама Фалькоўскага ў Лідзе 27.07.2003 г.**

**Валеры Сліўкін**

# Урбанонімы горада Ліды

## Лідскія гарадскія гадонімы і агаронімы (Назвы лідскіх вуліц і пляцаў)

У канцы 17-га стагоддзя горад Ліда меў цэнтральную плошчу - **Рынак**, побач **Школьны двор** і чатыры вуліцы: **Віленскую**, якая выходзіла на дарогу ў Вільню, **Замкавую**, якая пралягала ад Рынка да замка, **Каменскую**, якая пачыналася ад Замкавай і выходзіла на дарогу ў Горадню, і **Крывую**, якая злучала Рынак з Каменскай. Гэтыя лідскія вуліцы згадваюцца ў інвентары 1680 г. Віленская згадваецца ў 1674 г., Замкавая ў 1675 г. *(Wolyniak. Historia karmelitow lidzkich. // Ziemia Lidzka, 2001, № 44, s. 20).*



***Ліда. Вуліца Віленская.***

У канцы 18 стагоддзя за Фарным касцёлам з'явілася вул. **Дваровая (Дварцовая,** ад словаў ***двор*** або ***дварэц*** - *невялікі двор*).

**На 1839 год** Віленская і Замкавая вуліцы былі выбрукаваны. У жніўні 1842 г. пажар знішчыў Школьны двор, частку дамоў каля Рынка і ўсю Віленскую вуліцу.

У сярэдзіне 19-га стагоддзя паводле ўспамінаў Мірона-Браніслава Нарбута горад - гэта *"адна доўгая вуліца Віленская, якая праходзіла па ўсёй даўжыні горада на працягу вярсты. Папярок другая вуліца Каменка, па баках вуліцы кароткія:* ***Сянатарская*** *і Крывая і, нарэшце, Рынак".* Калі М.-Б. Нарбут правільна адлюстраваў сітуацыю, то гэта значыць, што цэнтр горада змясціўся ў бок замка, а вул. Віленская падоўжылася за кошт Замкавай. **На 1892 г.** Рынак пачаў называцца **Базарнай плошчай,** тут штотыднёва адбываўся гандаль, на які збіраліся сотні сялянскіх падводаў з усёй акругі. Да Базарнай плошчы прымыкаў нанава адбудаваны пасля пажару 1891 года Школьны двор з яўрэйскімі навучальнымі ўстановамі - тут размяшчаліся сінагога, хедар, яўрэйскія рамесныя школы, пазней і ешыбот. Да ранейшых вуліц: Віленскай, Дварцовай, Замкавай, Каменскай і Крывой дадалася **Аляксандраўская,** з'явілася 9 завулкаў: **Завальны, Лідскі, Камерцыйны, Паліцэйскі, Садовы, Шкляны, Гандлёвы, Школьны** і **Яраслаўскі**. Вызначаны будучыя мікрараёны: Ферма, Выган і Зарэчча. У мікрараёне Ферма яшчэ няма ні аднаго дома, але вуліцы ўжо абазначаны. Знікла Сянатарская вуліца, пра якую пісаў М.-Б. Нарбут.

**Праз 10 гадоў, на 1903 г.** у Лідзе 14 вуліц: Аляксандраўская, Віленская, Дваранская, Замкавая, Каменская, **Камерцыйная**, Крывая, **Лідская**, **Паліцэйская**, Пастаўская, **Садовая**, Сядлецкая, **Шкляная**, **Гандлёвая** і 10 завулкаў **Аляксандраўскі,** Завальны, **Замкавы**, Лідскі, **Чырвоны**, **Крупскі**, **Міхайлаўскі**, Гандлёвы, Школьны і Яраслаўскі; дзве плошчы: Базарная і Школьны двор. 1000 жылых пабудоваў, з іх 275 мураваных і 725 драўляных.

**У 1906 г.** з'явіліся дзве новыя вуліцы: **Вакзальная** і **Школьная** і два завулкі: **Моргаўскі** і **Сянны**. Перад Першай сусветнай вайной, у 1913 г. у Лідзе 17 вуліц і 11 завулкаў; дадалася **Крупская** вуліца, якая вырасла з Крупскага завулка.

У імперскі час (да 1915 г.) назвы вуліц мянялі вельмі рэдка. Адзіны вядомы выпадак: вул. **Паштовая** ў 1892 г. стала Паліцэйскай. Назвы вуліц дзеляцца на чатыры групы: па назвах гарадоў і вёсак - Віленская, Лідская, Пастаўская, Сядлецкая, Крупская, завулкі: Лідскі і Яраслаўскі; па сацыяльнай прыналежнасці - Дваранская, Камерцыйная, Гандлёвая, завулак - Гандлёвы. Па размяшчэнні каля замка - вуліца Замкавая і завулак Замкавы, каля пошты - Паштовая, каля паліцэйскага ведамства - Паліцэйская, каля Школьнага двара - Школьная і зав. Школьны, перасякае р. Каменку - Каменская, з садамі - Садовая. Паводле выгляду - Крывая і зав. Чырвоны. Імянныя: Аляксандраўская вуліца, Аляксандраўскі і Міхайлаўскі завулкі. Няма яснасці з назвамі вул. **Шкляная** і зав. **Завальны**.



***Ліда. Вуліца Каменская.***

**Летам 1925 г.** паводле ўспамінаў Ежы Путрамента *"у цэнтры горада... з галоўнай вуліцай Сувальскай злучаецца другая - 3 Траўня... Паўднёвы канец меў сваё безымяннае прадмесце, раскіданае*



*Ліда. Вуліца Замкавая.*

*сярод некалькіх вулачак... У сярэдзіне было яшчэ некалькіх вуліц: невялікіх, вельмі брудных і бедных, дзе жылі толькі яўрэі".* Следам за ім тое ж паўтарае Януш Майснер: *"... заняпалае павятовае мястэчка з пераважна бедным яўрэйскім насельніцтвам, з адным гатэлем, з Вінаградавым рэстаранам, з Абывацельскім клубам, з рынкам у балоце і некалькімі брукаванымі цэлым каменем вуліцамі, якія рабіліся "гандлёвымі цэнтрамі", атачонымі напалову вузкімі прадмесцямі..." (Meissner J. Wiatr w podeszwach. // Warczawa. 1976. S. 38).*

**У 30-я годы** горад актыўна забудоўваўся, з'явіліся дзесяткі новых вуліц на Слабадзе, на Кашарах, Песках, на Выгане, на Зарэччы. **У канцы 1938 года** ў горадзе 110 вуліц: ***11-га лістапада, Акопы, Алея Самаабароны, Балотная, Баравая, Бары, Белагрудская, Бярозавая, Варшаўская,*** Віленская, ***Вішнёвая, Воўчая, Вузкая, Вызвалення, Вясёлая, Вясковая*** *(Wiejska)*, Гандлёвая, ***Гарнянская, Гарыстая, Гедзімінаўская, Гражыны, 29 студзеня, Домб-Бярнацкага (да 1937 г. Маладварцовая), Дубовая, Доўгая, Дзяканка або Касцёльная, Яловая, Жалезная, Жалігоўскага, Жаромскага, Жвіркі, Жураўліная, Жырмунская, Завальная, Закрытая,*** Замкавая, ***Ёселевіча, Казармавая*** *(Koszarowa)*, Камерцыйная, ***Касцюшкі, Каханне*** *(Milosna)*, ***Каштанавая, Кветкавая, Кілінскага, Легіёнавая, Лётная,*** Лідская, ***Ліпавая, Маладзечанская, Мацкевіча, Маргі, Мастоўская, Міцкевіча, Могілкавая*** *(Ctentarna)*, ***Мянніцкага, Навасельская*** *(Nowowejska)*, ***Навінка, Нарбута, Нарутовіча, Новая, Няпоўная, Орліч-Дрэшара, Пагулянка, Пажарная*** *(Strazacka)*, ***Палеская, Палявая,*** Пастаўская, ***Пераца, 1-га траўня, Пілсудскага, Прыгожая*** *(Hoza)*, ***Птушыная, Пярацкага, Радуньская, Райнеса, Раиская, Раслякі, Рачная, Рыдз-Сміглага,*** Садовая, ***Сакаліная, Са-сновая, Скарупкі, Сойкішкі, Стругі, Сувальская (Сувальскага Палка), Сукурчэўская, Супольная, Сыракомлі,*** Сядлецкая, ***17-га красавіка, Тапаліная, Тартакі, 3-га траўня, Турэцкая, Фабрычная, Фалькоўскага, Халодная, Цёплая, Ціхая, Чыгуначная*** *(Kolejowa)*, ***Чырвоная, Шавецкая, Шаптыцкага,*** Шкляная, Школьная, ***Шпітальная, Шырокая, Эйшышская, Ясная***.



*Ліда. Вуліца 3-га траўня.*

З дарэвалюцыйных засталіся 11 назваў: Віленская, Гандлёвая, Замкавая, Камерцыйная, Крупская, Лідская, Пастаўская, Садовая, Сядлецкая, Шкляная, Школьная. Завулкі Завальны, Моргаўскі, Чырвоны сталі вуліцамі. Аляксандраўская, Дваранская, Каменская, Паліцэйская вуліцы і сем завулкаў: Аляксандраўскі, Гандлёвы, Замкавы, Лідскі, Крупскі, Міхайлаўскі, Школьны, Яраслаўскі былі перайменаваны. Колішняя Віленская пачала называцца вуліцай імя **Сувальскага Палка**, у прастамоўі **Сувальскай**, Каменская стала вуліцай **3 траўня**, Крывая - вуліцай **імя Мацкевіча.**



*Ліда. Вуліца Фалькоўскага.*

Новым вуліцам гарадскія ўлады давалі польскія назвы. З'явіліся 24 імянныя вуліцы: **Гедзімінаўская, Гражыны, Домб-Бярнацкага, Жалігоўскага, Жаромскага, Жвіркі, Ёселевіча, Касцюшкі, Кілінскага, Мацкевіча, Міцкевіча, Мянніцкага, Нарбута, Нарутовіча, Орліч-Дрэшара, Пераца, Пілсудскага, Пярацкага, Райнеса, Рыдз-Сміглага, Скарупкі, Сыракомлі, Фалькоўскага, Шаптыцкага.** Вялікі князь Гедзімін (к. 1275 - 1341). Начальнік дзяржавы Пілсудскі Юзаф (1867 - 1935). Прэзідэнт Нарутовіч Габрыель (1865 - 1922). Маршал Рыдз-Сміглы Эдвард (1886 - 1941). Пяць генералаў: Касцюшка Тадэвуш (1746 - 1817), Жалігоўскі Люцыян (1865 - 1947), Шаптыцкі Станіслаў Мар'ян (1867 - 1950), Дрэшар (псеўданім Орліч) Густаў (1889 - 1936), Домб-Бярнацкі Стэфан (1890 - ?). Палкоўнікі: Кілінскі Ян (1760 - 1819) і Перацкі Браніслаў (1895 - 1934). Капітаны Жвірко Францішак (1895 - 1932) і Мянніцкі Пётр (1892-1919). Кіраўнік паўстання ў Лідскім павеце Нарбут Людвік Тодаравіч (1832 - 63). Чатыры святары: Мацкевіч Антон (1828 - 63), Райнес Ісак Якаў (1839 - 1915), Скарупка і Фалькоўскі Адам (1812 - 1863). Чацвёра літаратараў: Міцкевіч Адам (1798 - 1855), Сыракомля Уладзіслаў (1823 - 62), Перац Іцхак (1851 - 1915), Жаромскі Стэфан (1864 - 1925), Ёсялевіч Берка. Паэтычная гераіня Гражына.

Да Рынка і Школьнага двара дадалася плошча **Славы (Chwaly)** на перасячэнні Замкавай і Сувальскай. Поблізу скрыжавання вуліц Суваль-

скай і 3-га траўня аформіўся невялікі сквер **Збаўцы (Zbawiciela)**. Горад набыў польскі выгляд.

**9 студзеня 1940 г.** савецкія ўлады, што прыбылі з Усходняй Беларусі, прынялі пастанову "Аб перайменаванні вуліц горада" і напалову перапрацавалі спіс вуліц. Былыя назвы захавалі 56 гарадскіх вуліц (*).

**У лютым 1940 г.** у Лідзе - 113 вуліц: Алея Самаабароны*, Асавіяхімаўская (б. Акопы), Асіпенка (б. Боры), Астроўскага М. (б. Шаптыцкага), ***Базарная***, Балотная*, Бальніч-ная* (б. Шпітальная), Баравая*, Баранавіцкая (б. Цёплая), Белагрудская*, Беларуская (б. Пярацкага і Фалькоўскага), Бярозавая*, Варшаўская*, Вішнёвая*, 8 сакавіка (б. Крупская), Вузкая*, Гандлёвая*, Гарыстая*, Гарнянская*, Гогаля (б. Кілінскага), Гомельская (б. Халодная), Горкага (б. Райская), Доўгая*, Дубовая*, 9-га студзеня (б. 29-га студзеня), Дзяржынскага (б. Жалігоўскага), Жалезная*, Жаромскага*, Жураўліная*, Жырмунская*, Завальная*, Загародняя (б. Птушыная), Закрытая*, Замкавая*, ***Інтэрнацыянальная***, Кааператыўная (б. Эйшышская), Камерцыйная*, Камсамольская (б. Мацкевіча), Камунальная (б. Нарутовіча), Камуністычная (б. Орліч-Дрэшара), Катоўскага (б. Няпоўная), Каштанавая*, Кветкавая*, Кірава 1-ая (б. Школьная), Кірава 2-ая (б. Школьная), Крупская*, Крупскай (б. ксендза Скарупкі), Куйбышава (б. Рыдз-Сміглага), Кулямётная (б. Легіёнвая), Ламаносава (б. Касцюшкі), Ленінская (б. 3-га траўня), Лесазаводская* (б. Тартакі), Лётная*, Лідская*, Ліпавая*, Люксембург (б. Могілкавая), Лясная (б. Сукурчэўская), Маладзечанская*, Малапажарная, Малая (б. Турэцкая), Малая Дварцовая (б. Домб-Бярнацкага), ***Маскоўская***, Маякоўскага (б. Кахання), Мінская (б. Райнеса), Міцкевіча*, Мопраўская (б. Сыракомлі), Навасельская*, Навінка*, Новая*, Някрасава (б. Жвіркі), Пагулянка*, Пажарная*, Палявая*, Папаніна (частка б. Пастаўскай), Пастаўская*, Пасялковая (б. Маргі), Пераца*, ***Пескі***, 1-га траўня*, Піянерская (б. Нарбута, б. Сядлецкая), Пушкінская (б. Гедзімінаўская), Радуньская*, Расляќі*, Рачная*, Савецкая (б. Сувальская), Садовая*, Сакаліная (б. Воўчая), Сасновая*, Спартыўная (б. Сакаліная), Свярдлоўская (б. Віленская), Сельская, 7-га лістапада (б. 11-га лістапада), Стругі*, 17-га верасня (б. 17-га красавіка), Танкавая (б. Мянніцкага), Тапаліная*, Фабрычная*, Фрунзе (б. Пастаўская), Хасанская (б. Сойкішкі), Ціхая*, Чапаева (б. Пілсудскага), Чарнышэўскага (б. Мастоўская), Чкалава (б. Прыгожая), Чыгуначная*, Чырвонаармейская (б. Казармавая), Чырвонагвардзейская (б. Супольная), Чырвоная*, Шалом-Алейхема (б. Ёсялевіча), Шаўчэнкі (б. Шавецкая), Шкляная*, Шчорса (б. Навасельская), Шырокая*, Энгельса (б. Гражыны), Яловая*, Ясная*.

Была перайменавана 21 імянная вуліца з 24. Толькі Жаромскі, Перац і Міцкевіч былі прызнаны сацыяльна блізкімі для новай улады. Зніклі вуліцы Вясёлая, Дзяканка, Палеская.

**У 1941 г.** нямецкія акупацыйныя ўлады ўвялі свае назвы вуліц. Вуліца Фалькоўскага называлася ***Скарынаштрасэ***, вул Ленінская - ***Танэнбергштрасэ***. Нямецкія назвы ў памяці не замацаваліся, падчас вайны вуліцы ў побытавых размовах называліся так, як іх называлі да 1939 года.

**У ліпені 1944 г.** вуліцам вернуты ранейшыя савецкія назвы.

15 жніўня 1944 г. па просьбе прадстаўнікоў 86-га Лідскага кавалерыйскага палка 32-й Смаленскай кавалерыйскай дывізіі выканкам Лідскага гарадскога савету пастанавіў дзеля ўвекавечвання памяці камандзіра 86-га палка гвардыі падпалкоўніка Труханава А. Ф., які вызваляў Ліду, перайменаваць вул. Чыгуначную ў вул. ***Труханава*** *(ЗГА у г. Ліда. Ф. 55, воп.1, с. 4, а. 36).*

**30 кастрычніка 1945 г.** выканкам перайменаваў вуліцу Гарнянскую ў вуліцу ***Ракасоўскага***, вуліцу Каштанавую ў вуліцу ***Жукава***, вуліцу Камунальную ў вуліцу ***Чарняхоўскага***, вуліцу Пасялковую ў вуліцу ***Пакрышкіна***, вуліцу Пагулянка ў вуліцу ***Зоі Касмадзям'янскай***, вуліцу Шкляную ў вуліцу ***Янкі Купалы*** *(ЗГА у г. Ліда. Ф. 55, воп. 1, с. 10, а. 87).*

**У снежні 1945 г.** у Лідзе 107 вуліц.

У параўнанне з 1940 г. зніклі 11 вуліц: Базарная, Балотная, Інтэрнацыянальная, Чырвоная, Маскоўская, Някрасава, Навінка, Папаніна, Пескі, Пастаўская, Садовая. З'явілася 3 новых: **Вясенняя, Самаабароны, Талстога.** Хасанская стала **Хасанаўскай**, 1-ая і 2-ая Кірава аб'яднаныя ў **Кірава**, Малая Дварцовая стала **Малачыгуначнай**, Пушкінская - Замкавай, Чыгуначная - Труханава, Камунальная - Чарняхоўскага, Гарнянскага - Ракасоўскага, Каштанавая - Жукава, Пасялковая - Пакрышкіна, Пагулянка - Касмадзям'янскай, Шкляная - Янкі Купалы, Беларуская - Перамогі.

5 кастрычніка 1948 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову "Аб праве грамадзян на будаўніцтва і пакупку індывідуальных жылых дамоў". Грамадзяне неадкладна ўзяліся ажыццяўляць сваё права, улады стараліся гэтае права абмежаваць. Каб атрымаць участак плошчай 6 сотак трэба было сабраць ад 6 да 8 дакументаў: даведку з месца працы, хадайніцтва ад дырэкцыі і прафсаюзнай арганізацыі, даведку з месца жыхарства, даведку з БТІ аб адсутнасці ўласнага жылля, даведку з сельсавета аб адсутнасці сувязі з калгасам; напісаць падрабязную аўтабіяграфію, запоўніць анкету забудоўшчыка. Пры гэтым дакументы трэба было аформіць на працягу аднаго месяца і прыступіць да забудовы на працягу двух месяцаў. Адмаўлялі па мноству прычын: нядаўна жыве ў горадзе, мае хату на вёсцы, працуе на заводзе і можа атрымаць дзяржаўную кватэру, самавольна пакінуў калгас, адзіночка, быў асуджаны і д. п. Дазволы на будаўніцтва пачалі выдаваць з 1950 г., за пяцігодку маленькімі прыватнымі домікамі былі забудаваны Расляќі, Кашары, Слабада, Зарэчча, Пескі. З'явіліся дзясяткі новых кароценькіх вулачак і завулкаў.

На Расляках з'явіліся вуліцы імя ***Будзённага, Мічурына, Паўлава, Пушкіна, Палзунова, Сечанава, Саўгасная, Хмяльніцкага***, завулак ***Лідскі***. На Кашарах - вуліцы: імя ***Лазо, Кашавога, Разіна, Мечнікава, Серафімовіча, Сталінградская***. Паблізу шпіталя - ***Бялінскага, Філатава, Мінская, Нёманская, Шчарбакова, Цэткін, Вышынскага, Говарава, Чалюскінцаў, Кастрычніцкая, Сацыялістычная.*** На

Слабадзе - ***Дзекабрыстаў, Дундзіча, Молатава, Радзішчава, Рылеева, Пралетарская, Ціміразева, Ульянавых, Ушакова,*** зав. ***Жукава***. На Вісмантах - вул. ***Глінкі, Данскога Д., Жукоўскага, Лібкнехта, Мендзялеева, Някрасава, Пугачова***. На Зарэччы - вул. ***Кутузава, Баўмана, Жданава, Беларуская, Рэпіна, Партызанская***. Каля бальніцы - імя ***Балотнікава***. Каля Паўднёвага гарадка - імя ***Сярова***, на Сойкішках - вул. ***Малахасаўская***.

**26 траўня 1955 года** гарвыканкам зацвердзіў спіс гарадскіх вуліц. У спісе 148 вуліц і 15 завулкаў. 105 з іх імянныя: Айвазоўскага, Асавіяхімаўская, Асіпенка, Астроўскага, Балотнікава, Бальнічная, Баранавіцкая, Баўмана, Белагрудская, Беларуская, Будзённага, Бялінскага, Варашылава, Варшаўская, 8 сакавіка, Вышынскага, Гарыстая, Гастэла, Герцана, Глінкі, Говарава, Гогаля, Гомельская, Горкага, Дабралюбава, Даватара, Дакучаева, Данскога, Дзекабрыстаў, 9-га студзеня, Дзяржынскага, Дзімітрова, Дундзіча, Жданава, Жукава, Жукоўскага, Загарадная, Замкавая, Заслонава, Кааператыўная, Калгасная, Камсамольская, Камуністыч-ная, Калініна, Кастрычніцкая, Касцюшкі, Катоўскага, Кашавога, Кірава, Крупскай, Крылова, Куйбышава, Кулямётная, Купалы, Кутузава, Лазо, Ламаносава, Леніна, Лермантава, Лесазаводская, Лётная, Лібкнехта, Лідская, Люксембург, Маладзечанская, Малахасанаўская, Маркса, Матросава, Маякоўскага, Мендзялеева, Мечнікава, Мінская, Міцкевіча, Мічурына, Молатава, Мопраўская, Мянжынскага, Навасельская, Нёманская, Нахімава, Неўскага, Някрасава, Пакрышкіна, Палзунова, Папова, Партызанская, Пархоменкі, Паўлава, 1-га траўня, Перамогі, Пераца, Піянерская, Пралетарская, Пугачова, Пушкіна, Радзішчава, Радуньская, Разіна, Ракасоўскага, Расляке, Рачная, Рылеева, Рэвалюцыйная, Рэпіна, Савецкая, Саўгасная, Сацыялістычная, Свярдлова, 7-га лістапада, Серафімовіча, Сечанава, Спартыўная, Сталінградская, Сядова, Сярова, Талстога, Танкавая, Труханава, Тургенева, Тэльмана, Ульянавых, Ушакова, Фабрычная, Філатава, Франко, Фрунзе, Фурманава, Хасанаўская, Хмяльніцкага, Ціміразева, Цэткін, Чайкінай, Чайкоўскага, Чалюскінцаў, Чапаева, Чарнышэўскага, Чарняхоўскага, Чкалава, Чырвонаармейская, Чырвонагвардзейская, Шалом-Алейхема, Шастаковіча, Шаўчэнкі, Шолахава, Шчарбакова, Шчорса, Энгельса, Ясная.

**Завулкі:** Гастэла, Гомельскі, Дабралюбава, Жукава, Калініна, Камуністычны, Крупскай, Лётны, Лідскі, Сельскі, Спартыўны, Фурманава, Чайкоўскага, Чырвонаармейскі, Энгельса. *(Ф. 55, воп. 1, с. 396, а.124-127).*

Са спісу 1945 г. зніклі вуліцы: Вясенняя, Гандлёвая, Жалезная, Жаромскага, Касмадзям'янскай, Крупская, Малая, Самаабароны.

Алея Самаабароны стала вул. **імя Молатава**, Бярозавая - **Пралетарскай і Дзімітрава**, Баравая - **Рэвалюцыйнай**, Вішнёвая - **імя Матросава**, Воўчая - **імя Тэльмана**, паўночна-заходні адрэзак вул. імя 8-га сакавіка - **імя Гастэла**, Дубовая - **зав. Маркса**, Доўгая - **імя Талстога Л.**, Яловая стала **імя Чайкінай**, Жураўліная - **імя Дакучаева**, **Мянжынскага** і **Франко**, Жырмунская - **імя Турге-нева**, Завальная - **імя Ламаносава**, Закрытая - **зав. Спартыўным,** зах. адрэзак Кірава - вул. **імя Неўскага і Балотнікава**, паўн. адрэзак Куйбышава - вул. **імя Сядова і Крылова**, Лясная - **імя Шастаковіча**, Ліпавая - **імя Айвазоўскага**, Малая Чыгуначная - **Маладварцовай**, затым **імя Варашылава**, Малапажарная - зав. **імя Чайкоўскага**, паўн. адрэзак імя Маякоўскага - **імя Дабралюбава**, Пажарная - **імя Чайкоўскага**, Палявая - **імя Маркса К.**, паўн.-усх. адрэзак Кулямётнай - **зав. імя Энгельса**, Пушкінская - **Замкавай**, а былая Замкавая адышла да вул. **Энгельса**, 17 верасня - **Камсамольскай**, Сакаліная - **Зайцавай**, Сасновая - **імя Заслонава**, Стругі - **Калгаснай**, Сельская - **зав. Сельскім**, Свярдлоўская - **імя Свердлова**, Ціхая - **імя Нахімава**, Тапаліная - **імя Доватара**, Вузкая – **зав. Лермантава**, Кветкавая - **імя Фурманава**, Шырокая - **імя Шаўчэнкі**.

Назвы вуліц Беларускай і Някрасава змясціліся на іншыя вуліцы, частка вул. Горкага стала **імя Пархоменкі**, частка вул. імя Люксембург стала вул. **імя Герцана**, вул. імя Крупскай стала **зав. імя Крупскай,** частка вул. імя Калініна стала вул. **імя Касцюшкі і зав. імя Дабралюбава.**

Заўважым, што сярод соцень чыста "савецкіх і рэвалюцыйных" вуліц у Лідзе ні разу не з'яўлялася вуліца імя Сталіна.

**12 красавіка 1956 г.** гарвыканкам, разглядзеўшы схему планіроўкі кварталаў № 31 і48, вырашыў узніклыя праезды назваць: **вул. Ватуціна, вул. Лабачэўскага, зав. М. Горкага, зав. Саўгасны, зав. Сечанава 1-шы, Счанава 2-гі, зав. Куйбышава.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 402, а. 218.)*

**7 чэрвеня 1956 г.** пры зацверджанні схемы планіроўкі квартала № 116 пад індывідуальна-жыллёвае будаўніцтва ўзніклы праезд назвалі **зав. Дзяржынскага.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 403, а. 136.)*

**27 снежня 1956 г.** у сувязі з планіроўкай 146 квартала ўтвораныя праезды вырашылі іменаваць: **вул. Усходняя і Якуба Коласа, зав. Энгельса 1-шы і 2-гі**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 405, а. 185.)*

**7 лютага 1957 г.** пры зацверджанні схемы планіроўкі для індывідуальнай забудовы ў квартале № 115 прынята рашэнне ўтвораныя праезды іменаваць **вул. Пляханава і Арджанікідзэ, зав. Пляханава 1-шы, 2-гі, 3-ці, Першамайскі 1-шы, 2-гі, Маркса 3-ці, Навагодні, Новы.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 414, а. 129.)*

**24 кастрычніка 1957 г.** у адпаведнасці з указам Прэзідыума ВС СССР ад 11.09.1957 г. "Аб упарадачанні справы прысваення імён дзяржаўных і грамадскіх дзеячоў краям, абласцям, раёнам, а таксама гарадам і іншым населеным пунктам, прадпрыемствам, калгасам, установам" выканкам гарсавету перайменаваў вул. імя Будзённага ў **зав. Саўгасны,** вул. імя Варашылава ў **вул. Маладварцовую**, вул. Жукава ў вул. **імя Паўліка Марозава**, вул. імя Молатава ў вул. **Чыгуначную**, завул. імя Молатава ў **зав. Чыгуначны**, вул. імя Пакрышкіна ў вул. **імя Суворава**, вул. імя Ракасоўскага ў **вул. Інтэрнацыянальную**, вул. імя Шолахава ў **вул. Вясеннюю**, вул. імя Шастаковіча ў вул. **імя Багратыёна**. Нанава ўзнікшым праездам былі прысвоены наступныя найменні: праезд паміж вуліцамі Савецкая і Гомельская стаў **вул. Заводскай**, праезд ад вул. Калініна ўлева - **1-шы завулак Калініна**, а існаму завулку імя Калініна - **2-гі завулак Калініна.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 417, а. 54.)*

**12 снежня 1957 г.** гарвыканкам прыняў рашэнне назваць вуліцу паралельную чыгуначнаму палатну: **1-ая Хасанаўская**, вуліцу якая праходзіць ззаду за ёй - **2-ая Хасанаўская**, перайменаваць 1-шы зав. Энгельса ў **2-гі зав. Энгельса,** а 2-гі зав. Энгельса - **у 3-ці**, 2-гі зав. Маркса - у **3-ці.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 417, а. 165.)*

**22 траўня 1958 г.** з мэтамі ўпарадкавання найменняў вуліц у горадзе ў сувязі з падрыхтоўкай да Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва выканкам вырашыў нанава створанаму праезду ад вул. Чарняхоўскага да тэрыторыі гарпаліва прысвоіць назву **"зав. Чарняхоўскага"**, праезд паміж вул. Свярдлова і Калгаснай, каля будынка 5-й школы назваць **вул. Каперніка**, праезд з вул. Гастэла на вул. Багратыёна, памылкова названы вул. Багратыёна, перайменаваць у **вул. Касмадзям'янскай З.**, праезд з вул. Крупскай да вул. Неўскага, які раней называўся вул. Куйбышава М., перайменаваць у **вул. 4-я Куйбышава**, праезд, які ўтварыўся паралельна назваць **вул. 3-я Куйбышава**, праезд, які забудоўваўся паралельна вул. Куйбышава, назваць **2-я Куйбышава**. Завулак Гомельскі перайменаваць у **вул. Паўночную**. Перайменаваць пачатак завулка Лідскага і 1-шы Саўгасны завулак у **вул. Паўзунова**. Перайменаваць 1-шы завулак Першамайскі ў **вул. Камунараў**, 1-шы, 2-гі і 3-ці зав. Пляханава ў **1-шы, 2-гі і 3-ці зав. Камунараў**. 2-гі Першамайскі зав. перайменаваць у **1-шы зав. Пляханава**, 2-гі і 3-ці зав. Арджанікідзэ - **у 2-гі і 3-ці зав. Пляханава**, перайменаваць зав. Заслонава ў **вул. Пляханава**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 426, а. 116-117).*

Пасля завяршэння будаўніцтва Дома афіцэраў (1958) і ўстаноўкі помніка Леніну (31.12.1958 г.) на месцы Рынка (Базарнай плошчы) аформілася плошча, якую ў пачатку 60-х гадоў без нейкіх асаблівых пастановаў пачалі называць **плошчай Леніна.**

**11 красавіка 1963 г.,** улічваючы шматлікія просьбы і пажаданні грамадзян горада аб увекавечванні памяці таленавітага беларускага паэта і мужнага рэвалюцыянера, які доўгі час жыў і працаваў у Лідзе, выканкам гарсавету перайменаваў вуліцу Лідскую ў вуліцу **імя Валянціна Таўлая**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 489, а. 254.)*

**11 чэрвеня 1964 г.** у сувязі з20-годдзем вызвалення Ліды ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў выканкам гарсавету перайменаваў вуліцу Танкавую ў вуліцу **імя Радзюка** Трафіма Сямёнавіча, першага сакратара гаркама, члена ЦК КПБ, а вуліцу Кулямётную ў вул. **імя Клімко** Аляксандра Аляксандравіча, падпольшчыка.

**15 красавіка 1965 г.** выканкам прысвоіў назву Пясчанай вуліцы, што забудоўвалася паралельна **вул. Загараднай**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 518, а. 69.)*

**31 траўня 1965 г**. вул. Саўгасная перайменавана ў **вул. імя Ігнатава** Міхаіла Мікалаевіча, кіраўніка групы падпольшчыкаў у г. Ліда, вул. Спартыўная - у **вул. Шубіна** Васіля Іванавіча, нам. камандзіра партызанскай брыгады імя Кірава, вул. Белагрудская - у **вул. Выдайкі** Мікалая Фёдаравіча, гвардыі маёра 3-га гвардзейскага кавкорпуса, вул. Шпітальная - у **вул. імя Арцёменкі** Мікалая Прохаравіча, гвардыі лейтэнанта 3-га гвардзейскага кавкорпуса, які загінуў пры вызваленні г. Ліды. *(Ф. 55, воп. 1, с. 519, а. 4.)*

**23 лістапада 1967 г**. выканкам, улічваючы просьбу аддзела міліцыі, перайменаваў вул. Паўночную ў **вул. імя** летэнанта міліцыі **Грыцкевіча** Ціхана Васільевіча і згадзіўся з прапановай аддзела КДБ паварот да Паўднёвага гарадка назваць **вул. імя Наскова** Івана Міхайлавіча, былога супрацоўніка лідскага КДБ, які геройскі загінуў 15 снежня 1948 г. *(Ф. 55, воп. 1, с. 549, а. 71 і 74).* У той жа дзень вуліца Дабралюбава была перайменавана ў **вул. імя Лупава** Уладзіміра Васільевіча.

**27 чэрвеня 1968 г**. выканкам праезду, які ўтварыўся за вул. Рачной, прысвоіў найменне **"2-гі завулак Свярдлова"**, далучанаму да гарадской рысы праезду ў раёне міжкалгасбуду даў найменне **"вул. Паўночная"**.

**12 снежня 1968 г.** атрымалі найменне **вул. 2-ая Даватара, завулкі Заслонава, Кутузава, Ленінскі, Маскоўскі, 2-гі Лётны, і 2-гі Горкага.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 562, а. 65, 67.)*

**10 ліпеня 1969 г.** выканкам гарсавету, падтрымліваючы хадайніцтва рэспубліканскіх арганізацый і Ўсесаюзнага юбілейнага камітэту, вырашыў прысвоіць **імя** класіка ўкраінскай літаратуры **І. П. Катлярэўскага**, быццам бы праходзіўшага службу ў Лідзе ў Пскоўскім палку ў 1807 - 08 гг. (чаго на самай справе ніколі не было) былой 4-й Куйбышаўскай вуліцы. *(Ф. 55, воп. 1, с. 575, а. 156.)*

**7 траўня 1970 г.** агульнай пастановай бюро Лідскага гаркаму КПБ і выканкаму гарсавету для адзначэння 25-й гадавіны перамогі савецкага народа ў ВАВ вуліца Гарыстая была перайменавана ў **вул. імя А. Я. Стралкоўскага**, чакіста, актыўнага ўдзельніка Айчыннай вайны і станаўлення савецкай улады на Лідчыне, які загінуў 26 жніўня 1953 г. *(Ф. 55, воп. 1, с. 605, а. 205.)*

**У 1971 г. у горадзе 184 вуліцы і 54 завулкі.**

**Вуліцы:** Авіяцыйная, Айвазоўскага, Арджанікідзэ, Асавіяхімаўская, Асіпенка, Аслікоўскага, Астроўскага, Артылерыйская, Арцёменкі, Багратыёна, Балотнікава, Бальнічная, Баранавіцкая, Баўмана, Беларуская, Бялінскага, Валгаградская, Варшаўская, Ватуціна, Вільнюсская 1-ая, Вільнюсская 2-ая, 8 сакавіка, Выдайкі, Вышынскага, Вясенняя, Гагарына, Гастэла, Герцана, Глінкі, Говарава, Гогаля, Гомельская, Горкага, Грыбаедава, Грыцкевіча, Дабралюбава, Даватара, Дакучаева, Данскога, Дастаеўскага, Дзекабрыстаў, Дзімітрова, Дзяржынскага, Дундзіча, Жданава, Жукоўскага, Заводская, Заводская 1-ая, Загарадная, Замкавая, Заслонава, Ігнатава, Інтарнацыянальная, Кааператыўная, Калгасная, Калініна, Камсамольская, Камунараў, Камуністычная, Каперніка, Касмадзям'янскай, Кастрычніцкая, Касцюшкі, Катлярэўскага, Катоўскага, Кашавога, Кіеўская, Кірава, Клімко, Крупскай, Крылова, Куйбышава, Купалы, Кутузава, Лабачэўскага, Лазо, Ламаносава, Ленінградская, Ленінская, Лермантава, Лесазаводская, Лётная, Лібкнехта, Лупава, Люксембург, Маладзёжная, Маладзечанская, Малахасанаўская, Маркса, Марозава, Маскоўская 1-ая, Маскоўская 2-ая, Маскоўская 3-яя, Маскоўская 4-ая, Матросава, Маякоўскага, Мендзялеева, Мечнікава, Мінская, Міцкевіча, Мічурына, Мопраўская, Мянжынс-

кага, Мясьнікова, Навапрудская 1-ая, Навапрудская 2-ая, Навасельская, Наскова, Нахімава, Нёманская, Неўскага, Някрасава, Палявая, Папова, Партызанская, Пархоменкі, Паўзунова, Паўлава, Паўночная, 1-га траўня, Пераца, Піянерская, Пляханава, Перамогі, Пралетарская, Пугачова, Пушкіна, Пясчаная, 5-га снежня, Радзішчава, Радуньская, Радзюка, Разіна, Рачная, Рылеева, Рэвалюцыйная, Рэпіна, Савецкая, Сацыялістычная, Свярдлова, 7-га лістапада, Серафімовіча, Сечанава, Стралкоўскага, Суворава, Сядова, Сярова, Талстога, Таўлая, Транспартная, Труханава, Тургенева, Тэльмана, Ульянавых, Усходняя, Ушакова, Фабрычная, Філатава, Франко, Фрунзе, Фурманава, Хасанаўская 1-ая, Хасанаўская 2-ая, Хмяльніцкага, Ціміразева, Цэткін, Чайкінай, Чайкоўскага, Чалюскінцаў, Чапаева, Чарнышэўскага, Чарняхоўскага, Чкалава, Чыгуначная, Чырванадонцаў, Чырвонаармейская, Чырвонагвардзейская, Чэхава, Шалом-Алейхема, Шаўчэнкі, Шчарбакова, Шчорса, Энгельса, Ясная.

**Завулкі:** Артылерыйскі, Баўмана 1-шы, Баўмана 2-гі, Белагрудскі, Выдайкі, Гастэла 1-шы, Гастэла 2-гі, Горкага, Горкага 2-гі, Дабралюбава, Дзяржынскага, Дзяржынскага 2-гі, Заслонава, Калініна 1-шы, Калініна 2-гі, Кіеўскі 1-шы, Кіеўскі 2-гі, Камунараў, Крупскай, Куйбышава, Куйбышава 2-гі, Куйбышава 3-ці, Куйбышава 4-ты, Кутузава, Ленінградскі, Ленінскі, Лётны, Лётны 2-гі, Люксембург, Маркса 1-шы, Маркса 2-гі, Маркса 3-ці, Марозава, Маскоўскі, Навапрудскі, Новы, Пляханава 1-шы, Пляханава 2-гі, Пляханава 3-ці, Расьлякі, Саўгасны, Свярдлова, Свярдлова 2-гі, Сельскі, Сечанава 1-шы, Сечанава 2-гі, Спартыўны, Фурманава, Чайкоўскага, Чарнышэўскага 1-шы, Чарнышэўскага 2-гі, Чарняхоўскага, Чыгуначны, Чырвонаармейскі.

**За 16 гадоў з 1955 па 1971 з'явілася 36 новых вуліц:** Авіяцыйная, Артылерыйская, Ватуціна, Вільнюсская 1-ая і 2-ая, Грыбаедава, Даватара 2-ая, Дастаеўскага, Завадская, Завадская 1-ая, Каперніка, Кіеўская, Куйбышава 2-ая і 3-яя, Ленінградская, Лабачэўскага, Маладзёжная, Маскоўская 1-ая, 2-ая, 3-яя, 4-ая, Мясьнікова, Навапрудская 1-ая і 2-ая, Наскова, Арджанікідзэ, Пляханава, Палявая, Пясчаная, 5-га снежня, Транспартная, Усходняя, Хасанаўская 1-ая і 2-ая, Чырванадонцаў, Чэхава;

**і 42 новыя завулкі:** Артылерыйскі, Баўмана 1-шы і 2-гі, Белагрудскі, Выдайкі, Гастэла 1-шы і 2-гі, Горкага, Горкага 2-гі, Дзяржынскага, Дзяржынскага 2-гі, Заслонава, Калініна 1-шы і 2-гі, Кіеўскі 1-шы, 2-гі, Камунараў, Крупскай, Куйбышава, Куйбышава 2-гі, 3-ці і 4-ты, Кутузава, Ленінградскі, Ленінскі, Лётны, Лётны 2-гі, Люксембург, Маркса 1-шы, 2-гі і 3-ці, Маскоўскі, Навапрудскі, Новы, Расьлякі, Саўгасны, Свярдлова, Свярдлова 2-гі, Сечанава 1-шы і 2-гі, Чарнышэўскага 1-шы і 2-гі, Чарняхоўскага.

**Былі перайменаваныя вуліцы** імя Баграцёна ў вул. імя Касмадзям'янскай, Белагрудская ў вул імя Выдайкі, Будзённага ў зав. Саўгасны, Варашылава ў Маладварцовую, затым Гагарына, Гарыстая ў вул. імя Стралкоўскага, Шпітальная ў вул. імя Арцёменкі, Дабралюбава ў Лупава, Жукава ў Марозава, Куйбышава ў Куйбышава 4-ю затым Катлярэўскага, Лідская ў Таўлая, Молатава ў Чыгуначную, Асавіяхімаўская ў Аслікоўскага, Пакрышкіна ў Суворава, Кулямётная ў Клімко, Ракасоўскага ў Інтэрнацыянальную, Саўгасную ў Ігнатава, Спартыўная ў Шубіна, Сталінградская ў Валгаградскую, Танкавая ў Радзюка, Шолахава ў Вясеннюю, Шастаковіча ў Баграцёна, зав. Гомельскі ў вул. Паўночную затым у вул. Грыцкевіча, зав. Заслонава ў вул. Пляханава, зав. Першамайскі 1-шы ў вул. Камунараў, зав. Жукава ў зав. Марозава, зав. Калініна ў зав. Калініна 2-гі, зав. Молатава ў зав. Чыгуначны, зав. Саўгасны 1-шы і зав. Заслонава адышлі пад вул. Паўзунова, зав. Пляханава 1-шы, 2-гі і 3-ці ў зав. Камунараў 1-шы, 2-гі і 3-ці, зав. Першамайскі 2-гі ў зав. Пляханава 1-шы, зав. Арджанікідзэ 2-гі і 3-ці ў зав. Пляханава 2-гі і 3-ці, Энгельса ў Энгельса 1-шы, Энгельса 1-шы ў Энгельса 2-гі, Энгельса 2-гі ў Энгельса 3-ці, Маркса 2-гі ў Маркса 3-ці.

**Зніклі 2 вуліцы:** 9 студзеня і Расьлякі **і 3 завулкі:** Гастэла, Камуністычны, Лідскі.

**5 траўня 1972 г.** у сувязі з 27-мі ўгодкамі з дня перамогі над фашысцкай Германіяй і 30-годдзем з дня сфармавання Гвардзейскай, Валгаградскай, ордэна Леніна, двойчы Чырвонасцяжнай, орданаў Суворава і Кутузава вайсковай часткі выканкам вырашыў перайменаваць вул. Пясчаную ў **вул.** Героя Савецкага Саюза **Герасімава** Сяргея Дзмітрыевіча, вул. Загарадную ў **вул.** Героя Савецкага Саюза **Жабінскага** Дзмітрыя Іванавіча, вул. 2-ую Маскоўскую ў **вул.** Героя Савецкага Саюза **Акрэсціна** Барыса Сямёнавіча. *(Ф. 55, воп. 1, с. 660, а. 36.)*

**26 красавіка 1973 г**. для ўшанавання 28-х угодкаў перамогі над фашысцкай Германіяй і з мэтай увекавечвання памяці савецкіх воінаў, якія вызначыліся пры абароне г. Ліды ў першыя дні вайны, а таксама актыўных удзельнікаў партызанскага і падпольнага руху ў горадзе Лідзе і раёне ў гады ВАВ, загінуўшых у баях з нямецка- фашысцкімі захопнікамі, выканкам вырашыў перайменаваць вул. Загарадную ў **вул. імя Галіцкага** Кузьмы Нікіціча, забыўшыся, што год назад яна ўжо была перайменаваная ў вул. Жабінскага; вул. 2-ю Кіеўскую ў **вул. імя Кастраміной** Марыі Іванаўны, актыўнай удзельніцы падпольнага і партызанскага руху, вул. 2-ю Чырвонаармейскую ў **вул. імя Рыбіноўскага** Васіля Аляксандравіча, начальніка спецгрупы, якая дзейнічала на тэрыторыі Лідскага раёна і горада Ліды; вул. 2-ую Вільнюсскую ў **вул. Канаховіча** Міхаіла Паўлавіча актыўнага ўдзельніка партызанскага руху на Лідчыне; 3-ці зав. Чарнышэўскага ў **вул. імя Наказных** Матроны Канстанцінаўны, актыўнай удзельніцы падполля ў горадзе Лідзе, 4-ты зав. Энгельса ў **вул. імя Кудачовых** Леаніда Фёдаравіча і Зоі Фёдараўны, актыўных удзельнікаў падполля ў г. Лідзе; праектаваную вуліцу, якая ідзе ад Менскай шашы да Лакафарбавага завода назваць **вул. імя Качана** Анатоля Гаўрылавіча, актыўнага ўдзельніка падполля ў г. Лідзе; вул 4-ю Маскоўскую ў **вул. імя Коннава** Аляксандра Андрэевіча, былога камандзіра першага на Лідчыне партызанскага аддзела "Іскра" ў гады ВАВ. *(Ф. 55, воп. 1, с. 695, а. 272 - 273.)*

**30 траўня 1973 г.** выканкам, усвядоміўшы

сваю памылку і змяняючы сваё рашэнне ад 26 красавіка 1973 г., перайменаваў вул. 3-ю Маскоўскую ў вул. імя Галіцкага Кузьмы Нікіціча, камандзіра 24 стралковай дывізіі. *(Ф. 55, воп. 1, с. 696, а. 138.)*

**25 лютага 1977 г.** у сувязі з уключэннем мікраараёна "Індустрыяльны" ў склад г. Ліда выканкам вырашыў назваць вуліцу, што праходзіла па заходняй мяжы мікраараёна вуліцай **імя Прытыцкага**, па паўднёвай мяжы мікраараёна - вуліцай **імя Пралыгіна**, вуліцу, размешчаную паміж прамзонай і мікраараёнам - **вул. Сасновай.** *(Ф. 55, воп. 1, с. 840, а. 85.)*

**8 ліпеня 1979 г.** на паседжанні выканкаму гарсавету вырашана перайменаваць вулю Лётную ў вул. **імя генерала Бяды**, генерал-лейтэнанта, двойчы Героя Савецкага Саюза; вул. 1-ую Крупаўскую ў вул. **імя Фамічова** Рыгора Філатавіча, былога першага сакратара гаркама КПБ, старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму; 4-ты зав. Чарнышэўскага ў **вул. Грыбаедава**, 5-ты зав. Чарнышэўскага ў вул. **імя Аркадзія Гайдара**, зав. Говарава ў вул **імя Царука**, 2-гі завулак Говарава ў вул. **імя Кастуся Каліноўскага**. Назваць вуліцы другой чаргі індывідуальнай забудовы мікраараёна "Маладзёжны": праезд № 1 - **вул. Кветкавай**, праезд № 2 - **вул. Лугавой**, праезд № 3 - **вул. Лясной**, праезд № 4 -**вул. Багдана Хмяльніцкага**, праезды № 5, 10 - **вул. Грыгор'ева** Віктара Міхайлавіча, падпалкоўніка, які пахаваны ў гарадскім парку; праезд № 6, 11 - вуліцай **імя Сытнікава** Іллі Іванавіча, старшага лейтэнанта, пахаванага ў гарадскім парку;, праезд № 7, 12 - вул. **імя Балгарына** Сяргея Іванавіча, Героя Савецкага Саюза, ганаровага грамадзяніна г. Ліды; праезды № 8, 13 - вул. **імя Аляксея Стаханава**, праезды № 9, 14 - вул. **імя Пашы Ангелінай**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 869, а. 8-9.)*

У 70-я годы з'явіліся таксама вуліцы **Аслікоўскага, Шчадрына, Спартыўная, Будаўнікоў і Хімікаў.**

І зніклі завулкі Горкага 2-гі, Кіеўскі 1-шы і 2-гі, Камунараў, Куйбышава 2-гі, 3-ці і 4-ты, Ленінскі.

**6 - 7 верасня 1980 г.** гарадскія ўлады са спазненнем на 57 гадоў адзначылі свята 600-годдзя горада і былой плошчы Славы далі назву **імя 600-годдзя горада**. З гэтай нагоды быў выпушчаны паштовы канверт.

**9 кастрычніка 1980 г.** выканкам гарсавету вырашыў назваць новую вуліцу паміж 1-ай і 2-ой Хасанаўскай вуліцай **імя Урыцкага**. *(Ф. 55, воп. 1, с. 963, а. 11-12.)*

**18 студзеня 1984 г.** вул. Набережная перайменаваная ў вул. **Набережную імя генерала П. П. Брыкеля**. Наўрад ці гэтае рашэнне стала вядомым шырокім масам працоўных, якія жывуць на гэтай вуліцы.

**11 ліпеня 1985 г.** вул. Уражайная рашэннем выканкаму перайменавана ў **вул. Булата** Барыса Адамавіча, Героя Савецкага Саюза, камандзіра партызанскай брыгады "Наперад", Ганаровага грамадзяніна г. Ліды.

**У 80-я гады з'явіліся вуліцы: Марата Казея, Элаізы Пашкевіч, Машэрава, Бярозавая, Дачная, Крупаўская 2-я і 3-яя, Азёрная, Асенняя, Палявая 1-ая і 2-ая, Прыазёрная, Каляё-вая (Путейская), Садовая, Хвойная, Хімгарадок;** завулкі **Лугавы і Садовы**. Вул. Жданава перайменавалі ў **Зялёную**, Асавіяхімаўскую ў **Тухачэўскага**.

**Зніклі вуліцы:** Бальнічная, Вышынскага, Грыцкевіча, Заводская, Заводская 1-я, Гомельская, Радуньская; **завулкі:** Горкага, Крупскай, Расляккі, Сельскі, Спартыўны, Ленінградскі.

**На 1.01.1990 г. у Лідзе - 231 вуліца і 57 завулкаў.**

**За апошнія 13 гадоў, з 1991 па 2003, ва ўмовах дзяржаўнай незалежнасці ў Лідзе дадаліся 60 вуліц і 9 завулкаў.**

**Вуліцы:** Акадэмічная, Ашмянская, Аэрадромная, Балтыйская, Брандыса, Вербная, Воранаўская, Вядзеніна, Вясёлкавая (Радужная), Гарэева, Геалагічная, Дзітвянская, Дружная, Дубровенская, Жукава, Загарадная, Зарэчная (1994), Збожавая (Зерновая), Зялёны бераг, Інжынерная, Іўеўская, Калядная, Камунальная, Кляновая, Крынічная (Родниковая), Крынічная (яшчэ адна ў другім канцы горада), Лазовая, Лётная (1994), Ліпавая, Майская, Мірная, Міру, Наватарская, Нарачанская, Народная, Паветраная, Падлесная, Паркавая, Парніковая, Пасялковая, Полацкая, Прамысловая, Прыгарадная, Пясчаная, Радасная, Раздольная, Рамантыкаў, Рыбацкая, Рэспубліканская, Сустрэчная, Узорная, Фермерская, Фестывальная, Фізкультурная, Хасанаўская 3-я, Ціхая, Цэнтральная, Чаромухавая, Шырокая.

**Завулкі:** Аэрадромны, Вуглавы, Говарава 1-шы і 2-гі, Зарэчны, Калгасны, Малахава 1-шы, Паўднёвы, Радзішчава. Аформіўся мікраараён-вуліца **Паўднёвы гарадок.**

47 вуліц з'явіліся ў апошнія 5 гадоў. Такога не было за ўсю гісторыю горада.

**Зніклі вуліцы:** Пераца; **завулкі:** Малахасанаўскі і імя Хмяльніцкага.

**У 2003 годзе ў горадзе 290 вуліц і 65 завулкаў.**

**Вуліцы:** Авіяцыйная (60-я), Азёрная (80-я), Айвазоўскага (1955), Акадэмічная, Акрэсціна (5.05.1972), Ангелінай (8.06.1979), Арджанікідзэ (7.02.1957), Артылерыйская (60-я), Арцёменкі (31.05.1965), Асенняя (80-я), Асіпенка (9.01.1940), Аслікоўскага (80-я), Астроўскага (9.01.1940), Ашмянская, Аэрадромная, Багратыёна (24.10. 1957), Балгарына (8.06.1979), Балотнікава (1955), Балтыйская, Баранавіцкая (9.01.1940), Баўмана (1955), Беларуская (1955), Брандыса, Будаўнікоў (1970-я), Булата (11.07.1985), Бялінскага (1955), Бярозавая (80-я), Валгаградская, Варшаўская (1938), Ватуціна (60-я), Вербная, Вільнюсская 1-ая (60-я), Вішнёвая, Воранаўская, 8 сакавіка (9.01. 1940), Выдайкі (31.05.1965), Вядзеніна, Вясёлкавая, Вясенняя (24.10.1957), Гагарына (1971-1975), Гайдара (8.07.1979), Галіцкага(30.05.1973), Гарэева, Гастэла (1955), Геалагічная, Генерала Бяды (8.06.1979) , Герасімава (5.05.1972), Герцана (1955), Глінкі (1955), Говарава (1955), Гогаля (9.01.1940), Горкага (9.01.1940), Грыбаедава (1955-71), Грыгор'ева (8.06.1979), Дабралюбава (1955), Даватара (1955), Даватара 2-я (12.12.68) Дакучаева (1955), Данскога (1955), Дастаеўскага (60-я), Дачная (80-е), Дзекабрыстаў (1955), Дзімітрова (1955), Дзітвянская, Дружная, Дубровенская, Дундзіча (1955), Дзяржынскага (9.01.

1940), Жабінскага (5.05.1972, Жукава, Жукоўскага (1955), Загарадная, Замкавая (1955), Зарэчная (1994), Заслонава (1955), Збожавая, Зялёная (14.03.1989), Зялёны бераг, Ігнатава (31.05.1965), Інжынерная, Інтарнацыянальная (24.10.1957), Іўеўская, Кааператыўная (9.01.1940), Казея (80-я), Калгасная (1955), Калініна (1955), Каліноўскага (8.07.1979), Кальцавая, Калядная, Каляёвая (80-я), Камсамольская (9.01.1940), Камунальная, Камунараў (22.05.1958), Камуністычная (9.01. 1940), Канаховіча (26.04.1973), Каперніка (22.05. 1958), Касмадзям’янскай (22.05.1958), Касманаўтаў (70-я), Кастраміной (26.04.1973), Кастрычніцкая (1955), Касцюшкі (1955), Катлярэўскага (10.07.1969), Катоўскага (9.01.1940), Качана (26.04.1973), Кашавога (1955), Кветкавая (8.06.-1979), Кіеўская (60-я), Кіеўская 3-я, Кірава (9.01. 1940), Клімко (11.06.1964), Кляновая, Коласа (27.12.1956), Коннава (26.04.1973), Крупаўская 2-ая (80-я), Крупаўская 3-яя (80-е), Крупскай (9.01.1940), Крылова (1955), Крынічная, Крынічная (Родниковая), Кудачовых (26.04.1973), Куйбышава (9.01.1940), Куйбышава 2-ая (22.05. 1958), Куйбышава 3-яя (22.05.1958), Купалы (30.10.1945), Кутузава(1955), Лабачэўскага(1955-71), Лазо (1955), Лазовая, Ламаносава (9.01.1940), Ленінградская (1955-71), Ленінская (9.01.1940), Лермантава (1955), Лесазаводская (1938), Лётная (1994), Лібкнехта (1955), Ліпавая, Лугавая (8.06.1979), Лупава (23.11.1967), Люксембург (9.01.1940), Лясная (8.06.1979), Майская, Маладзёжная (1955-71), Маладзечанская (1938), Малахава, Малахасанаўская (1955), Маркса (1955), Марозава (24.10.1957), Маскоўская 1-ая (60-я), Маскоўская 2-ая (1955-71), Матросава (1955), Машэрава (80-е), Маякоўскага (9.01.1940), Мендзялеева (1955), Мечнікава (1955), Мінская (9.01. 1940), Мірная, Міру, Міцкевіча (1938), Мічурына (1955), Мопраўская (9.01.1940), Мянжынскага (1955), Мяснікова (60-я), Набераҗная імя генерала Брыкеля (18. 01.1984), Наватарская, Навапрудская 1-ая (60-я), Навапрудская 2-ая (60-я), Навасельская (1955), Наказных (26.04. 1973), Нарачанская, Народная, Наскова(23.11.67), Нахімава (1955), Неўскага (1955), Нёманская (1955), Някрасава (9.01.1940), Паветраная, Падлесная, Паўзунова, Палявая 1-ая (1955-71), Палявая 2-ая (80-я), Папова (1955), Паркавая, Парніковая, Партызанская (1955), Пархоменкі (1955), Пасял-ковая, Паўднёвая (8.06.1979), Паўлава(1955), Паўночная (27.07.1968), Пашкевіч, Перамогі( 1955), 1-га траўня (1938), Піянерская (9.01. 1940), Пляханава (22.05.1958), Полацкая, Пралетарская (1955), Пралыгіна (25.02.77), Прамысловая, Прыазёрная (80-я), Прыгарадная, Прытыцкага (25.02.77), Пугачова (1955), Пушкіна (1955), Пясчаная, 5-га снежня(60-я), Радасная, Радзішчава (1955), Радзюка (11.06.1964), Раздольная, Разіна(1955), Рамантыкаў, Рачная (1938), Рыбацкая, Рыбіноўскага (26.04.1973), Рылеева (1955), Рэвалюцыйная (1955), Рэпіна (1955), Рэспубліканская, Савецкая (9.01. 1940), Садовая (80-я), Сасновая (25.02.77), Сацыялістычная (1955), Свярдлова (9.01.1940), 7-га лістапада (9.01.1940), Серафімовіча (1955), Сечанава (1955), Сонечная, Спартыўная (1970-я), Стаханава (8.06.1979), Стралкоўскага (7.05.1970), Суворава (24.10.1957), Сустрэчная, Сытнікава (8.06.1979), Сядова (1955), Сярова (1955), Талстога Л. (1955), Таўлая (11.04. 1963), Транспартная (1955-71), Труханава (15.08. 1944), Тургенева (1955), Тухачэўскага (13.12.1988), Тэльмана (1955), Узорная, Ульянавых (1955), Урыцкага (9.10.1980), Усходняя (27.12.56), Ушакова (1955), Фабрычная (1938), Фамічова (8.06.1979), Фермерская, Фестывальная, Фізкультурная, Філатава (1955), Франко (1955), Фрунзе (9.01.1940), Фурманава (1955), Хасанаўская 1-ая (12.12.1957), Хасанаўская 2-ая (12.12.1957), Хасанаўская 3-яя, Хвойная, Хімгарадок (80-я), Хімікаў (70-е), Хмяльніцкага (8.06. 1979), Царука (8.06.1979), Ціміразева (1955), Ціхая, Цэнтральная, Цэткін (1955), Чайкінай (1955), Чайкоўскага (1955), Чалюскінцаў (1955), Чапаева (9.01.1940), Чарнышэўскага (9.01.1940), Чарняхоўскага (1955), Чаромухавая, Чкалава (9.01.1940), Чыгуначная (24.10.1957, Чырвонаармейская (9.01.1940), Чыр-вонагвардзейская (9.01.1940), Чырванадонцаў (60-я), Чэхава, Шаўчэнкі (1955), Шалом-Алейхема (9.01.1940), Шубіна (31.05.1965), Шча-дрына (70-е), Шчарбакова (1955), Шчорса (9.01. 1940), Шырокая, Энгельса (9.01.1940), Ясная (1938).

**Завулкі:** Артылерыйскі (60-я), Аэрадромны, Баўмана 1-шы (60-я), Баўмана 2-гі (60-я), Белагрудскі (60-я), Вуглавы, Выдайкі (60-я), Гастэла 1-шы (60-я), Гастэла 2-гі (60-я), Говарава 1-шы, Говарава 2-гі, Дабралюбава (1955), Дзяржынскага 1-шы (60-я), Дзяржынскага 2-гі (60-я), Зарэчны, Заслонава (12.12.1968), Калгасны, Калініна 1-шы (24.10.1957), Калініна 2-гі (24.10.1957), Камунараў 1-шы (22.05.1958), Камунараў 2-гі (22.05.1958), Камунараў 3-ці (22.05.1958), Кіеўскі (60-я), Крупаўскі, Куйбышава (60-я), Кутузава (12.12.1968), Ленінградскі (60-я), Лётны (1955), Лётны 2-гі (12.12.1968), Лугавы (80-я), Люксембург (60-я), Малахава 1-шы, Маркса 1-шы (60-я), Маркса 2-гі (60-я), Маркса 3-ці (12.12.1957), Марозава (1958), Маскоўскі (12.12.1968), Навагодні (7.02.1957), Навапрудскі (60-я), Новы (60-я), Паўднёвы, Пляханава 1-шы (22.05.1958), Пляханава 2-гі (22.05.1958), Пляханава 3-ці (22.05.1958), Садовы (80-я), Саўгасны (60-я), Свярдлова (60-я), Свярдлова 2-гі (27.06.1968), Сечанава 1-шы (60-я), Сечанава 2-гі (60-я), Транспартны, Фурманава (1955), Чайкоўскага (1955), Чарнышэўскага 1-шы (60-я), Чарнышэўскага 2-гі (60-я), Чарняхоўскага, Чыгуначны (24.10.1957), Чырвонаармейскі (1955), Школьны, Шубіна, Энгельса (1955), Энгельса 1-шы, Энгельса 2-гі (12.12.1957), Энгельса 3-ці (12.12.1957), Энгельса 5-ты.

Са спісу 1913 г. захавалася толькі 5 назваў: Віленская (Вільнюсская 1-я), Замкавая, Крупская (Крупаўская 2-ая і 3-яя), Садовая, зав. Школьны, але ўсе з іншым месцазнаходжннем. З 110 вуліц 1938 г. захаваліся назвы 7 вуліц: Варшаўская, Лесазаводская (Тартакі), Міцкевіча, Маладзечанская, Рачная, Фабрычная, Ясная. 16 вуліц атрымалі ў савецкі час аналагічныя назвы: Бярозавая, Вільнюсская (Віленская), Вішнёвая, Чыгуначная, Замкавая, Касцюшкі, Крупаўская (Крупская), Лётная, Ліпавая, Навасельская, Палявая, Садовая, Сасновая, Ціхая, Кветкавая, зав. Школьны (Школьная).

Са спісу 1940 г. захаваліся 42 назвы.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Валеры Сліўкін

# Гісторыя адукацыі ў Лідзе

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

## Ліквідацыя польскай сістэмы адукацыі і стварэнне савецкай

24 верасня 1939 года лідскія школы аднавілі сваю працу, настаўнікаў адправілі на перападрыхтоўку, са студзеня 1940 г. навучанне было пераведзена з польскай на беларускую і рускую мовы.

***"Будынак быўшага польскага ліцэя, а зараз першай беларускай сярэдняй школы ажыў. Вучнёўская моладзь радасна і весела запаўняе калідоры школы..., на сцяне аднаго з калідораў знаходзіцца вялікі прыгожа прыбраны партрэт таварыша Сталіна, эмблема Савецкага Саюза. Усюды лозунгі і цытаты Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна. Раздаецца школьны званок. Дзеці спешна разыходзяцца па класах, калідоры змаўкаюць. Так пачынаецца першы дзень вучобы па новай савецкай праграме ў першай беларускай сярэдняй школе горада Ліды.***

***Вучні гімназіі і ліцэя з радасцю сустрэлі рашэнне аб пераводзе школы на беларускую мову. Шут Георгій, які яшчэ у 1937 годзе скончыў польскую пачатковую школу цяпер рашыў прадоўжыць вучобу. З радасцю расказвае вучань 8 класса Іван Жамойцін аб тым, што нарэшце ён дачакаўся школы на роднай мове. У школу прышлі дзеці, якія раней зусім невучыліся. Заяву аб прыняцці ў школу напісала дзяўчынка Кіеня Леаніда, скончыўшая год таму польскую пачатковую школу і зараз прышла, каб вучыцца на роднай мове. Разам з ёй прышла Урбановіч Ксеня. Яна вучылася раней у польскай гандлёвай гімназіі. Цяпер яна хоча вучыцца на беларускай мове.***

***Дзеці беларускага народа, якія доўгія гады былі пад прыгнётам панскай Польшчы, цяпер, дзякуючы Савецкай уладзе, дзякуючы Сталінскай Канстытуцыі ,атрымалі права на вучобу на сваёй роднай мове. З вялікім энтузіязмам і радасцю будуць яны вучыцца, здабываць веды, выхоўвацца ва ўсебакова развітых, культурных грамадзян, палкіх патрыётаў сваёй любімай радзімы, каб скончыўшы школу адважна і ўпэўнена ўступіць у вялікае жыццё, стаць свядомымі будаўнікамі камуністычнага грамадства".*** *(П.Р. Пачалася вучоба ў школе па совецкай праграме. "Уперад", студзень 1940 г.)*

Чамусьці аўтар нататкі пасаромеўся падпісацца сваім прозвішчам, абмежаваўся ініцыяламі ***П. Р.***

Гімназіі былі зачынены. У будынку першай школы былі адкрыты дзве сямігадовыя школы № 1 і № 2. Адна з іх была рускай, другая - беларускай. Працягнулі работу няпоўныя сярэднія школы № 3 і № 4. 5-я школа засталася польскай. Былі арганізаваны яўрэйскія школы №№ 7 і 8 .

Мясцовыя вучні ў большасці сваёй да пераўтварэнняў аднесліся адмоўна. 6 лістапада 1939 года ў былой гімназіі імя К. Хадкевіча падчас урачыстага сходу ў зале быў расыпаны парашок з аміякам, у акно кінута некалькі камянёў. Сход быў сарваны. У былой гандлёвай гімназіі падчас сходу быў рассыпаны парашок з удушным пахам, адначасова было выключана святло выкручыны засцерагальнікі. Да снежня ***"польская контррэвалюцыйная нацыяналістычная паўстанцкая група, якая складалася з рэакцыйнай часткі педагогаў і гімназістаў гімназіі імя Хадкевіча, узначальваў якую дырэктар гімназіі Менцялевіч Казімір сын Марцэлія",*** была разгромлена.

У студзені 1940 г. з'явіліся педнавучальня і музычная навучальня *("Чырвоная звязда" № 15 і № 28 )*. 1-га верасня 1940 года адкрылася школа фабрычна-завадскога навучання (ФЗН) на вул. Савецкай ў доме № 82, якая выпускала кваліфікаваных слесараў і токараў. Вучні атрымоўвалі стыпендыю, пражыванне ў інтэрнаце і харчаванне аплачваліся дзяржавай. Адчынілася беларуская вячэрняя НШС для падлеткаў з 14 да 17 гадоў з 1-4 класамі адукацыі.

Настаўніцкі корпус 1940-41 гг. быў незвычайна align рознародным. Побач з выкладчыкамі польскага часу, такімі, як настаўнік нямецкай Кляйдынст Юлі Юльевіч, які свабодна валодаў рускай, польскай, нямецкай і чуць горш французкай і беларускай мовамі або настаўнік матэматыкі і фізікі Апухоўскі Яўген Іванавіч, які



закончыў вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Любліне (1930) і Дзяржаўны настаўніцкі універсітэт (1937), з Усходняй Беларусі на пасады дырэктараў і завучаў былі прысланы камсамольцы і маладыя камуністы- выпускнікі двухгадовых педінстытутаў з завочнай і вячэрняй адукацыяй.

Дырэктарам СШ № 1 быў прызначаны 25-гадовы камсамолец Садольскі Франц Мікалаевіч – выпускнік Аршанскага двухгадовага інстытута, завочнік Магілёўскага педінстытута. Завучам СШ № 1 стаў кандыдат у члены УКП(б) Заварыкін Уладзімір Аляксандравіч, які закончыў Бугульмінскі педтэхнікум (1932), вячэрні сектар Саратаўскага педінстытута (1937) і вучыўся на 4 курсе менскага педінстытута. Дырэктарам НСШ № 3 стаў 26-гадовы кандыдат ў члены УКП(б) Іван Навумавіч Дрозд, які закончыў літаратурны факультэт Менскага педінстытута (1937). Завучам НСШ № 3 і выкладчыкам беларускай мовы была прызначана ўкраінка Ларыса Дзмітрыеўна Яфімава, якая закончыла Віцебскую чыгуначную навучальню і Віцебскі педагагічны тэхнікум (1931), жонка загадчыка ГАРАНА Уладзіміра Пятровіча Крыма.

Дырэктарам яўрэйскай НСШ № 8 быў пакінуты 34-гадовы Каплан Якаў Аронавіч, з мяшчан, які закончыў яўрэйскую навучальню і настаўніцкую семінарыю (1928), член КПЗБ, загадчык яўрэйскай народнай школы імя Шалома- Аляйхема (1935-39).

Інструктарам метадыстам педкабінета стала 22 гадовая Галіна Леанардаўна Станкевіч, якая закончыла Ахтырскі педтэхнікум, студэнтка 4-га курса геаграфічнага факультэта Харкаўскага настаўніцкага інстытута.

Усё навучанне перавялі с польскай мовы на беларускую. Катэхізіс, польскую і лацінскую мову выключылі з праграмы. Грамадскіе дысцыплыны сталі савецкімі.

***“Я два гады хадзіла ў беларускую школу, дырэктарам быў бравасты энкавэдыст Браўкоў. Ён гаварыў: “Я быў пастухом, а цяпер дырэктар”. Цэлы год нам выкладалі гісторыю дарвінізму”.*** *(Ірэна Дзяркач).* ***“Пры Саветах вучыўся ў школе № 5, гэта была адзіная польская школа ў горадзе. Дырэктарам быў Суvoраў. Настаўнікі засталіся ўсе старыя: Кабылянскі, Лішэцкі. Нас панізілі на адзін клас”.*** *(Ян Межва, вучань школы № 5 у 1939-41 гг.)*

**Рамесная навучальня металістаў**

У 1940-41 гг. размяшчалася ў двух драўляных будынках, пабудаваных у 1927 – 28 гг. Дырэктарам быў прызначаны Я. М. Руцкі. У навучальні было дзевяць груп вучняў ва ўзросце 14 – 15 гадоў. У газеце “Уперад” за 1940-41 гг. з рознай нагоды згадваюцца вучні Дрозд, Іваноў, Смольскі, Навіцкі, Герасімовіч, Шустэрман, Вярбіцкі Г., Шырокі (стараста 3 групы), Ліс П., Клета, Ракач, Гаўрыленя, Пыж В., Трыпуцька П., Слуцкі К., Якубовіч, Побаль, Сіткоўскі, Гункевіч. 70 выдатнікаў. 3-я група лепшая, заваявала школьны пераходны Чырвоны Сцяг.

**Педагагічная навучальня**

У 1940/41 навучальным годзе ў будынку сённяшняга педкаледжа функцыянавала педагагічная навучальня. Дырэктарам педнавучальні быў Піткевіч Міхаіл Іванавіч. У 30-х гадах ён быў асуджаны палякамі за ўдзел у антыўрадавай дзейнасці. Пасля вызвалення ўладкаваўся псаломшчыкам, кіраваў хорам у праваслаўнай царкве, потым дырыжаваў хорам у саборы. М. І. Піткевіч быў сябрам Рыгора Раманавіча Шырмы.

У Лідскай педнавучальні ў 1940/41 навучальным годзе вучыліся: Кумпяк Зінаіда Віктараўна, Кучынская Вера Уладзіміраўна, Макуцэвіч Пётр Купрыянавіч, Макуцэвіч Вольга Купрыянаўна, Макуцэвіч Ніна Купрыянаўна, Гурына А. І., Сарока Ганна Мікалаеўна, Ярашэвіч Вера Пятроўна. Пра першых выкладчыкаў звестак няма.

Студэнткі педнавучальні камсамолкі Вера Кучынская (1923-99), Вера Ярашэвіч (1924 г. н.) і Зінаіда Кумпяк (1924 г.н.) сталі падпольшчыцамі, узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Пётр Макуцэвіч сядзеў у Лідскай турме, уцёк з месца расстрэлу. Піткевіча немцы арыштавалі, збілі і праз 12 дзён па паручыцельству святара вызвалілі. Потым ён некуды з’ехаў, яшчэ пры немцах.

21 чэрвеня 1941 г. у суботу ***“вечар быў ціхі, чулася музыка, у многіх школах праводзіліся выпускныя вечары”***, у педнавучальні таксама.

## Навучанне ў часы нямецкай акупацыі (1942 – 44 гг.)

Паводле ўспамінаў Н. Н. Сарокі (Перкінай), П. К. Макуцэвіча і Я. З. Васіллева ў перыяд нямецкай акупацыі ў Лідзе функцыявалі тры школы.

Народная школа № 1 размяшчалася па вул. Кірава (будынак кулінарыі), народная школа № 2 - па вул. Перамогі (жылы дом, у 1972 г. райбібліятэка, зараз на гэтым месцы размешчаны “Універсам”), народная школа № 3 - па вул. Камсамольскай (жылы дом).

У школе № 1 займалася каля 100 вучняў, у школах № 2 і 3 па 80 – 90 вучняў. Навучальны працэс у школе № 1 ажыццяўлялі 11 педагогаў начале з дырэктарам; у школе № 2 было9 настаўнікаў, у тым ліку і падпольшчыцы Маша Кастраміна і Моця Наказных, дырэктарам быў Шыдлоўскі. 9 настаўнікаў было ў 3-й школе. У нейкай з трох школаў працаваў Урбановіч.

***“Каля піярскага касцёла стаяў драўляны дом, там перад вайной была пачатковая школа піяраў, а пры немцах стварылі сямігадовую школу. Вучылі на беларускай мове. Пасля таго, як яўрэяў сабралі ў гета, з’явілася шмат пустых дамоў, у нейкі з яўрэйскіх дамоў гэтую школу перавялі. Я там закончыў 7-ы клас. Маю пасведчанне аб заканчэнні. Гэтую школу закончыла шмат людзей, каля 100 чалавек вучылася, было 3 ці 4 класы. Усе яны былі беларусамі, але потым з’ехалі ў Польшчу. У гэтай школе вучыліся Межва, Белавокі, Казубоўскі, Гвінг”.*** *(Ян Межва, сын Францішка, 1928 г. н., жыве ў Гданьску).*

Дзейнасцю горадскіх школ кіравала Беларускае нацыянальнае таварыства. Узначальваў гэтае таварыства асабліва даверaная асоба пры Лідскім Гэбітскамісарыяце нехта Клімовіч, які прыехаў з Чэхаславакіі. Непасрэднае кіраўніцтва школамі горада ажыццяўляў інспектар гарадской управы Жук Фама Іосіфавіч – беларус з ваколіц Баранавічаў. Сельскімі школамі кіраваў былы святар Яцкевіч. Школы працавалі па часовых праграмах, якія праду-гледжвалі абавязковае вывучэнне беларускай і нямецкай моваў, геаграфіі, матэматыкі, гісторыі Беларусі, выкладаліся таксама маляванне, спевы, фізкультура і інш. Гуманітарныя прадметы былі прасякнуты ідэяй самастойнасці і незалежнасці Беларусі ад Расеі. Праца школаў пачалася прыкладна ў кастрычніку 1941 г. вялася да канца 1943 г.

## Бухгалтарскія курсы

Восенню 1942 года немцы арганізавалі ў Лідзе аднагадовыя бухгалтарскія курсы для беларусаў. Палякі, якія хацелі паступіць на курсы, павінны былі запісвацца беларусамі.

Размяшчаліся курсы ў тым жа будынку, што і 2-ая народная школа.

Выкладанне вялося на беларускай мове. Нямецкай мовы не вучылі. Бухгалтэрыю вёў Півута. Жыў на вул. Калініна. Хімію і біялогію вёў Зыкаў Сцяпан Рыгоравіч. Пасля вайны ў 1945 годзе гэты Зыкаў працаваў у педнавучальні.

Вясной 1943 года курсы зрабілі першы (магчыма адзіны) выпуск.

## Польская адукацыя ў падполлі

У гэтыя ж гады ў горадзе існавала таемная сістэма навучання на польскай мове. Выкладчыкі Юзэфа Кляйндыест, Алена Ёдка, Ванда Ляўковіч навучалі вучняў па праграмах гімназічных класаў. Навучанне вялося ў прыватных дамах невялікімі групамі па 5-8 чалавек. Юзэфа Іосіфаўна Кляйндыест узгадвае: ***“Заняткі працягваліся з 7.30 да 14.00, потым перапынак на абед і зноў заняткі з 15 да 19, вечарам праўлю сшыткі, парадкую хатнія справы”.*** *(Jozefa Kleidiest. Kartki z pamietnika pisanego w Lidzie//Ziemia Lidzka. № 38. S. 15).* ***“Вучні кожнай групы ходзяць на заняткі два дні на тыдзень да Ванды, два дні да мяне і два дні да Лены. Трэба мяняць месца заняткаў, каб не звяртаць увагі. Некаторыя з бацькоў згадзіліся, каб заняткі праводзіліся у іх, у панядзелак у Люсі, у аўторак у Данусі і г. д. Канспірацыя лепшая, з другога боку больш трацім часу на хаджэнне. З кожнай групай займаемся 2 гадзіны 30 хвілін (5 урокаў па за хвілін без перапынку)... Малодшыя класы займаюцца чатыры разы на тыдзень, старэйшыя – пяць.*** *(Там жа. S. 13).* ***“Калі якая група вывучае матэрыял 4 класаў гімназіі, робім паўтарэнне ці экзамен і пачынаем курс ліцэйскіх класаў. Калі хто не паспявае, адпраўляем яго ў малодшую групу... Вучні... дапамагаюць адзін аднаму, каб толькі не дапусціць раздраблення калектыву”.*** *(Там жа).*

*(Працяг у наступным нумары.)*

## *Запісана ў Тэль-Авіве ў ліпені 1962 г. (Сэйфер Ліда, с. 311-312.)*

**Пан Пупко распавядае:**

- Да прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе мы жылі ў Лідзе, дзе валодалі і кіравалі піваварaным заводам. Завод нацыяналізавалі неўзабаве пасля ўстанаўлення Савецкай улады. Нам дазволілі працаваць службоўцамі, але абклалі рознымі падаткамі... Мы зразумелі, што для нас тут месца няма. Паехалі ў Вільню. Там і аказаліся на пачатак нямецкай акупацыі ў канцы чэрвеня 1941 г.

Адразу пачаліся жорсткія пераследы яўрэяў..., папаўзлі чуткі, што ў Лідзе спакайней. Прабіраліся лясамі ўздоўж Віленскага тракта. У жніўні 41-га зноў апынуліся ў Лідзе. Уся сям’я сабралася ў сваёй старой кватэры на тэрыторыі завода. У гэты час нямецкая адміністрацыя накіравала на завод інжынера Іяхіма. Войску патрэбна было піва. А на суседнім тартаку (пілпраме) можна было наладзіць выпуск шпалаў для чыгункі. Патрабавалася рабочая сіла, спецыялісты. Эсэсавец Іяхім аказаўся парадачным чалавекам, далёкім ад ядавітай нацыскай ідэялогіі. Укамплектаваў вытворчасць рабочай сілай, у тым ліку на працу былі прынятыя 42 яўрэі. Тэрыторыя завода аказалася для нас аазісам. Тут мы нармальна жылі і працавалі, нягледзячы на тое, што ў горадзе зверствавалі нацысты.

Памятаем, як мы ўсе 42 яўрэйскіх рабочых, справілі пейсхальны сэйдар на заводзе вясной 1942 года. Праз некалькі тыдняў, 8 траўня, калі ў гета праводзілася крывавая “акцыя”, Іяхім не пусціў на завод эсэсаўцаў, якія хацелі нас забраць. Пазней яго адправілі на фронт. На яго месца прыслалі Ганеберга, ад’ютантам у якога была жанчына Меркел - садыстка па натуры.

У 1943 годзе на завод прыехаў Іяхім атрымоўваць піва для сваёй вайсковай часткі. Ён скарыстаўся з выпадку і папярэдзіў нас, што пагражае смерць і трэба ўцякаць у лес...

Піваварaны завод Папірмейстараў піва не выпускаў. Паводле парады інжынера Формана там пачалі выраблять мелас. Гэты прадукт таксама быў патрэбны немцам. На заводзе Папірмейстараў знайшлі прытулак Форман, Лялька Віленчык і Крыдзель са сваімі сем’ямі. Пазней яны ўсе загінулі.

16 верасня 1943 г. на завод прыехалі эсэсаўцы з Слоніма. Абвінавацілі нас у тым, што піва атручанае..., што мы хаваем золата... Потым правялі сегрэгацыю ўсяго персаналу: яўрэі асобна - хрысціяне асобна. Загад быў - на месцы не страляць. Аднак латышскія салдаты ўвайшлі на завод са стральбой. У выніку быў ранены ў нагу Хаім Ажахоўскі. Пані Ажахоўская, якая да вайны трымала лавачку на тэрыторыі завода Папірмейстараў з уваходам з боку Сувальскай, схапіла трохгадовага ўнука і ўцякла ў бок Лідзейкі, перайшла яе ўброд і дабралася да лесу. Яна выратавалася разам з сынам Іосіфам, з яго жонкай, а таксама з сынам Хонам. Пасля вайны яны выехалі ў Амерыку.

# Сіома Пупко з жонкай распавядаюць

Нам таксама вядома яшчэ пра дзве сем'і, якія выратаваліся. Хаім Пупко з жонкай уцёк на гарышча аднаго з будынкаў завода. Адтуль скочыў цераз плот у суседняе балота, дзе хаваўся да цямна. Ноччу дабраўся да лесу, потым да лагера Бельскага. Хаіму давялося яшчэ раз вярнуцца на завод і забраць вінтоўку, якая там была закопана. Яго жонка прыйшла ў аддзел Бельскага пазней, не ведаючы, што муж ужо там. Выратавалася таксама сям'я Пятлюк. Бацькі хаваліся ў знаёмага селяніна ў Дуброўні. Іх дзеці, дачка 13 гадоў і сын 16 гадоў схаваліся недзе асобна. Потым сабраліся ўсе разам у аддзеле Бельскага.

У асноўным гета яшчэ не ведалі, што адбываецца ў нас у "малым гета". Тым часам наш блокфюрар Ганенберг кляўся, што нас перавозяць для працы ў іншым месцы ("Клянуся Богам і фюрарам..."). Людзей сартавалі. Мужчын адпраўлялі ў гарадскую турму, жанчын у арганізацыю ТОДТ.

Раніцай нас усіх прывялі на чыгуначную станцыю да астатніх вязняў гета. Пагрузілі ў асобны вагон, які быў адпраўлены ў невядомым нам кірунку вечарам 17 верасня. Асноўны транспарт - больш трох тысяч чалавек - быў адпраўлены раней. У нас не было ніякіх ілюзій адносна нашага лёсу... Адзіны шанец выратавацца - выскачыць з вагона на хаду. Гэта не лёгка, і не ўсякі ў стане гэта зрабіць. 12 чалавек з нашага вагона скочылі. Мой брат Міця разам са сваім маленькім сыночкам, яго жонка. Іх дачка у апошнюю хвіліну спужалася і засталася ў вагоне... Саскочылі Сталавіцкі, яго жонка з сынам і дачкой, варшаўскі цырульнік з жонкай, партызан, які вярнуўся з лесу ў гета (пазней застрэлены рускімі) і я з жонкай і нашай дачкой. Гэта было ў раёне ст. Масты на Нёмане. Натуральна, мы не маглі скакаць адначасова і аказаліся на мясцовасці ў рассыпную. Пра месца сустрэчы дамовіліся загадзя. Толькі праз 8 дзён сустрэліся ў раёне Беліцы. Хаім Ажахоўскі хацеў з намі скакаць, але з-за раненай нагі не быў у стане гэтага зрабіць.

**Пані Пупко распавядае:**

- По дарозе мы нечакана сустрэлі эсэсаўца і страшна спужаліся. На нашае вялікае здзіўленне ён нас не затрымаў. Супакоіў, сказаўшы: "Гэта робяць іншыя". Перасцярог, што наступаюць цяжкія часы, распавёў таксама пра транспарты з яўрэямі, якія ідуць на захад. Раіў уцякаць. Даў нам тры булкі хлеба і адпусціў. Праз некаторы час пасля гэтай сустрэчы мы дабраліся да лагера камандзіра Бельскага. Тут мы даведаліся, што з першага вялікага транспарта саскочыла і выратавалася пані Карчмер. Пасля вайны яна прыбыла ў Лондан, дзе сустрэлася са сваім мужам. Марк Карчмер аказаўся там на пару гадоў раней.

**Пані Пупко прадаўжае распавядаць:**

- Падчас нашых вандровак пасля вайны меў месца неардынарны выпадак. Пасля прыбыцця ў Германію ў Бад Райнгоф мы даведаліся, што тут жыве сям'я інжынера Іяхіма, былога эсэсаўца, блокфюрара піваваранага завода. Аказалася, што ён сядзіць у амерыканскай турме, як ваенны злачынец. Мы параіліся з яўрэйскімі арганізацыямі і пасля гэтага пасведчылі амерыканскім вайсковым уладам пра яго паводзіны падчас акупацыі ў нас у Лідзе. Таксама і іншыя лідзяне, у тым ліку Сталавіцкі, прыслалі пісьмовыя паказанні. Неўзабаве пасля гэтага Іяхіма вызвалілі.

***Пераклаў з іўрыту Ёнатан Камянецкі.***



**Г. Ёгер. Піўны завод Пупко.** 1916 г. Палатно, алей.

***КАБІНЕТЫ І КАЛІДОРЫ ЛІДСКАЙ УЛАДЫ***

# ГОРАД ЛІДА Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

**(Уладзімір Міхайлавіч Логаш, старшыня Лідскага гарвыканкаму ў 1969-1980 гг.)**

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Выканкам гарсавету, прымаючы рашэнне аб выдзяленні пляцоўкі пад завод, абавязаў заказчыка прыняць далявы ўдзел у развіцці базы будаўнікоў, якая ўжо будавалася па Навапрудскай вуліцы ў паўднёвай частцы горада, звязаць базу будаўнікоў з пляцоўкай будучага завода. Для гэтага трэба было за кошт завода пабудаваць кавалак кальцавой дарогі ад вуліцы Камуністычнай да вуліцы Навапрудскай, перасёкшы чыгункі на Горадню і Баранавічы.

Для стварэння нармальнай сувязі з цэнтрам горада завод абавязваўся прыняць далявы ўдзел у будаўніцтве шляхапровада па вуліцах Ленінскай і Камуністычнай.

Яшчэ завод абавязалі ўкладаць інвестыцыі ў развіццё агульнагарадскіх сістэм вадаправода, каналізацыі, ствараць жыллё і дзіцячыя сады для будучых работнікаў.

Было зразумела, што з'яўленне ў горадзе такога прадпрыемства разам з развіццём і іншых заводаў, якія ўжо даўно дзейнічалі, будзе даваць добры штуршок для росту горада і пацягне за сабой расшырэнне і ўдасканаленне ўсёй інфраструктуры горада. Трэба адзначыць, што Кабяк С. Т. асабіста і вельмі актыўна дапамагаў вырашаць многія пытанні і ў Менску, і ў Маскве. Неаднаразова разам выязджалі ў Дзяржплан, Саўмін, ЦК КПБ, у іншыя ўстановы і там абгрунтоўвалі, пераконвалі і даказвалі патрэбу горада ў тых ці іншых аб'ектах, бо там у гэтых органах з наскоку, "на авось" нічога не праходзіла. З яго боку была поўная падтрымка ўсіх дзеянняў выканкаму ў частцы забудовы горада.

Калі пачалося ўзвядзенне шляхапроваду, мы з ім абышлі амаль усе дамы, якія траплялі пад знос, сустрэліся і перагаварылі з усімі людзьмі, якіх трэба было перасяляць.

Даваў Сяргей Цярэнцевіч і поўную свабоду ў падборы кадраў гарадскіх выканкамаўскіх служб, бо было відавочна, што без добрых прафесіяналаў, што дасканала ведаюць сваю службу, добрасумленных і адданых справе людзей, цяжка будзе спраўляцца і кіраваць усімі справамі ў горадзе. Хаця, трэба заўважыць, работа пачыналася не на пустым месцы. Многа было зроблена і папярэднікамі: Ушацкім І. І. і Сямёнавым А. С. і тымі людзьмі, якія ў той час працавалі. Сярод кіраўнікоў аддзелаў і службаў былі Дадзькова А. І. – старшыня планавай камісіі, Прахарэнкава А. А. – загадчык фінансавага аддзела, Русак П. І., затым Мазоўка А. С. - загадчыкі гарана, Грос Х. К. затым Малахоўскі М. І. - загадчыкі жыллёва-камунальнага аддзела, Аляксейчык П.В. – загадчык аддзела аховы здароўя, Астраверхава Н. С. – заг. аддзела гандлю, Станцэль В. А. – АУС, Зялінская Л.З. - аддзела сацыяльнага забеспячэння, Кастрыцкі М.Р. – загадчык аддзела паліва, Ходар І. Т. – камбінат бытавога абслугоўвання, Аламаха В. І. – аддзел культуры, Поўх Н.І . – кінафікацыі, Пархута А. С. –гал. архітэктар горада, Тарасаў А. М. – камітэт па фізкультуры і спорту, Петрачэнка Р. – заг. агульным аддзелам, Вардоеў В. А. – начальнік штаба грамадзянскай абароны, Жалкоўскі А.В. – галоўны рэдактар аб'яднанай газеты "Уперад", Літвін У. М. – дзяржстрах, Кур'ям Р. А., а затым Зінкевіч Л. І. – інструктары.

Гэта былі вельмі адказныя людзі ў асноўным аднаго веку, амаль усе мясцовыя, тутэйшыя людзі, для іх быў неабыякавы лёс горада і тая зямля, дзе жылі іх продкі і дзе належала жыць іх дзецям.

Намеснікамі старшыні ў той час былі Астрэйка Фёдар Іванавіч, Дземідовіч Аляксей Юльянавіч, Аўдзеенка Ціхан Кузьміч, Зарэмба Святлана Арсеньеўна, сакратаром Дзенісенка Галіна Васільеўна. У цэлым гэта быў працаздольны калектыў, амаль усе загадчыкі аддзелаў і служб мелі вышэйшую адукацыю і досвед працы, усе зналі, умелі і, самае галоўнае, маглі арганізаваць справу, добра паставіць работу.

Загадчыкам фінансавага аддзела была Прахарэнкава А. А. За ўвесь перыяд маёй работы ніколі не было выпадку, каб мы не маглі прафінансаваць якія-небудзь патрэбы бальніц ці іншых устаноў аховы здароўя або школ, дзіцячых садкоў, аб'ектаў культуры. Гэтыя пытанні ўдала вырашаліся за лік перавыканання даходнай часткі гарадскога бюджэту, бо аддзел не толькі кантраляваў як падаткаплацельшчыкі плацілі падаткі, але і дапамагаў адшукваць рэзервы на саміх прадпрыемствах.

Добра кіраваў пытаннямі аховы здароўя Аляксейчык П. В., які вельмі ўдала вёў будаўніцтва аб'ектаў, здабываў у сваім Міністэрстве капітальныя ўкладанні, актыўна працаваў з падраднымі, будаўнічымі і рамонтнымі арганізацыямі па асваенні сродкаў. Высока была пастаўлена і лячэбная работа, ва ўсіх установах панаваў парадак і дысцыпліна і, як вынік, выдатныя паказчыкі ў ахове здароўя.

Адным са складанейшых участкаў была жыллёва-камунальная служба, на яе работу было больш за ўсё скаргаў, бо вада, цяпло, работа каналізацыі, дарогі, тратуары, дах над галавой – гэта патрэбы першай жыццёвай неабходнасці. Трэба сказаць, што загадчыкі – спачатку Грос Х.К., а пазней Малахоўскі М. І. – добра вялі справу, пісьменна кіравалі складанымі інжынернымі збудаваннямі. Менавіта ў гэты час былі пабудаваны і задзейнічаны вадазабор за аўтакамбінатам № 3 і пачата асваенне сродкаў на вадазаборы

"Бароўка", пабудавана сістэма ліўневай каналізацыі, узята ў трубы р. Каменка і ліквідавана "смярдзючка", створана гарадская схема фекальнай каналізацыі з помпавымі станцыямі, напорнымі калектарамі і ачыснымі збудаваннямі, якія мелі біялагічную ачыстку сцёкаў за вёскай Астроўля. Успамінаецца, як запускалі ачышчыльныя збудаванні, як туга ішло вырошчванне бактэрый. Загадчык ачысных Мельнік Валодзя і заг. лабараторыі Юхневіч Аня кожны дзень падлічвалі на колькі дабавілася бактэрый, і як яны паядаюць нечыстоты, і калі дабіліся больш за 90% ачысткі, былі вельмі задаволены. Неўзабаве сцёкі з прамысловых прадпрыемстваў, жылля і аб'ектаў сацкультбыту былі забраны на ачышчальныя збудаванні і ў нізоўях р. Лідзейкі зноў з'явілася рыба. Добра была пастаўлена работа школ горада. Загадчыкі гарана Русак І. І., затым Мазоўка А.С., а яшчэ раней Дрэвіц шмат зрабілі для стварэння сеткі школ і дзіцячых устаноў, пастаноўкі вучэбна-выхаваўчага працэсу. Былі пабудаваны сярэднія школы № 6, № 7, № 11, № 8, № 4, а памяшканне былой школы № 8 было аддадзена пад музычную навучальню, адкрыццё якой было добрай падзеяй у культурным жыцці горада. У многіх школах вяліся прыбудовы, рэканструкцыі, ствараліся лепшыя ўмовы для дзяцей.

Вельмі важным аб'ектам у горадзе была ТЭЦ. Пабудаваная ў пачатку пяцідзесятых гадоў, яна патрабавала пастаяннага пашырэння, бо горад рос, і раслі патрэбы ў цяпле. Трэба аддаць належнае дырэктару Шчыцінай Н. М., а затым і Гардзіенку П. Р. наколькі ўмела яны кіравалі станцыяй: пастаянна ішла мадэрнізацыя абсталявання, укараняліся мерапрыемствы па эканоміі паліва, высокай была культура вытворчасці, ствараліся выдатныя ўмовы для працаўнікоў. Былі пабудаваны гасспосабам свой клуб, аздараўленчы комплекс, вялося добраўпарадкаванне тэрыторыі. У гэты час не было праблем з забеспячэннем горада цяплом, хаця давалася гэта няпроста.

Восенню 1973 года Кабяк С. Т. перайшоў на працу ў абкам партыі на пасаду 2-га сакратара, а займаўшы гэты пост Фамічоў Р. Ф. стаў старшынём аблвыканкаму. Паколькі яны абое - былыя лідзяне, мы добра адчувалі з іх боку спрыяльныя адносіны да горада. Менавіта ў гэты час пачала пашырацца ідэя аб рэстаўрацыі Лідскага замка. Фамічоў Р. Ф. вельмі добра аднёсся да гэтай задумы, тым больш, што быў добры прыклад у суседзяў – літоўцаў: у гэты час вялася рэстаўрацыя ў Троках, у атачэнні азёр, замка – былой рэзідэнцыі нашых князёў у 14-15 стагоддзях. Некалькі разоў Рыгор Філатавіч вёў размовы з тагачасным міністрам культуры рэспублікі, і паступова ішло і расло перакананне ў тым, што Лідскі замак можна аднавіць. Хаця было нямала скептыкаў і супраціўнікаў, якія гаварылі, што няма патрэбы аднаўляць замак, паколькі замак будаваў, маўляў, літовец Гедзімін, а яны, літоўцы, некалі захапілі Беларусь – вось такая памылковая думка існавала ў афіцыйнай гістарыяграфіі таго часу. На самой жа справе этнічныя продкі летувісаў – жмудзіны ніколі не мелі варожых стасункаў з этнічнымі продкамі беларусаў – ліцвінамі. У тыя часы гэтыя дзве этнічныя групы жылі адной дзяржавай у міры, згодзе і дружбе.

Праз некаторы час, калі ідэя пачала выспяваць і пашырацца, удалося ўключыць у план работ рэспубліканскай рэстаўрацыйнай майстэрні гэты аб'ект. Для таго, каб да гэтай справы падысці грунтоўна, была выпрацавана канцэпцыя: 1) сабраць гістарычныя звесткі пра замак, 2) сабраць па магчымасці графічны матэрыял, 3) правесці раскопкі на месцы і вывучыць увесь культурны пласт. Затым на першым этапе правесці кансервацыю рэшткаў замка, скласці праект рэстаўрацыі і прыступіць да аднаўленчых работаў.

Кіравалі гэтымі справамі гісторык і археолаг Алег Трусаў і кіраўнік і аўтар праекту рэстаўрацыі архітэктар Сяргей Багласаў. У той час у вобласці не было сваёй структурнай адзінкі, якой можна было б даручыць гэтую работу, бо ні адна падрадная арганізацыя не хацела (і прымусіць было немагчыма) ўзяць у работу гэты аб'ект. Давялося ствараць сваю брыгаду, каб зрушыць справу з месца. Узначаліў гэтую брыгаду і рэстаўрацыю майстар Іосіф Мацейка, ураджэнец Іўеўшчыны, вельмі сціплы і добрасумленны чалавек. Вельмі добра дапамагалі ў гэтым тагачасны дырэктар Сельмаша Міхаіл Хашынскі і яго намеснік Уладзімір Бубен. Менавіта на заводзе былі зроблены рыштаванні, без якіх немагчыма было выконваць работы. Добра памятаю, як для кіраўніцтва завода і начальнікаў цэхаў у замку была праведзена экскурсія, якую вёў Алег Трусаў. Было бачна, як усім цікава было слухаць пра гісторыю замка, г. Ліды і краю, у чарцяжах і малюнках убачыць веліч гэтага збудавання, і адчуць талент і мудрасць нашых продкаў, стварыўшых такі шэдэўр свайго часу, які павінен заняць пачэснае месца ў сучаснай архітэктуры горада.

Каб прыцягнуць увагу жыхароў проста на вуліцы былі выстаўляны малюнкі будучага замка, каля якіх збіралася шмат людзей, прыходзілі вучні школ, для якіх часта праводзіліся экскурсіі. Вось так паволі пачыналася аднаўленне Лідскага замка, і з кожным годам гэты тэмп узрастаў. Пры сустрэчах з людзьмі і гаворках з імі, калі размова ішла пра родны горад, адчувалася, што паступова расло ўсведамленне: Лідскі замак – гэта нацыянальны здабытак беларусаў, іх гісторыя, іх гонар.

Асобным клопатам гарвыканкаму была забудова і добраўпарадкаванне горада. Знешні выгляд, добрая планіроўка, наяўнасць зручнасцяў для задавальнення патрэб людзей, добрая якасць будаўнічых работ – гэта, так бы мовіць, візітная картка любога паселішча. Добра разумеючы гэта, трэба было стварыць адзіны вытворчы і тэхналагічны ланцуг, пачынаючы ад праектавання, наяўнасці матэрыялаў, абсталявання, кваліфікаваных кадраў, якія маглі б усё гэта рабіць. Гэта павінна было стаць сістэмай.

У 1970 годзе мне давялося пабыць у Балгарыі, паглядзець забудову толькі што створанага балгарамі новага курорта Албена на Чорным моры

і адпачыць там. Уразіла планіровачнае рашэнне ўсёй забудовы, якасць будаўніцтва, высокая ступень добраўпарадкавання і азелянення, прастата і зручнасць ва ўсім. Адчувалася кваліфікаваная прадуманасць усяго комплексу. У наступным годзе падчас паездкі ў Польшчу ўдалося пабачыць заходнія гарады Легніцу, Шчэцін, Калабжэг і там яшчэ раз пераканацца, што значыць для горада якаснае добраўпарадкаванне.

Для сябе было вырашана: 1. Нічога не рабіць у спешцы, без дэтальна прапрацаванага праекту, без бачання канчатковага выніку, каб пазбегнуць пераробак; 2. Не распыляць сілы і сродкі; калі штонебудзь пачалі рабіць, то даводзіць да канца. 3. Прадугледжваць максімум выкарыстання мясцовых, танных матэрыялаў: натуральны камень, бетонная плітка, зялёны газон, кусты і кветкі. 4. Не “вынаходзіць ровар”, а выкарыстоўваць навейшыя дасягненні і ў краіне, і за мяжой. Для гэтага не шкадаваць грошай на спецыяльныя часопісы і літаратуру. 5. Стварыць у складзе рамонтна-будаўнічага ўпраўлення ўчастак па добраўпарадкаванні, а ў зелянгасе па азеляненні, мець там добрыя кадры, якія маглі б якасна выконваць работы. Толькі ўсё гэта магло, калі рабіць сістэмна, вывесці добраўпарадкаванне горада на новы, больш высокі ўзровень.

У 1970 годзе галоўны архітэктар горада Кміта Р. з’ехаў на сваю радзіму у Віцебскую вобласць.

І вось у 1971 годзе пасля заканчэння архітэктурнага факультэта Берасцейскага інжынерна-будаўнічага інстытута прыязджае Пархута Анатоль Сяргеевіч. Прыехаў маладзенькі хлапчук, але ўжо з сям’ёй, што гаварыла аб сур’ёзнасці яго, вельмі сціплы і акуратны. З першых крокаў яго работы на пасадзе галоўнага архітэктара горада адчулася, што ён добра валодае ведамі атрыманымі ў інстытуце, тонка адчувае і добра знае законы прыгажосці і свой фах. Па меры набыцця доследу і дальнейшай працы ён, як ніхто, дакладна і чотка рыхтаваў усе праекты рашэнняў, выдатна арганізоўваў працу свайго калектыву. Калі сказаць агульна - гэта надзвычай таленавіты чалавек, мой аднадумца і добры памочнік у працы.

У гэты час завяршалася будаўніцтва гарадской гасцініцы. Было вырашана пачаць добраўпарадкаванне каля яе не так, як было прадугледжана праектам, а на больш высокім узроўні. Пад кіраўніцтвам Пархуты яго супрацоўнікамі праект быў “пералапачаны”, і пачалося ажыццяўленне намечанага. Затым пачалася работа над пляцоўкай перад замкам, каля касцёла, затым па вул. Савецкай ля музычнай навучальні. Памятаю, як даводзілася вытрымліваць супраціў каталіцкіх вернікаў. Старшыня касцельнай рады Дамжальская не раз заходзіла і скардзілася, што тратуар з боку гасцініцы блізка падыходзіць да касцёла. Аднаго разу па папярэдняй дамоўленасці да мяне завітаў ксёндз Станіслаў Роек па гэтым жа пытанні. На чарцяжах яму было паказана, як будзе выглядаць добраўпарадкаванне вакол касцёла, што будзе прыведзены ў парадак касцельны калодзеж, што будуць стаяць вакол лаўкі на якіх можна будзе пасядзець, быў прыведзены прыклад Друскеніцкага касцёла, вакол якога створаны выдатны зялёны газон, і Роек, як здавалася, застаўся задаволеным, бо болей гэтага пытання не ўзнікала. Адначасова ў гэты час вялася рэканструкцыя вул. Ленінскай і Камуністычнай. Калісьці гэта былі вузкія вуліцы з забудовай вакол іх драўлянымі дамамі, цяпер жа патрабавалася зрабіць двухпалосную вуліцу з трохрадным рухам транспарту ў адзін і другі бок. І тут не абышлося без прапрацовак Пархуты А.С. Пры гэтым нельга было марудзіць, бо поўным ходам ішло будаўніцтва шпяхапроваду. Пазней, як ужо пачало вымалёўвацца характво добраўпарадкавання ў горадзе, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі звярнула на гэта ўвагу і недзе ў 1975 ці 1976 годзе быў праведзены рэспубліканскі семінар, на якім быў разгледжаны досвед работы па добраўпарадкаванні, падведзены вынікі і намечаны новыя, больш высокія рубяжы. Тады ж удалося дамовіцца з міністам Бязлюдавым А. Г. аб выдзяленні каля дзесяці штатных адзінак для стварэння падраздзялення па праектаванні аб’ектаў дабраўпарадкавання. Гэта вызваляла на другія справы супрацоўнікаў аддзела архітэктуры, але ўсяроўна Пархута заставаўся ідэйным кіраўніком і душой у новым калектыве. У рэспубліцы нідзе такіх структур не было, і гэта быў добры прэцэндэнт. Начале калектыву стаў Станіслаў Васілеўскі. Цяпер нават невялікія ўчасткі мелі праектнае рашэнне. Для ўкаранення ўсяго гэтага ў справу ў складзе рамонтна-будаўнічага ўпраўлення, якім кіраваў Станіслаў Філіповіч, стварылі адмысловы ўчастак начале з Антонам Алексіевічам, які з кожным годам нарошчваў аб’ём работ, лепей аснашчаўся абсталяваннем і ін-

**Капітальныя ўкладанні дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемстваў і арганізацый (у каштарысных цэнах, уведзеных з 1 студзеня 1976 года; мільёнаў рублёў)**

| Гарады | 1970 г. | 1971-1975 г.г. | 1975 г. | 1976 г. | 1977 г. | 1978 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Горадня | 96,8 | 412,0 | 99,2 | 115,1 | 143,7 | 171,1 |
| Ваўкавыск | 6,7 | 25,7 | 5,7 | 9,6 | 9,6 | 9,6 |
| **Ліда** | **19,9** | **107,4** | **26,3** | **28,1** | **26,3** | **22,5** |
| Наваградак | 3,4 | 17,6 | 3,8 | 9,9 | 7,7 | 6,9 |
| Слонім | 4,0 | 35,0 | 9,7 | 14,1 | 33,9 | 16,9 |
| Скідзель | 1,9 | 4,4 | 1,1 | 2,8 | 2,9 | 2,1 |
| Масты | 1,8 | 15,1 | 5,3 | 4,3 | 4,2 | 2,0 |
| Ашмяны | 1,8 | 12,7 | 3,4 | 4,0 | 2,9 | 2,9 |
| Смаргонь | 2,3 | 17,5 | 4,1 | 4,4 | 9,2 | 10,9 |
| Шчучын | 3,1 | 18,8 | 4,1 | 3,9 | 3,9 | 3,2 |

**Увод у дзеянне жылых дамоў дзяржаўнымі і кааператыўнымі прадпрыемствамі і арганізацыямі і жылкааперацыяй (тысяч квадратных метраў агульнай (карыснай) плошчы)**

| Гарады | 1971-1975 г.г. | 1975 г. | 1976 г. | 1977 г. | 1978 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Горадня | 542,5 | 110,8 | 119,5 | 121,2 | 154,8 |
| Ваўкавыск | 56,6 | 11,1 | 10,5 | 15,1 | 14,6 |
| **Ліда** | **160,8** | **33,4** | **22,3** | **30,8** | **40,6** |
| Наваградак | 25,8 | 13,2 | 13,3 | 12,3 | 8,2 |
| Слонім | 47,5 | 13,1 | 4,7 | 15,5 | 7,2 |
| Скідзель | 5,3 | 0,5 | 2,4 | 2,1 | 0,9 |
| Масты | 12,9 | 0,5 | 7,6 | 7,5 | 0,7 |
| Ашмяны | 10,8 | 0,6 | 5,5 | - | 8,5 |
| Смаргонь | 19,5 | 11,5 | 17,1 | 15,1 | 10,7 |
| Шчучын | 20,6 | 0,7 | 0,4 | 6,7 | 0,05 |

струментамі, павышаў якасць работ. Усе прынятыя і ўкаранёныя меры значна паскорылі ход спраў па добраўпарадкаванні, надалі гэтай рабоце арганізацыйную і тэхналагічную завершанасць, стварылася пэўная сістэмнасць. І, бадай самае галоўнае, у адрозненне ад самых добрых ці пустых слоў, усе ўдзельнікі працэсу адчулі асалоду ад зробленага і ўбачанага наяву.

З кожным годам горад набываў лепшае аблічча, і гэта было заўважана. У канцы 1978 г. Савет Міністаў БССР прыняў адмысловую Пастанову, у якой быў адобраны досвед работы Лідскага гарвыканкаму па добраўпарадкаванні горада і рэкамендавана ўсім выканкамам рэспублікі ўкараняць гэты досвед у сябе. У горад пачалі прыязджаць, хто па дамоўленасці, а хто і інкогніта, з розных мясцін Беларусі, каб азнаёміцца з тым, што рабілася.

Вось так, паступова, з году ў год, у закончаным на высокім узроўні выглядзе, кавалак за кавалкам расло добраўпарадкаванне і забудова горада, набываючы цэльнасць і добры выгляд. І рабілася гэта не на год і не на два, вось і сёння, праз 30 год, многае са зробленага добра служыць людзям.

У сярэдзіне 70-х гадоў актыўна пачалася работа ў мікраараёне, які назвалі імем Касманаўтаў. Гэта была цяжкая праца, бо на тым месцы была старая, драўляная забудова, якую трэба было знесці; падвесці камунікацыі цяпла, вады і каналізацыі з помпавай станцыяй. У гэты час акрамя трэста № 19 у горадзе стварылі ўчастак Гарадзенскага домабудаўнічага камбіната, што дазволіла значна павысіць тэмп будоўлі жылля. Амаль штогод у горадзе ўводзілася ў дзеянне да 1000 кватэр, акрамя гэтага - гандлёвыя плошчы і плошчы прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, і ўжо пад канец 70-х гадоў ад вул. Ленінскай да Міцкевіча і паміж чыгункай і вул. Перамогі мікраараён прыкладна на 15 тыс. жыхароў набыў сваю завершанасць. З 1973 года першым сакратаром гаркаму партыі на працягу 5-ці гадоў працаваў Грыцэнка Барыс Фёдаравіч, які да гэтага ў Мастах працаваў старшынём райвыканкаму. Ён быў вельмі разважлівы чалавек, беражліва адносіўся да кадраў, паважаў чужую думку і даваў добрую свабоду ў дзеяннях выканкаму і кіраўнікам – гаспадарнікам, не займаўся дробязнай апекай.

На гэты час узнікла неабходнасць стварэння адміністрацыйна-культурнага і гандлёва-бытавога цэнтра. І зноў - такі за гэтую справу ўзяўся Пархута В. С. Высілкамі супрацоўнікаў аддзела архітэктуры і яго асабіста было зроблена некалькі варыянтаў планіроўкі цэнтра, якімі прадугледжвалася размяшчэнне ўнівермага, дома быту, дома культуры і адміністрацыйных будынкаў. Пасля ўсебаковага разгляду на сесіі гарсавету быў выбраны канчатковы варыянт і пачалося праектаванне рабочай дакументацыі. Добрыя парады і дапамогу ў забудове цэнтра мы атрымалі ад былога галоўнага архітэктара нашай вобласці Качанкі У. Р., які ў гэты час працаваў у Менску ў інстытуце БелНІІП горадабудаўніцтва і адначасова быў аўтарам праекту нашага гарадскога Дома культуры. Менавіта яго высокае прафесійнае майстэрства дазволіла стварыць тэхналагічна зручны, вельмі кампактны і цікавы па сваёй архітэктуры і інтэр'еру аб'ект, якім стаў Дом культуры.

Адначасова створанай праектнай групай вяліся прапрацоўкі пераўтварэння некалі праезджай вуліцы Чапаева ў пешаходную, выконваліся работы па добраўпарадкаванні вуліц Кірава, Перамогі, Камсамольскай. Завяршэнне будаўніцтва маста-плаціны на вул. Таўлая дазваляла спраектаваць і забудаваць вул. Таўлая на ўчастку ад вул. Савецкай да вул. Качана, тым больш што ўжо на гэты час было завершана будаўніцтва мікраараёна Расліякі.

У канцы 70-х гадоў пачалося будаўніцтва Дома быту, а акрамя гэтага пачалі праектаваць універмаг і Дом культуры таксама па індывідуальных праектах.

Як толькі пачало падыходзіць да завяршэння будаўніцтва завода "Оптык", пачалі праектаваць і забудоўваць мікраараён "Слабада" з галоўнай вуліцай імя Машэрава, у склад якога акрамя жылля ўвайшлі дзіцячыя сады, школы, аб'екты гандлю і бытавых паслуг. З заканчэннем і ўводам у эксплуатацыю магутнай кацельні завода "Оптык" для больш устойлівага цеплаазабеспячэння горада была запраектавана і пабудавана перамычка паміж цеплавымі сеткамі завода "Оптык" і гарадской ТЭЦ, якая перасякала чыгунку побач з шляхапровадам.

Жыццё і рост горада патрабавалі развіваць інжынернае забеспячэнне: будаваліся помпавыя станцыі і сеткі каналізацыі, павялічваліся магутнасці водазабору, станцыі другога пад'ёму і сеткі водаправода, асвойваліся ачышчальныя збудаванні, стваралася база жыллёва-камунальный гаспадаркі.

Прамысловасць горада таксама добра развівалася. Добра вёў забудову і работу аўтарамонтнага завода дырэктар Дулуб Ю. Д., Лакафарбавага завода – Міронаў Б. В., Лідсельмаша – Кашынскі М.А., Азаранка В. А., Скрабец Н. М., Бубен У. М., Завода электравырабаў – Грынюк П.Н., Піўзавода – Выгоўскі Э. Б., Камбіната харчовых канцэнтратаў – Цуй П. І., Малочнага завода Багамолаў Р. А., Нафтабазы – Дзяржынскі П., Аўтакамбіната – Рубцоў М. К., Аўтобуснатаксаматорнага парка Ашмяна Г., Мясакамбіната – Рындаў М.У., завода "Оптык" – Белавус А. І., Камбіната збожжапрадуктаў – Тарлецкі, Будаўнічага трэста № 19 – Антоненка В. М., Вендзілоўскі Л. Л., Каралёў Г. К., станцыі "Ліда" – Лявіцкі Л. М., паравознага дэпо Саянін Б.Н., дыстанцыі каляі Плахатнюк, прадпрыемстваў энергетыкі – Шчыцына Н. М і Карабан Н. П.

У складзе генеральнага плана горада была выдзелена і прапрацавана паўночная прамысловая зона. У гэты час пачалася яе забудова. Першай пачала ствараца магутная будаўнічая база міжкалгасных будаўнічых арганізацый у складзе Завода жалезабетонных вырабаў, Камбіната дрэваапрацоўкі і сталярных вырабаў, цэхаў па вырабу карамзіту. Затым пачалося будаўніцтва камбіната збожжапрадуктаў у складзе элеватара, млына і цэха камбікармовых прадуктаў.

Амаль адначасова пачалося ўзвядзенне машынабудаўнічага завода "Нёман", які ў той час адносіўся да Міністэрства радыёпрамысловасці СССР – гэта была абаронная галіна.

У 1978 г. г. Горадня святкаваў 850 годдзе, бо па летапісу ён быў заснаваны ў 1128 годзе, гэта было дакладна вядома. Горадня была ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Тады хтосьці ўнёс прапанову, што Ліда заснавана у 1180 годзе і ў 1980 г. будзе 800 гадоў – больш круглая дата. Гэтая думка паволі пачала ўкараняцца ў галовы. Сапраўды, у энцыклапедыі Бракгаўза і Эфране сказана, што Ліда заснавана пасля вялікага разарэння гэтых зямель у 1180 годзе…

Але калі звярнуліся у Інстытут гісторыі Акадэміі навук БССР, то гэтую дату навукоўцы пацвердзіць не змаглі. Дакладна было вядома, што ў 1323 г. Вялікі князь Гедзімін пачаў і ў 1326 г. у асноўным завяршыў будаўніцтва Лідскага замка, які ўваходзіў у сістэму абарончых збудаванняў нашай старажытнай дзяржавы. Але гэтая дата не ўпісвалася па тым часе ў юбілей, а святкаваць і пашумець сяму-таму хацелася. Напэўна, калі быў пабудаваны замак, то быў ён створаны не на пустым месцы, жылі тут і тыя, хто будаваў і гаспадары замка. Пачаўся пошук іншых дат.

І тады спыніліся на тым, што быццам бы сын Гедзіміна, Альгерд у 1380 годзе падараваў замак для свайго слугі па імені Вайдыла. Хаця было вядома з дакументаў, што яшчэ раней у 1346 г. Альгерду Ліду падараваў яго родны брат Кейстут. Тым не менш дата юбілею акруглілася, і пачалі рыхтавацца да 600-годдзя. Адбыўся казус і з узнагароджаннем горада. Былі аформлены дакументы на атрыманне ордэна "Знак Пашаны", аднак паколькі гэтае пытанне вырашала Масква, то там хтосьці засумняваўся ў правільнасці даты і ўзнагароджанне да свята застапарылася. Тады Рэспубліка тэрмінова ўзнагародзіла горад Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР

Але неўзабаве, не ведаю пад чыім уплывам, было прынята рашэнне аб узнагароджанні горада і ордэнам "Знак Пашаны" Такім чынам горад атрымаў дзве ўзнагароды з выпадку 600-годдзя, хаця пры гэтым дакладная дата заснавання горада была сфальсіфікавана. Святкаванне прайшло масава на стадыёне і ў іншых месцах горада з вялікай помпай, безумоўна было весела і цікава.

Са з'яўленнем у горадзе заводаў "Оптык", "Нёман", камбіната хлебапрадуктаў, а таксама пастаяннае пашырэнне існых прадпрыемстваў пачаў узнікаць дэфіцыт водазабеспячэння. Было вырашана за кошт прадпрыемстваў пачаць стварэнне на р. Нёман вадазабору тэхнічнай вады і пракладкі ў горад вадавода, і гэтая работа пачалася. Акрамя гэтага для забеспячэння завода "Оптык" газам ад магістральнага газаправода пабудавалі газаправод высокага ціску, і каля вёскі Астроўля стварылі новую ГРС, ад якой пачаўся адбор газу на тэхналагічныя патрэбы завода і для падачы ў жылыя дамы.

Створаныя добрыя перадумовы, дазвалялі гораду пастаянна з году у год добра забудоўвацца, пашыраца і добраўпарадкавацца. Былі наладжаны добрыя стасункі з абласнымі і рэспубліканскімі арганізацыямі і міністэрствамі. Добра адносіліся да заводаў Сельмаша, Электавырабаў, "Оптык", малочнага, лакафарбавага іх міністэрствы ў Маскве. Калі трэба было вырашыць аздабленне мармурам будынка ЗАГСа, то каменеперапрацоўчы завод г. Менска даў і пліты, і мармуровую крошку без праблем. Добрыя стасункі склаліся з Дзяржзабеспячэннем па забяспечванні патрэб горада ў бітуме і цэменце. Мікашэвіцкі завод "Граніт" і яго дырэктар Рудэнка Іван добра адносіліся да нас пры адгрузцы шчэбеню.

Са свайго боку мы стараліся, каб выдзеленыя капіталаўкладанні і матэрыялы былі скарыстаныя з толкам, без марнатраўства, бо ў вярхах былі страшна не задаволены, калі не выконваліся планы, і работы рабіліся не так, як трэба. І той выгляд горада, які ў выніку старанняў і працы гараджан ён набыў за тыя часы, дазволіў, каб пазней у 1985 годзе на базе горада Ліды, Мастоўскага раёна і г. Горадні, правесці Рэспубліканскі семінар і паказаць усёй рэспубліцы ўсё лепшае, што было зроблена. Тэма семінару была: "Забудова і добраўпарадкаванне сядзібных тэрыторый" – досвед работы Гарадзенскай вобласці. Вынікі таго семінару падводзіліся ў Лідзе ў актавай зале будаўнічага трэсту № 19, і работа па забудове і дабраўпарадкаванні горада была высока ацэнена спецыялістамі – будаўнікамі і архітэктарамі. Быў адзначаны грунтоўны падыход да справы, з глыбокімі ведамі, без дылетанцтва. У сярэдзіне 70-х гадоў пачалася масавая забудова гарадскіх мікраараёнаў "Маладзёжны", дзе ў асноўным

адводзіліся зямельныя ўчасткі для індывідуальнага будаўніцтва грамадзян, а таксама "Індустрыяльны", які фармаваўся, як "спальны раён" для паўночнай прамысловай зоны, дзе гаспадарамі былі: КБМ, Камбінат збожжапрадуктаў і завод "Нёман".

Пэўная работа праводзілася па транспартным абслугоўванні людзей. У 1972 годзе па дамоўленасці з вайсковымі авіятарамі і іх кіраўніцтвам у Менску ажыццявілі план сумеснага выкарыстання вайсковага аэрадрома для палётаў у Менск цывільных самалётаў. З Ліды ў Менск і назад пачалі лятаць самалёты – спачатку АН-32, а пазней ЯК-40. Гараджане былі вельмі задаволены, бо на пералёт затрачвалася ўсяго 20 хвілін. Пазней, недзе ў 1976 годзе, калі на аэрадром прыбыла новая, больш сакрэтная тэхніка, вайскоўцы адмовіліся ад сумесных палётаў. Але да гэтага часу завяршылася будаўніцтва больш простай аўтадарогі Менск-Ліда, траса якой стала карацейшай на 18 км. і склала толькі 165 км. Тады з удзелам дырэктара аўтобуснага парка Ашмяны Г. удалося ўгаварыць Міністэрства аўтатранспарту рэспублікі, канкрэтна намесніка Міністра Галецкага А.Г. упершыню ў Рэспубліцы адкрыць экспрэсны маршрут аўтобуса з Ліды ў Менск, бо да гэтага аўтобусы заходзілі ў Іўе і Валожын, прыпыняліся каля розных населеных пунктаў і трацілі многа часу. На новую дарогу пачало затрачвацца нямногім больш 2-х гадзін. З невялікім прамежкам часу гэты экспрэсны маршрут настолькі прыжыўся, што ўзнікла патрэбнасць адкрываць яшчэ адзін рэйс, больш таго гэта былі вельмі рэнтабельныя рэйсы. Аналагічныя экспрэсы па прыкладу Ліды пазней пачалі курсіраваць з Менска і ў іншыя гарады Рэспублікі.

Усё, што рабілася ў горадзе ў тыя часы, рабілася пад кіраўніцтвам выканкаму і гарадскога Савету. Як правіла, пытанні плану і бюджэту па тагачаснаму статусу выканкаму і гарадскіх Саветаў вырашаліся на сесіях гарадскога Савету, пытанні перспектыўнага развіцця і іншыя стратэгічныя пытанні таксама разглядаліся на сесіях, якія праводзіліся адзін раз у квартал. Усе бягучыя пытанні жыцця горада арганізоўваліся і вырашаліся на паседжаннях выканкаму, а таксама на розных, так званых "штабах", на канкрэтных аб'ектах, на планёрках, у працоўных калектывах. І ўсе пытанні, якія ўзнікалі і патрабавалі ўмяшання выканкаму, вывучаліся, і па іх прымаліся адпаведныя меры. Многія пытанні паспяхова вырашаліся ў адпаведных аддзелах і службах выканкаму і, трэба адзначыць, што ўсе загадчыкі аддзелаў і служб кваліфікавана і адказна вялі справы ў сваіх падраздзяленнях. Усё, што рабілася ў горадзе, добра асвятляў на старонках газеты "Уперад" галоўны рэдактар Жалкоўскі А. В. Гэта быў, можна смела сказаць, летапісец Лідчыны.

Добра быў наладжаны кантроль з боку агульнага аддзела (Петрачэнка Р. Г., Кур'ян Р.А., Ткачова Т.К.) за выкананнем рашэнняў.

Вельмі сумленна працавалі намеснікі старшыні выканкаму Астрэйка Ф. І. Дземідовіч А. Ю. Аўдзеенка Ц. К., Зарэмба С. А., сакратар выканкаму Дзенісенка Г. В.

Надзвычай складаны ўчастак быў у Астрэні Ф. І., які курыраваў працу гарадской гаспадаркі, размеркаванне жылля, асабліва ў часы, калі ўводзілася амаль па 1000 кватэр у год. Тады ўзнікала мноства скаргаў, таму строга па закону і справядліва трэба было наглядаць за гэтым. За ўвесь час працы мы былі спакойныя, што памылак і парушэнняў не будзе, і іх не было. За час работы лік скаргаў скараціўся з амаль 1500 у год да меней чым 1000, бо ніхто ніколі не даваў пустых абяцанак, а калі былі парушэнні, то ў такіх выпадках быў аб'ектыўны падыход да іх ліквідацыі.

Вось так з году ў год, з месяца ў месяц, з дня ў дзень вялася планамерная, мэтанакіраваная праца па забудове і добраўпарадкаванні горада, вырашэнні надзённых патрэбаў насельніцтва.

Што яшчэ дапамагала вырашаць пытанні? Мой старэйшы брат Васіль працаваў ляснічым на возеры Свіцязь. Яшчэ з маладых часоў ён сабраў у сябе бібліятэку старых кніг, многія з якіх тычыліся гісторыі нашага краю. У яго было вельмі многа сяброў з Менска, Баранавічаў і іншых мясцін, якія прыязджалі адпачыць на легендарным возеры і заадно пасядзець за цікавай кнігай. У яго гасцілі Андрэй Вазнясенскі, Янка Брыль, Данута Бічэль, мноства карэспандэнтаў розных газет і часопісаў і іншых цікавых людзей, сярод іх была яшчэ і Царук Іраіда Восіпаўна – дэкан гістарычнага факультэта БДУ, родная сястра Сяргея Прытыцкага.

Дык вось, калі ў 1975 годзе прыступілі да рэстаўрацыі Лідскага замка, з яе боку была аказана вялікая дапамога ў накіраванні ў Ліду студэнцкіх аддзелаў для раскопак і рэстаўрацыйных работ. І гэта рабілася на працягу некалькіх гадоў. Кіраваў тады гэтай справай малады гісторык Алег Трусаў.

І яшчэ, менавіта ў брата на Свіцязі, я пазнаёміўся з Артурам Чупецкім, дырэктарам Баранавіцкага завода сянажных вежаў. Яго спрыяльныя адносіны дапамагалі гораду атрымоўваць з завода для добраўпарадкавання вуліц сянажную плітку, калі вялі работы каля гасцініцы, касцёла, замка, на вуліцы Ленінскай, бо гэта па тым часе быў самы лепшы матэрыял.

Там жа на Свіцязі пачалі складацца добрыя адносіны з работнікамі з Саўміна і Дзяржплана Беларусі. Вельмі многа ў вырашэнні праблемаў будоўлі ў горадзе дапамагалі былы мой інстытуцкі аднакашнік Чарняўскі Генадзь, які кіраваў аддзелам падрадных работ Дзяржкаму, Аляшкевіч Валодзя – загадчык аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама намеснік Старшыні Дзяржплана Шварцбург Пётр Ільіч. Менавіта апошні паводле нашага абгрунтавання прымаў канчатковае рашэнне па будаўніцтву ў горадзе шляхапровада. А каб прыняць рашэнне мы павінны былі вельмі моцна абгрунтаваць, бо аб'ект па тагачасных цэнах патрабаваў каля 10 млн. рублёў капітальных укладанняў: сам маставы пралёт – 3,5 млн., падходы з аднаго і другога боку – амаль столькі ж, ну і патрабавалася пабудаваць каля



**Супрацоўнікі гарвыканкаму 1 траўня 1979 г. Злева направа: Аўдзеенка Ціхан Кузьміч - нам. стар. гарвыканкаму, Дзядзькова Аляксандра Іосіфаўна - старшыня планавай камісіі, Логаш Уладзімір Міхайлавіч - старшыня гарвыканкаму, Прахарэнкава Ганна Андрэеўна - заг. ГарФО, Астрэйка Фёдар Іванавіч - 1-шы нам. стар. гарвыканкаму, Пархута Анатоль Сяргеевіч - гал. архітэктар.**

сотні кватэр каб знесці старое жыллё па вул. Ленінскай і Камуністычнай і перасяліць туды жыхароў. Не менш складана было ўбіцца ў план праектавання аб'екта і ў планы падрадных арганізацый.

Сам маставы пераход праектаваў інстытут "Дарпраект", а падраднай арганізацыяй па яго будаўніцтву быў Берасцейскі мостабудаўнічы аддзел № 5. Па ўсіх гэтых пытаннях вельмі часта даводзілася выязджаць у Менск, хадзіць з дзвярэй у дзверы да розных адказных асобаў, удзельнічаць у нарадах, весці перамовы, даказваць, пераконваць і схіляць на свой бок іх погляды. Што яшчэ спрыяла ў вырашэнні пытанняў? У 1971 годзе мяне абралі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Дэпутацкі значок і пасведчанне дазвалялі больш проста заходзіць да высокіх начальнікаў і ў Дзяржплане, і ў Саўміне, і ў міністэрствах Рэспублікі, і, нават, у Маскве, дзе даводзілася часта бываць, было прасцей сустрэцца з патрэбнымі людзьмі ў Міністэрстве абароннай прамысловасці СССР, Дзяржплане СССР, Міністэрстве хімічнай прамысловасці СССР, каб вырашаць пытанні будаўніцтва заводаў "Оптык", Лакафарбавага і другіх гарадскіх аб'ектаў.

Менавіта дэпутацтва дапамагло і пры вырашэнні пачатку будаўніцтва шляхапровада і рэканструкцыі вул. Ленінскай. Памятаю, як Шварцбург П.І. гаварыў, што ў нас у Оршы, Баранавічах яшчэ складаней, а вы тут лезеце. І толькі пасля таго, як я пабываў у сакратара ЦК КПБ Калакалова Ю.Б. і ў телефоннай размове са Шварцбургам П.І. апошні даводзіў яму тое самае, Калакалоў сказаў: "Давайце стварацъ прэцэдэнт" і справа зрушылася.

Аналагічна вырашаліся пытаніі па праектаванні ліўневай каналізацыі. Толькі Чарняўскі і Аляшкевіч вырашылі ўключыць у план "Белдзяржпраекту" яе праектаванне, а пазней і капітальныя ўкладанні ў яе будаўніцтва. З дапамогай Міністра меліярацыі воднай гаспадаркі Рэспублікі Паўлючука Уладзіміра Іосіфавіча было даручана інстытуту "Гіправадчас" зрабіць праект рэгулявання рэчкі Лідзейка, якім было прадугледжана ўтварэнне ў межах горада 4-х азёр: 1) па вул. Свярдлова, 2)насупраць Сельмаша, 3) каля піўзавода і 4) у раёне нафтабазы. На два з іх неўзабаве (на вул. Свярдлова і насупраць піўзавода) былі выкананы рабочыя праекты. Пры падрыхтоўцы дакументацыі на возера па вул. Свярдлова добра паспрыяў дырэктар саўгаса "Лідскі" Мацей Крыніцкі, бо возера ў 1962 годзе ўтваралася ў пойме Лідзейкі парослай хмызнякамі на землях саўгаса. Затое Лідскі райкам партыі пачаў выказваць сумніў, але старшыня райвыканкаму Бурлыка Іван Рыгоравіч усётакі прыняў рашэнне і ўзгадніў гэтую будоўлю. У 1973 годзе Міністэрства меліярацыі і воднай гаспадаркі выдзеліла грошы і праз два гады будоўля была завершана. Што датычыцца возера насупраць піўзавода, то тады па вул. Таўлая ў складанейшых умовах была пабудавана – мостаплаціна, якая была самым важным элементам для стварэння возера.

Час, які звязаў мяне з Лідай быў вельмі цікавым. Гэта быў час росквіту планавай эканомікі, адзяржаўлення ўсіх сфер жыцця, поўнага ўладарства і адначасова невялікай адказнасці партыйных органаў.

Усё было падпарадкавана плану, нават быў лозунг: "Выкананне плану – абавязак, перавыкананне – гонар". Без плану немагчыма было распачаць будоўлю, атрымаць матэрыялы ці абсталяванне, шукаць рабочых, атрымаць у банку заработную плату.

Вельмі важна было разабрацца, як фармаваўся план будаўнічых абот. А фармаваўся ён няпроста, пакуль трапляў на зацверджанне дзяржаўных органаў. Калі трэба было, скажам, уключыць аб'ект у план, патрэбны былі ўзгадненні ў міністэрствах, аблвыканкаме, многіх аддзелах Дзяржплану, у Саўміне. Дасведчаныя гаспадарнікі гэта добра ведалі. Добра помню, як дырэктар мясакамбіната Рынзаў Н.У. шмат пахадзіў па кабінетах у гэтых органах, каб уключыць у план будоўлю халадзільніка і рэканструкцыю забойнага цэха, я ужо не гавару пра тое, якіх намаганняў яму каштавала, каб дабіцца пачаць будоўлю па вынасу вытворчасці ў раён станцыі Гуды. Яго "высокасці плану" было падпарадкавана ўсё – ад выпуску іголкі да касмічнага апарата. Усім тады пастаянна ўбівалі ў галаву, што толькі планавая эканоміка ў стане забяспе-

чыць магутнасць дзяржавы і бязбеднасць існавання грамадзян. І яшчэ нам унушалі: дзяржава можа быць багатай і без багатага насельніцтва, і ўсе ў гэта верылі.

Калі ў тыя часы хто-небудзь лепей апрануўся, ці што лепшае купіў, ці наогул стаў багацейшым, то адразу да яго прыклейваўся ярлык – "куркуль". Амаль на усё існаваў дэфіцыт, адсюль нарадзіўся і блат. Самымі паважанымі людзьмі былі работнікі гандлю, складоў ці сферы паслуг. У людзей былі грошы, але атаварыць іх было складана. Вось такі быў час.

Тым не менш, калі якая будоўля траплляла ў план, за ходам яе ішоў жорсткі кантроль з боку партыйных, дзяржаўных органаў, народнага кантролю, амаль усе аб'екты своечасова здаваліся ў эксплуатацыю.

У сярэдзіне 1980 г. падчас святкавання так званага 600-годдзя мне стала вядома аб пераводзе мяне на пасаду загадчыка аддзела будаўніцтва Гарадзенскага абкаму КПБ, і на абласной партыйнай канферэнцыі ў канцы снежня я і быў у гэтай пасадзе зацверджаны. Цяжка было пакідаць Ліду, якую ведаў з маленства, і якой было аддадзена 26 гадоў працы. Пазней, працуючы на новай пасадзе, давялося займацца і ў Лідзе будоўляй такіх аб'ектаў, як Сельмаш, камбінат збожжапрадуктаў, камбінат харчовых канцэнтратаў, заводы "Нёман", "Оптык", "Ізатрон", дамы культуры і гандлю, аб'екты жылля і сацкультбыту.

Працавалася ў Лідзе вельмі добра, у калектыве былі добразычлівыя стасункі, без паскудстваў, звадак і інтрыг, былі і святы, дні нараджэнняў, якія хоць і сціпла, але адзначалі.

Я вельмі ўдзячны ўсім, з кім давялося працаваць у Лідзе, мець зносіны і разам жыць, і лічу сябе шчаслівым, што лёс завязаў мяне з гэтым цудоўным горадам і яго людзьмі.



**У. М. Бубен і У. М. Логаш - студэнты Беларускага палітэхнічнага інстытута. Праз некаторы час пасля выпуску абодва аказаліся ў Лідзе. Здымак 1952 года.**

Асобна хачу расказаць пра майго сябра Бубена Уладзіміра Міхайлавіча – дырэктара завода "Лідсельмаш" У 1950 годзе мы пазнаёміліся з ім у Беларускім палітэхнічным інстытуце – ён вучыўся на інжынера-механіка, а я на будаўніка. Знаёмства адбылося на рэпетыцыі інстытуцкага хору. Кіраўнік хору, прафесар кансерваторыі Маслаў, пасля праслухвання прызначыў нас абодвух у партыю басоў і мы з ім амаль на працягу 5-ці гадоў прастаялі побач, пасцігаючы харавое майстэрства. Вельмі часта даводзілася падчас летніх канікул бываць у яго сям'і. Бацька яго, айцец Міхаіл, працаваў святаром у саборы Навагрудка, а я кожнае лета праводзіў ва Усялюбе, за 14 кіламетраў ад Навагрудка, дзе мой старэйшы брат Васіль працаваў ляснічым. Што гэта была за сям'я? Бацька за польскім часам, сялянскі хлопец, беларус з-пад Маладзечна, пехатою дабраўся да Вільні з вялікай прагай да вучобы і паступіў у духоўную семінарыю вучыцца на святара.

З ім разам вучыўся Генадзь Цітовіч, які пазней стаў стваральнікам і кіраўніком дзяржаўнага народнага хору Беларусі і, як толькі бываў ў Навагрудку, ніколі не абмінаў гэтую сям'ю. Пасля заканчэння семінарыі айцец Міхаіл навучаўся ў Варшаўскім універсітэце на багаслоўскім факультэце і атрымаў ступень магістра.

Маці Уладзіміра Міхайлавіча паходзіла з сям'і святара і была глыбока набожнай жанчынай. Словам, бацькі былі высокаадукаванымі, інтэлігентнымі людзьмі, выхаванымі на хрысціянскіх каштоўнасцях і строга трымаліся іх. У сям'і панавалі павага, згода і паслушэнства.

Вась у такіх умовах вырас і злажыўся, як асоба, і сам мой сябар. Пасля заканчэння інстытута я паехаў на працу ў Ліду, а ён быў накіраваны ў Валагодскую вобласць на торфапрадпрыемства, там ажаніўся, і апошняя работа ў яго была – галоўны інжынер прадпрыемства. Мы пастаянна з ім перапісваліся, і я дамовіўся на Лідсельмашы пра яго ўладкаванне на працу. Пачынаў ён на заводзе інжынерам па абсталяванні. І, дзе ён ні працаваў, усюды яго паважалі падначаленыя. Гэта быў добрасумленны прафесіянал своёй справы, ад яго ніколі не чулася ні брыдкаслоўся, ні лаянкі. Але калі даходзіла да вылучэння на больш высокія пасады (у 1970 годзе – на пасаду дырэктара завода "Оптык") спрацоўвала "ідэалагічная несумяшчальнасць" – бо бацька святар. Яго не раз запрашалі да сябе чыноўнікі ад прапаганды і прапаноўвалі, каб ён угаварыў бацьку адмовіцца ад рэлігіі і сваёй пасады святара, чаго ён не мог зрабіць.

І толькі, калі пачалася гарбачоўская перабудова, і аслаблі ідэалагічныя шоры, ён быў нарэшце ў 1986 годзе прызначаны на пасаду дырэктара Сельмаша, прарабіўшы дагэтуль на пасадзе намесніка дырэктара амаль 20 гадоў. А зрабіў ён вельмі вялікі ўклад у будаўніцтва і развіццё завода, а таксама і горада, будучы амаль пастаянным членам гарвыканкаму розных кадэнцый. Калі трэба было вырашаць любое пытанне дапамогі гарадской гаспадрцы, ад яго ніколі не чулася слова:"Не, не магу". У горадзе сярод дырэктараў яго вельмі паважалі, а на заводзе, можна смела сказаць, яго любілі.

**Антось Савук**

# Лідскі вайсковы аэрадром (1919 – 1939)

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

## 11-ты полк знішчальнікаў

Загадам Генеральнага штабу Войска Польскага ад 28 лютага 1925 г. быў створаны 11-ы полк знішчальнікаў. Камандзірам яго быў прызначаны знакаміты і вельмі дасведчаны пілот-знішчальнік палкоўнік Ежы Касоўскі (Kossowski). Фармаванне палка праходзіла на Макатоўскім лётнішчы ў Варшаве, хоць па плану яго дыслакацыяй быў першапачаткова прадугледжаны аэрадром у Лідзе.



***Камандзір 11-га палка палкоўнік Е. Касоўскі***

Па задумцы новы полк быў трохдывізіённым. Дывізіёны павінны былі складацца з 2-х эскадрылляў. Кожная эскадрылля ў сваім складзе павінна была налічваць 10 асноўных і 3 запасныя самалёты.

На практыцы, давялося адступіць ад намечанага. Не хапала дасведчаных пілотаў. Давялося ў першую чаргу сфармаваць у палку адзін дывізіён і вучэбную эскадрыллю разам з неабходнымі тэхнічна-гаспадарчымі службамі. Агульная колькасць баявых самалётаў у палку склала 41 адзінку.



***Начальнік штабу (тактычны афіцэр) 11-га палка маёр-пілот В. Івашкевіч***

Першыя чатыры пілоты 11-га палка на самалётах Спад-61 (Spad-61) здейснілі пасадку на аэрадроме ў Лідзе ў кастрычніку 1925 года. За іх штурваламі былі: маёр Вітольд Прасіньскі (Prosiński) – камандзір дывізіёна, капітаны Тадэвуш Пятровіч (Piotrowicz), Ігнацы Праўдзіц-Сянкоўскі (Prawdzic-Sękowski) і паручнік Балеслаў Арліньскі (Orliński).

У студзені наступнага года ў Ліду прыбыла вялікая група персаналу (у асноўным тэхнічнага) і партыя авіяцыйнага абсталявання. У гэтым жа месяцы асабовы склад палка папоўніўся 120 афіцэрамі і жаўнерамі 4-ай авіяцыйнай роты, якая належала 41-му пяхотнаму палку ў Сувалках.



***Маёр-пілот Т. Пятровіч***

У той час аэрадром уяўляў сабой жудасны малюнак. Прыбыўшых вельмі ўразіў стан казармаў і іншых аэрадромных пабудоў. Усе яны доўгі час не эксплуатаваліся і знаходзіліся ў незакансерваваным стане. Памяшканні ангараў і рамонтных майстэрняў былі разрабаваныя і стаялі без вокнаў і дзвярэй з дзіравым дахам. Давялося тэрмінова рамантаваць жыллё, каб у ім можна было жыць. Вельмі ўскладніла сітуацыю ранняя суровая зіма і недахоп паліва. Лідскія ўмовы службы і побыту вельмі адрозніваліся ад варшаўскіх. Некаторыя вайскоўцы ўспрымалі перавод у Ліду, як пакаранне.



***Капітан-пілот І. Праўдзіц-Сянкоўскі***

Калі прыйшла вясна, тэрмінова пачалі займацца рамонтам казармаў, ангараў, клуба і іншых пабудоў. Прыводзілі да належнага стану лётнае поле: вычышчалі яго ад кустоў, вынішчалі пустазелле, засыпалі ямы, трамбавалі зямлю, сеялі траву.

Паступова пачалі паляпшацца ўмовы службы і жыцця персаналу 11-га палка знішчальнікаў, штат якога хутка папоўніўся. Камандаванне аэрадрома ў мэтах далейшага пашырэння палка 12 траўня 1926 года арганізавала курсы падрыхтоўкі пілотаў для афіцэраў іншых радоў войскаў. Інструктарамі былі прызначаны най-

больш дасведчаныя, адданыя сваёй справе пілоты, паручнікі: Казімір Кузян (Kuzian), Б. Арліньскі, Леапольд Памула (Pamula), Станіслаў Шчакоўскі-Вільк (Szczekowski-Wilk, кіраўнік курсаў), Эдвард Вянцкоўскі (Więckowski) і харунжы-пілот Баляслаў Шурлей (Szurlej). На падрыхтоўчыя курсы з энтузіязмам ішлі вайскоўцы. І гэта не гледзячы на тое, што ў 20-я – 30-я гады была вельмі высокай аварыйнасць самалётаў. З-за недахопу памяшканняў, курсанты жылі па 6-7 чалавек у адным пакоі. Падрыхтоўчая праграма прадугледжвала тэарэтычныя і практычныя заняткі. Практычныя заняткі, акрамя самастойных палётаў курсантаў (спачатку з інструктарам), прадугледжвалі між іншым адзіночны і групавы пілатаж. Свой перавод у 11-ы полк так апісвае пілот-знішчальнік у будучым пісьменнік Януш Майснер (Meissner): *“Размеркаванне ў 11-ы авіяцыйны полк з аднаго боку было шанцаваннем, бо палкоўнік Касоўскі сам выбіраў сабе пілотаў, а з другога боку – высылка, бо трэба было пакінуць Варшаву для такой “дзюры”, як Ліда...”*[1]



***Паручнік-пілот Эдвард Вянцкоўскі***



***Паручнік Л. Кжэміньскі***

У палку ўдасканаленне практычных і тэарэтычных ведаў, як асноўнай часткі персаналу, так і падрыхтоўка новых пілотаў, вяліся на высокім узроўні. Усё часцей і часцей яго выхаванцы прымалі ўдзел у шматлікіх конкурсах, пералётах і парадах. Пра іх часта пісала тагачасная прэса. Вялікімі былі заслугі злучэння ў справе прапаганды і папулярызацыі авіяцыі ў грамадстве. Пры ўдзеле 11-га палка была арганізавана “авіяцыйная нядзеля”: адбываліся агітацыйныя пералёты, у час якіх праходзілі паказальныя выступы пілотаў. У выніку ў авіяцыю прыйшло шмат добраахвотнікаў. Эскадрыллі палка былі цалкам укамплектаваныя, згодна з штатным раскладам.

14 ліпеня 1928 года, пасля прыняцця іншай канцэпцыі пабудовы лётных палкоў (па прынцыпах мяшанасці), 11-ты полк знішчальнікаў быў расфармаваны.



***Асабовы склад 11-га палка ў Лідзе. Здымак з асабістага архіву З. Харатынюка, Беласток.***

**Тактыка-тэхнічныя дадзеныя самалётаў, якія стаялі на ўзбраенні 11-га палка знішчальнікаў**

| Год пабудовы | Самалёт | Рухавік, магутн., к. с. | Даўжыня самалёта, м | Размах крылаў, верх/ніж. м | Вага, кг | | Хуткасць, максім, км/гадз | Столь, м | Далечыня палёту, км | Хуткапад'ёмнасць, м/с |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | пустога | палётная | | | | |
| 1918 | Баліла (Ansaldo A-1 „Balilla”) | 220 | 6,84 | 7,68 | 640 | 1073 | 210 | 5000 | 525 | 6,25 |
| 1915 | Фокер Д-7 (Fokker D-VII) | BMW iiia. 185 | 6.95 | 8.9 | 670 | 880 | 200 | 6400 | | |
| | Спад - 61 C1 (Spad 61 Cl) | | 6.30 | 8.28 | 600 | 857 | 220 | 6000 | 400 | 10.7 |

[1] *Meissner Janusz. “Wiatr wpodeszwach”, Iskry– Warszawa, 1976, s.38.*

**Камандзірамі палкаў розны час былі:**

палкоўнік-пілот **Е. Касоўскі** (травень 1925 – верасень 1927);

падпалкоўнік-пілот **П. Абакановіч** (Abakanowicz) (верасень 1927 – ліпень 1928).

Вось прозвішчы некаторых службоўцаў 11-га палка: капітаны Б. Арліньскі, Л., паручнікі Л. Кжэміньскі, А. Ціхоцкі, С. Гжыбоўскі, Э. Вянцкоўскі і харунжы Б. Шурлей.

**Свята палка (Дзень палка) – 31 траўня.**

**113-я эскадрылля знішчальнікаў**

**Эмблема эскадрыллі**: *акрыленая страла, якую выконвалі ў розным колеры, у залежнасці ад жадання пілота. Эмблему створыў паручнік-пілот К. Кузян*



Эскадрылля пачала ствараццa вясной 1925 года на Макатоўскім аэрадроме ў Варшаве. Яе арганізатарам і камандзірам быў капітан-пілот І. Праўдзіц-Сянкоўскі.

Першапачаткова 113-я эскадрылля знішчальнікаў была ўзброена самалётамі "Баліла", затым пераўзброілася французскімі самалётамі Спад-61 С1. У эскадрыллі было 10 баявых і 3 запасных самалётаў.

У канцы 1925 года эскадрылля перабазавалася ў Ліду. З надыходам вясны, пасля таго, як было падрыхтавана і падсохла поле, распачаліся вучэбныя і практычныя палёты. Адначасова з лётчыкамі праводзіліся тэарэтычныя заняткі. Хутка штат эскадрыллі быў укамплектаваны канчаткова. Маладыя пілоты пад наглядам інструктараў, старэйшых і дасведчаных лётчыкаў з энтузіязмам удасканальвалі свае тэарэтычныя і практычныя веды.

12 жніўня 1926 года ў час выканання трэніровачнага палёту на самалёце Спад загінуў камандзір эскадрыллі капітан І. Праўдзіц-Сянкоўскі. Выконваючы на малой вышыні пераварот, машына дакранулася канцом крыла зямлі.



*Баліла (Ansaldo A-1 „Balilla")*



*Спад - 61 С1 (Spad 61 Cl)*

Месца камандзіра эскадрыллі часова заняў паручнік-пілот К. Кузян.

У ліпені 1926 года 113 эскадрылля стала дейснай баявой адзінкай.

У жніўні – верасні 1926 года выхаванцы 113 эскадрыллі знішчальнікаў паручнік-пілот Б. Арліньскі і сяржант-механік Леанард Кубяка (Kubiaka) былі ўдзельнікамі грандыёзнага пералёту па маршруце Варшава – Токіё – Варшава. Пералёт працягласцю 22 600 км быў выкананы з 27 жніўня па 25 верасня (з палётным часам у 121 гадзіну) на серыйным самалёце Брэге 19 В2 (Breguet XIX B2). У тыя дні ўся Польшча ўважліва сачыла за звесткамі з пералёту.

Вельмі цёплай была сустрэча лётчыкаў у Токіё, шчырай – у Варшаве і сардэчной – у Лідзе. З кветкамі і авацыямі яго сустракалі на лётным полі аэрадрома ў Лідзе. На сустрэчу з героямі пералёту прыйшлі прадстаўнікі ўлады горада, камандаванне часткі і шматлікія жыхары.



*Сустрэча Баляслава Арліньскага ў Лідзе пасля пералёту Варшава-Токіё-Варшава*

З 1-га кастрычніка 1926 года капітан-пілот Б. Арліньскі стаў камандзірам 113 эскадрыллі знішчальнікаў.

Восень і зіму 1926 года пілоты 113 эскадрыллі правялі ў тэарэтычных занятках. Калі дазваляла надвор'е, адбываліся адзінкавыя і калектыўныя палёты ў раёне аэрадрома. Вясной і летам 1927 года асабовы склад эскадрыллі працягваў вучобу, выканаў праграмы ўдасканалення баявой пад-

рыхтоўкі, удзельнічаў у манёўрах войск акругі ў складзе трэцяга корпуса. 10 чэрвеня 1927 года ў вучэбным палёце на самалёце "Баліла" загінуў сяржант рэзервы пілот Ч. Чарнецкі. Пахаваны на Лідскіх парафіяльных могілках.



***Сяржант рэзервы пілот Ч. Чарнецкі***

Адначасова ў гэты перыяд разам з прадстаўнікамі 112 эскадрыллі пілоты выконвалі паказальныя палёты, дэманстрацыі авіяцыйнай тэхнікі з мэтай прапаганды лётнай справы. У мясцовага насельніцтва гэтыя мерапрыемствы выклікалі падвышаную цікавасць.



***Магіла Часлава Чарнецкага на Лідскіх парафіяльных могілках. Здымак С. Судніка, 2003 г.***

Вясной 1928 года пасля прасыхання лётнага поля аэрадрома зноў распачалася інтэнсіўныя вучэбныя палёты. 1 траўня 1928 года на самалёце Спад- 61 загінуў вядомы лётчык паручнік-пілот Аляксандр Ціхоцкі (Cichocki), які прынёс шмат славы польскай авіяцыі, падчас сваіх шматлікіх выступленняў на міжнародных спаборніцтвах і выставах.

У канцы жніўня 1928 года, калі ўжо выйшаў загад аб расфармаванні 11-га палка, капітан Б. Арлінькі перадаў камандаванне эскадрыллі паручніку-пілоту Яну Беламу (Białemu). Эскадрыллі яшчэ ў складзе 11-га палка давялося прымаць удзел у манеўрах на тэрыторыі паўночна-заходняй часткі Польшчы. У службовым палёце 20 верасня 1928 года на самалёце Спад-61 загінуў плютановы-пілот Аляксандр Уміньскі (Umiński).

Пасля заканчэння вучэнняў 113 эскадрылля знішчальнікаў была перададзена ў 2-гі авіяцыйны полк з дыслакацыяй у Кракаве, атрымаўшы новую назву: 121 эскадрылля знішчальнікаў.

**114 эскадрылля знішчальнікаў**

**Эмблема эскадрыллі**: <u>*белы "папяровы конік"*</u>

Эскадрылля пачала ствараццa летам 1925 года на Макатоўскім аэрадроме ў Варшаве на тэрыторыі 1-га авіяцыйнага палка. Яе арганізатарам і нязменным камандзірам на працягу ўсяго існавання эскадрыллі быў капітан-пілот Т. Пятровіч. Падраздзяленне было перамешчана на аэрадром у Ліду ў студзені 1926 года.



Лётны склад 14-ай эскадрыллі знішчальнікаў першапачаткова складаўся з пілотаў добраахвотнікаў 1-га палка. Затым папаўняўся дабраахвотнікамі з іншых палкоў і выхаванцамі эскадрыллі. Падраздзяленне спачатку было ўзброена самалётамі Фокер Д-VII, а затым пераўзброена на Спад 61 Cl, якія былі дастаўлены на аэрадром у Ліду па частках. Тэхнічны і наземны персанал складаўся з спецыялістаў 1-га авіяцыйнага палка.

Першы год знаходжання ў Лідзе для эскадрыллі склаўся ўдала. Асабовы склад займаўся вучобай, удасканаленнем тэарэтычных і практычных ведаў. Тое, што шматлікія пілоты эскадрыллі прыйшлі з 1-га палка, наклала на падраздзяленне свой адбітак. У 114 эскадрыллі знішчальнікаў панавала кракаўская школа пілатажу.

У 1927 годзе некаторым пілотам падраздзялення давялося прымаць удзел у дэманстрацыях авіяцыйнай тэхнікі на тэрыторыі Віленшчыны і Палесся. У гэтым жа годзе эскадрылля прымала ўдзел у летніх манеўрах паветраных войск, у ходзе якіх пілоты выконвалі вучэбныя стрэльбы на палігоне Пагулянка.

12 лістапада 1927 года ў трэніровачным палёце на самалёце Спад 61 загінуў паручнік-пілот эскадрыллі Мечыслаў Герман (Herman). З 18 лістапада 1927 года па 15 студзеня 1928 года часова выконваў абавязкі камандзіра эскадрыллі паручнік-пілот Генрык Віршыла (Wirszyłło).

Зімой 1928 года, як толькі дазваляла надвор'е, пілоты эскадрыллі працягвалі выконваць вучэбныя палёты. 21 студзеня ў час выканання пілатажу на самалёце Спад 61 загінуў дасведчаны пілот, улюбёнец эскадрыллі старэйшы сяржант Павел Стэнцал (Stencel). Катастрофа адбылася з-за таго, што адваліліся крылы самалёта.

Пасля атрымання загаду аб рэарганізацыі, 114 эскадрылля разам з 113-ай у верасні 1928 года адляцелі на Ракаўскі аэрадром каля Кракава,



***Фокер Д-7 (Fokker D-VII)***

увайшоўшы пад назвай 122 эскадрыллі ў склад 2-га авіяцыйнага палка.

**Біяграфічныя звесткі лётчыкаў 11-га палка:**

**Залескі** (Zaleski) **Адам** (2.08.1886 – 12.07.1926)


**Адам Залескі**

Нарадзіўся ў Варшаве. Закончыў Маскоўскі кадэцкі корпус (1904), Канстанцінаўскую школу артылерыі ў Пецярбургу, тэарэтычныя авіяцыйныя курсы пры Пецярбурскім палітэхнічным інстытуце(1913). Школу пілатажу прайшоў у Севастопалі. У годы І-й Сусветнай вайны камандаваў расійскай авіяцыйнай эскадрылляй, а затым дывізіёнам.



***Магіла Адама Залескага на Лідскіх парафіяльных могілках. Здымак С. Судніка, 2003 г.***

15 жніўня 1919 г. у званні палкоўніка ўступіў у польскія Вайскова-паветраныя сілы. Атрымаў пасаду камандуючага палявой авіяцыі. У ліпені 1920 г. камандуючы авіяцыяй абароны Варшавы. Пасля вайны каменданта Макатоўскага аэрапорта, з сакавіка 1922 г. намеснік камандзіра 2-га авіяцыйнага палка ў Кракаве.

26 лістапада 1925 г. пераведзены на такую ж пасаду ў 11-ы полк знішчальнікаў у Ліду.

Загінуў смерцю пілота 12 ліпеня 1926 г. Пахаваны на парафіяльных могілках у Лідзе.

**Касоўскі Ежы** (12.08.1892 – 6.08.1939).

Нарадзіўся ў Горадні. Скончыў Маскоўскі кадэцкі корпус, Міхайлаўскую школу артылерыі ў Пецярбургу (1913). Служыў у 5-ай артылерыйскай брыгадзе Сібірскіх стралкоў (1913 - 16), затым 17 КАА у якасці паветранага назіральніка (02 - 12.1916). Прайшоў курс у Школе пілатажу ў Севастопалі (12.1916 - 05.1917), дзе атрымаў дыплом пілота.

Вайсковы лётчык 13-га расійскага авіяцыйнага аддзела знішчальнікаў (05 - 11.1917). Не прыняў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Праз Сібір, Манчжурыю, Японію, ЗША у траўні 1918 г. дабраўся да Францыі. Удасканальваў лётнае майстэрства ў французскіх авіяшколах і лётных частках (07.1918 - 04.1919).


**Капітан Е. Касоўскі**

У канцы красавіка 1919 г. прыбыў у Варшаву. З траўня 1919 па лістапад 1920 г. ваяваў у складзе арміі генерала Галера, камандзір 5-ай авіяцыйнай групы, 5-га дывізіёну, камандуючы авіяцыі 3-й і 4-й армій Шлёнскага фронту.

У пасляваенны час - камандзір знішчальнага авіядывізіёна (1921 - 25).

**З 10 красавіка 1925 па верасень 1927 г. камандзір 11-га палка знішчальнікаў у Лідзе.** Інспектар знішчальнай авіяцыі ў Дэпартаменце авіяцыі пры Міністэрстве вайсковых спраў (1927 - 29). З 1929 г. – у адстаўцы. Пазней лётчык-выпрабавальнік. Быў вядомым пілотам вышэйшага пілатажу. Неаднаразова прымаў удзел у міжнародных спаборніцтвах.

У пачатку жніўня 1939 г. у прадчуванні блізкай вайны звярнуўся з просьбай аб мабілізацыі. Атрымаўшы адмову, пайшоў на самазабойства. Памёр Касоўскі ў шпіталі 6 жніўня 1939 г. Два дні пазней быў пахаваны на Ракоўскіх могілках у Кракаве. Кавалер ордэна “Віртуці мілітэры”.

**Майснер Януш** (27.01.1901 – 28.02.1978)

Нарадзіўся ў Варшаве. Закончыў гімназію (1915) г. Вучыўся ў Варшаўскай школе будовы машын і электратэхнікі. З лістапада 1918 г. у Войску Польскім - авіямеханік у Любліне, затым тэхнічны падафіцэр у Львове. Закончыў Кракаўскую школу пілотаў у канцы 1919 г., Вышэйшую школу пілотаў у Познані ў сакавіку 1920 г. Удзельнічаў у савецка-польскай вайне (07 - 10.1920). Камандзір дыверсійнай групы ў 3-м Шлёнскім паўстанні (1921). Падпаручнік 1-а авіяцыйнага палка ў Варшаве. Вясной 1924 г. скончыў трохмесячныя афіцэрскія курсы.


***Януш Майснер***

З восені 1925 г. працягваў службу ў **11-ым палку знішчальнікаў у Лідзе**, а з вясны 1926 г. – у Школе пілотаў у Быдгашчы. У верасні гэтага года прымаў удзел у 1-м паморскім кругавым палёце. З лістапада 1928 г. у Дэпартаменце Аэранаўтыкі пры Міністэрстве вайсковых спраў, інструктар-пілот, камандзір эскадрыллі Цэнтра падрыхтоўкі афіцэраў авіяцыі ў Дэмбліне (1930 - 32). Ад’ютант

палка, тактычны афіцэр, камандзір трэніровачнай эскадрыллі, намеснік камандзіра палкавой школы пілотаў у 2-м авіяпалку (1932 - 39).

У час Алімпіяды 1936 г. прымаў удзел у міжнародным злёце ў Берліне, заняў 5-е месца. З 31 ліпеня 1939 г.у званні капітана выйшаў у адстаўку. У верасні мабілізаваны, удзельнічаў у адным баявым вылеце. 19 верасня перайшоў польска-румынскую мяжу.

З 1930 г. займаўся літаратурнай дзейнасцю, у 1938 - 39 гг. супрацоўнічаў з рэдакцыяй часопіса "Млоды Заводовец". Вайсковы авіяцыйны карэспандэнт (1941 - 1945), начальнік аддзела прапаганды, прэсы і інфармацыі Польскіх паветраных сілаў (1945 - 46). У 1946 годзе вярнуўся ў Польшчу. Сябар Саюза польскіх літаратараў (1946). Выдаў 48 кніг, тры тамы ўспамінаў, 6 кінасцэнараў, збор выбраных твораў. Стаў класікам літаратуры пра авіяцыю. Памёр 28 лютага 1978 года ў Кракаве. Узнагароджаны "Крыжам валечных" (1920), ордэнам "Віртуці мілітэры" (1921), а таксама "Крыжам незалежнасці з мячамі".

**Стэнцал** (Stencel) **Павел Генрык** (16.10.1899 – 21.01.1928)

Нарадзіўся ў Юзэфаве.У 1917 г. быў мабілізаваны ў нямецкае войска. У 1918 г. трапіў у французкі палон. У лютым 1919 г. уступіў у армію генерала Галера. Закончыў школу падафіцэраў. Вярнуўшыся на радзіму служыў у 8-ай пяхотнай дывізіі (1919-20), пасля чаго ў парку ўзбраення 3-й арміі. Да чэрвеня 1922 г. у шэрагах войск Сярэдняй Літвы. Вучыўся ў лётных школах у Быдгашчы і Грудзёнску (1922 - 23). Пасля атрымання дыплома пілота ў верасні 1923 г. накіраваны ў 3-ці авіяцыйны полк.



*Павел Генрык Стэнцал*

**Служыў у званні старшага сяржанта-пілота ў 11 палку знішчальнікаў у Лідзе.**

**Загінуў смерцю пілота 21 студзеня 1928 г. Пахаваны на парафіяльных могілках у Лідзе.**



*Магіла Паўла Генрыка Стэнцала на Лідскіх парафіяльных могілках. Здымак С. Судніка, 2003 г.*

**Ціхоцкі** (Cichocki) **Аляксандр** (27.01.1900 – 1.05.1928).

Нарадзіўся ў Цеханаве ў сям'і Яна і Зоф'і з Сяцінскіх. Скончыў Кадэцкі корпус (1917). Не прыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Уступіў у белую армію генерала Карнілава, затым Урангеля. Служыць у званні падкапітана. У баях з бальшавікамі быў тры разы паранены. Вяртаецца ў Польшчу, у 1921 г. у званні шарагоўца ўступае ў Войска Польскае. Законыў Вялікапольскую школу падхарунжых пяхоты Служыў у 86-ым палку пяхоты ў званні падпаручніка і паручніка. Закончыў школу пілотаў у Быдгашчы (1924).



*Аляксандр Ціхоцкі*

**У званні паручніка накіраваны ў 11-ты полк знішчальнікаў у Лідзе. Лічыўся адным з лепшых вайсковых лётчыкаў. У 1926 г. разам з палкоўнікам Райскім прымаў удзел у пералёце па балтыйскіх дзяржавах. У 1927 г., прымаў удзел у міжнародных спаборніцтвах ў Цурыху, разам з палкоўнікам Касоўскім і капітанам Арлінькім, заняў ІІ-е месца.**

**Загінуў 1 траўня 1928 г. у вучэбным палёце. Пахаваны на парафіяльных могілках у Лідзе.**




*Магіла Аляксандра Ціхоцкага на Лідскіх парафіяльных могілках. Здымак С. Судніка, 2003 г.*

**Шурлей Ян Баляслаў** (22.07.1896-16.03.1932)

Нарадзіўся ў Святэльніках. У 1913 г. быў прызваны ў аўстрыйскае войска. Закончыў школу пілотаў аўстрыйскага вайскова-марскога флоту ў Сябеніка. У снежні 1918 г. уступіў у польскія аддзелы у Медылане.

У Польшчу прыбыў у снежні 1919 г. у складзе арміі генерала Галера. Скончыў вышэйшую школу пілотаў у Познані (06.1920), застаўся там інструктарам-пілотам.



*Ян Баляслаў Шурлей*

Служыў у Грудзёнскай школе пілотаў (1921 - 23), у 2-м авіяцыйным палку ў Кракаве (1923 - 25), **у 11-ым палку знішчальнікаў у Лідзе (1925 - 28)** і 112-ай эскадрыллі знішчальнікаў у Варшаве (01.1928 - 32). Быў прызнаным пілотам вышэйшага пілатажу. Фігуры вышэйшага пілатажу ў яго выкананні лічыліся ўзорам дасканаласці. Ён мог выконваць іх на вышіні ўсяго некалькіх метраў.

Загінуў 16 сакавіка 1932 г. у службовым палёце з-за адмовы рухавіка.

## Вайсковы квартал на каталіцкіх могілках у Лідзе[1]

У 20-х гадах 20-га стагоддзя на частцы каталіцкіх могілак у Лідзе па вул. Гражыны (зараз Энгельса) быў выдзелены асобны квартал, на якім былі перазахаваны парэшткі польскіх жаўнераў і дабраахвотнікаў, што загінулі ў баях з бальшавікамі і ляжалі па большасці ў безымянных магілах.

Ад 1926 года там пачалі з'яўляцца магілы лётчыкаў 11-га знішчальнага і 5-га лётнага палкоў, і квартал пачаў ператварацца ў лётны.

**Каталіцкія могілкі ў Лідзе па вул. Энгельса**







**1 - помнік. 2 - магіла Адама Залескага. 3 - магіла Аляксандра Ціхоцкага. 4 - магіла Баляслава Паўляка. 5 - магіла Францішка Чарнецкага. 6 - магіла Паўла Стэнцала.**



***Цэнтральны абеліск з адноўленай скульптурай на вайсковым квартале Лідскіх парафіяльных могілак. Здымак С. Судніка, 2003 г.***



***Магіла Баляслава Паўляка на Лідскіх парафіяльных могілках. Здымак С. Судніка, 2003 г.***

Б. Паўляк (Pawlak), сяржант-механік 11-га палка. Памёр 26.01.1928 г. Па тэксту артыкула не згадваецца.

Быў узнесены 8-мятровы помнік, пастаўлены металічны плоцік.

Пасля 2-й Сусветнай вайны могілкі былі закрытыя, а спецыяльна прывезеная група камсамольцаў з Навагрудка знішчыла ўсе крыжы, зруйнавала магілы.

З сярэдзіны дзевяностых гадоў розныя польскія арганізацыі з Польшчы і Беларусі ўзялі пад апеку могілкі і, адпаведна, вайсковы квартал.

Былі адрэстаўраваныя крыжы, у тым ліку і помнікі лётчыкаў у межах кварталу. З іншых магілаў знойдзена толькі адна - М. Алендра (5 полк).

Восенню 2001 года адноўлены абеліск, які завершаны прыгожай скульптурай, дакладнай копіяй перадваеннай.

[1] *Historyczny biuletyn lotniczy klubu milosnikow lotnictwa polskiego w Lodzi, kwiecien 2002.*

***Мікола Дзікевіч***

# ДЗІТРЫКІ
## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Паўсямесна пачалася падрыхтоўка да выбараў 22 кастрычніка 1939 года ў Заходне-Беларускі сход. Мы хлапчукі дапамагалі старэйшым, чым маглі: укопвалі ялінкі ўздоўж сцежкі да школы, дзе знаходзіўся выбарчы ўчастак, абвяшчалі сялян аб пачатку перадвыбарчых сходаў, насілі звесткі падчас выбараў у Нёманскі вясковы савет і іншае.

Вельмі цікава было слухаць агітатараў, аб чым гаварылі на сходах, аб выбарах. Незразумелым быў сам працэс і само слова "галасаваць". Але ўсё стала на сваё месца, калі зайшлі ў клас і ўбачылі абсталяваныя кабіны для галасавання. Супраць трох вялікіх акон, размешчаных упрытык адно да другога, былі зроблены кабіны: разгароджаны прынесенымі жанчынамі дзяругамі, а ўваходы завешаны даваеннымі празрыстымі фіранкамі з акон. Заходзь, калі ласка, і таемна выказвай свае погляды на кандыдатаў! Чым не празрыстыя выбары?

28 кастрычніка 1939 года ў Беластоку адкрыўся Народны (Нацыянальны) Сход Заходняй Беларусі, на якім нашы выбраннікі абралі поўнамоцную камісію Народнага Сходу Заходняй Беларусі. Камісіі даручылі каб на сесіі Вярхоўнага Савета СССР прасіла ўключыць Заходнюю Беларусь у склад Савецкага Саюза.

2 лістапада 1939 года нечарговая пятая сесія Вярхоўнага Савета СССР разглядзела просьбу паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі аб уключэнні яе ў склад Савецкага Саюза і прыняла Закон аб уключэнні яе ў склад СССР і ўз'яднанні яе з БССР.

12 лістапада ў Менску на нечарговай трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета БССР разгледжана заява паўнамоцнай камісіі Народнага Сходу Заходняй Беларусі аб яе ўключэнні ў склад БССР. Вярхоўны Савет пастанавіў:

1. Вітаць пастанову Вярхоўнага Савета СССР аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Савецкага Саюза.

2. Прыняць Заходнюю Беларусь у склад БССР.

І так мая родная вёска ўвайшла ў склад БССР. Толькі вось атрымоўвалася нейкая няўвязка. Нас вызвалялі, затым на сходах гаварылі, што патрэбна аб'яднацца з Усходняй Беларуссю. Атрымалася наадварот: тады ў 1918 годзе, не пытаючы ў нас, Масква аддала нас пад Польшчу, цяпер далучаюць да СССР (Расіі). Беларусам



***Мікола Дзікевіч***

засталося толькі вітаць пачын Масквы, а не самастойна аб'яднацца, і Масква была б гэтым задаволена.

Такім прадкам прайшлі выбары 24 сакавіка 1940 года ў Вярхоўныя Саветы СССР і БССР і 24 снежня таго года ў мясцовыя саветы. Актыўнасць сялян зменшылася. Ішлі на выбарчыя ўчасткі з неахвотай, галасавалі за сябе ды жонку.

На сходах чулася слова "кулак" – выбаршчыкаў запалохвалі. Сяляне ўжо добра ведалі, як вывозілі ва Усходняй Беларусі тых кулакоў, хто меў аднаго каня і карову, але былі добрымі гаспадарамі.

Агітатарам, палітработнікам дапамагалі мясцовыя актывісты. Адным з іх быў Савонь Віктар Іванавіч з вёскі Барвічы. Мы хацелі ўсё ведаць і падслухоўвалі іх размовы: "Заходняя Беларусь – пусты мяшок і яго патрэбна напоўніць". Пра сшыткі, чэргі па адзенне і абутак я пісаў. Тыя запалкі не расколеш папалам: іх патрэбна змарнаваць дзве - тры, каб атрымаць агонь.

Быў такі выпадак. Запрасіў Мурын Пётр з вёскі Жомойдзі палітработніка і разам з ім чырвонаармейца на абед. Нарэзаў сала, кумпяка, засмажыў яек і паставіў паўлітра самагонкі (на той час

пачалі памаленьку яе гнаць!). Паелі, выйшлі на вуліцу, пачалі гаманіць. Мы тут як тут! Гаспадар скардзіцца, што бедна жыве. Праз некаторы час чырвонаармеец з гаспадаром адышлі. Той і кажа селяніну: “Маўчы, ты кулак, цябе трэба вывезці ў Сібір”.

Сапраўды, самагонка пачала часцей з'яўляцца на стале. У вёсцы Ганчары адкрылася крама вясковай кааперацыі. Першае, па што паехалі нашы хлопцы – гарэлка. Помню, брат гаварыў, што яна смачная. Зусім мала плацілі за прадукты з гаспадаркі. Пакуль толькі такі быў спосаб набыць грошы. Сяляне пачалі гнаць самагонку. Працэс даволі доўгі. Жыта прарошчвалі, сушылі і малолі ў жорнах чым пабуйней. Запарвалі, студзілі, давалі магчымасць на дражджах добра выбрадзіць. Самагонныя апараты рабілі драўлянымі, таму былі нязручнасці, выпадкі разладу і ўцечкі пары, вады. Жалезны кацёл з вадой ставілі на пліту, парылі заварвалі брагу, праз сухаадстойнік спіртавая пара пастунала ў халадзільнік. Тут ваду зімою ахалоджвалі снегам, лёдам. У цёплую пару часцей даводзілася мяняць ваду. Пры дастатковым браджэнні з пуда мукі выходзіла 5-10 літраў самагонкі. Атрыманая брага, перамешаная з сечкай, добра з'ядалася каровамі, не супраць былі паласавацца свінні і нават куры, змешанай з тоўчанай варанай бульбай.

Можна лічыць гэты час пачаткам співання сяльчан. Вынік нам зараз добра вядомы: бамжы, п'яніцы, сямейныя бойкі і драмы, п'яныя вяселлі, п'яныя провады ў армію, п'яныя жалобныя сталы.

Стала нормай для ўсіх начальнікаў сельскага савета (старшыні, фінагента), не грэбавала гэтым і раённае начальства, пачаставацца на вёсцы самагонкай і свіной закуссю.

У канцы 1939 года на дабрачынных умовах патрэбна было здаць у дзяржаву пэўную колькасць прадуктаў сельскай вытворчасці. Сяляне зразумелі, што аплата за іх прадукт была менш той працы, укладзенай у гаспадарку. Зусім незразумела ім стала, калі ў 1940 годзе хутаране атрымалі абавязацельства на здачу зерня, бульбы, жывёлы. Шмат завезці на склад патрэбна, а грошай атрымаеш мала! Узнікла незадаволенасць сярод людзей з патурання некаторым гаспадарам.

На хутары Сівіцкай Мальвіны жыло сем сыноў і адна дачка. Задумала яна напісаць ліст Сталіну. Звярнулася да мяне. Адмаўляўся ад яе задумы, але потым угаварылі. Не помню змест заявы, але напісанае задаволіла цётку Мальвіну. Уклалі ў канверт, а вось як напісаць адрас: дзеду на вёску? Парашылі: ліст назад не вярнуўся – цётка не ведала, ці дайшоў і ці выпусцілі з Ліды далей – невядома. Не дапамог бацька Сталін. Здаваць падатак цётцы Мальвіне давялося!

Па завядзёнцы людзі шмат працавалі, больш гадавалі жывёлы, “украдкам” гналі самагонку. За яе ў Лідзе можна было купіць у знаёмых кірзавыя і хромавыя вайсковыя боты і чаравікі, гімнасцёркі, галіфэ, бялізну, валёнкі, шапкі. З шынялёў і старых кажухоў шылі кажушкі. У магазінах прадавалі гатовае адзенне і крамны матэрыял. Тоячыся, краўцы і краўчыхі (іх абкладалі грашовымі падаткамі) шылі па дамоўленасці сялянам розныя паддзеўкі. Калі заходзіла размова пра калгас, усе аднекваліся, абыходзілі гэтую тэму, мянялі гаворку. Калгас у вёсцы так і не арганізавалі!

Моладзь, як раней, па суботах вясялілася. Арганізоўвалі вечарынкі, не прытрымліваючыся пастоў. Пілі па бутэльцы “на брата”. Ганарыліся гэтым пры сустрэчы, называлі “белай варонай”, калі адмаўляўся ад кампаніі, не лічылі цябе сябрам. Гарэлка стала мерай адносін, маралі і сяброўства. Паціхеньку сталі выпіваць дзяўчаты. Сабраўшыся вечарам, спявалі песні “Катюша”, “Три танкиста”, “Широка страна моя родная...” і іншыя. Сяляне чыталі газеты “Уперад”, “Звязда”. Спачатку раздавалі дарам, затым сёй-той выпісваў.

Набліжалася 1 верасня 1940 года. Рыхтаваўся наведваць шосты клас. Хто мог падумаць, што зноў давядзецца пайсці вучыцца ў Ганчарскую школу. Да гэтага часу супраць старой школы пабудавалі новую з двума класнымі пакоямі з перавезенага дома багацея. Тут сустрэў знаёмых. Абставіны, адносіны, погляды і інтарэс да навучэнцаў вёскі былі блізкімі мне, стаў роўным сярод роўных. Вучоба ў горадзе ставіла мяне ніжэй гарадскіх, хаця (не хвалюся) вучыўся не горш іншых. Пасябраваў з многімі вучнямі. Не забываў і не забыў Каравайку Сашу і Марыю Вальцевіч, Надзю з вёскі Агароднікі, Кучынскага Вячаслава і Паўла, Касарэўскую Зою, Салькоўскую Тамару, Кумпяк Зіну, Будзевіча Сяргея, Рэвяшку Сямёна з вёскі Ганчары, Грос Глафіру з вёскі Супраўшчына, Ненартовіч Рэню з вёскі Жучкі і асабліва Макарэвіча Фёдара Адамавіча з вёскі Навасады. Апошнім часам ён працаваў загадчыкам Лідскай гарадской паліклінікі і затым намеснікам галоўнага доктара па лячэбнай частцы Гарадзенскага абласнога шпіталю. Шкада, што яго так рана не стала сярод нас.

Вучнёўскія адносіны наладзіліся. Вучыца стала цікава, самастойнасць дала свой плён: адзнакі толькі добрыя і выдатныя. Прынялі ў харавы гурток, але спявак з мяне не атрымаўся, затое “танцорам” стаў. Рэпеціравалі, выступалі перад вучнямі, з танцам “Лявоніха”, трапілі на раённы агляд вучнёўскай самадзейнасці. Было гэта вясной 1941 года. У Ліду і назад дабіраліся на вазах. Агляд праходзіў у раённым клубе, які размяшчаўся на вуглу цяперашніх вуліц Камсамольскай і Астроўскага.

Летам 1940 года нашу бабулю Насцю і нас узрадавала паштоўка, атрыманая ёю ад сына Іпаліта, нашага дзядзькі. Ён у 1914 годзе пайшоў у расійскую армію, пісаў лісты да кастрычніцкага перавароту. Бабуля не пакідала надзеі на сустрэчу з сынам і заўсёды гаварыла, што ён жыве. Кожны дзень малілася за яго здароўе і сустрэчу пры яе жыцці.

Позняй восенню з братам малацілі жыта. На падворку з’явіўся высокі мужчына ў доўгім шынялі без пагонаў. Мы яго адразу пазналі, бо на яго быў падобны сярэдні брат Саня. Даведаліся ад дзядзькі Іпаліта, што падзеі 1917 года сустрэў на поўдні Расіі ў Кушцы. Там прадаўжаў службу, дэмабілізаваўся, жаніўся, пераехаў у Менск, працаваў бухгалтарам на будаўніцтве Дома Урада. Лістоў не пісаў, таму не трапіў пад нагляд НКУС. Заехаў да нас з нагоды інспекцыі хлебапякарань у вобласці. Бабуля гаварыла:пабачу Іпаліта і тады памру. Так і здарылася. У халодны студзень 1941 года яна памерла, пражыўшы чуць больш 90 гадоў.

У пачатку 1941 года людзі гаварылі і не таіліся, што будзе вайна з немцамі. Усё паказвала на вайну. Народ душой і сэрцам адчуваў несур’ёзнасць дамоў з Германіяй. Ліхаманкава рыхтавалася Чырвоная Армія да ваенных дзеянняў. Аднойчы, паехаў у Істакі малоць збожжа і ўбачыў, як хлопцы з суседніх вёсак праходзілі дапрызыўную падрыхтоўку на лёдзе, зацярушаным снегам, з драўлянымі вінтоўкамі пад кіраўніцтвам малодшага камандзіра. У школе вісеў плакат “Здавайце нормы ГТО”. Нам добраволь на – прымусова выдалі лыжы ў сельсавеце (зараз на тым месцы пабудаваны магазін), паставілі на іх, далі ў рукі палкі рознай велічыні і сказалі бегчы па шашы ў бок рэчкі да мастка, там паварот. На мосце нікога не было, таму першыя павярнулі назад, не даехаўшыя – таксама, і яны апынуліся першымі. Добра што за гэты час нас не сустрэла і не дагнала ні адна машына. Былі і такія, хто адваротны шлях прайшоў з лыжамі ў руках. Вынікаў нам не назвалі, але чарговая “галачка” пайшла ўверх. А яшчэ ў школе праводзіліся ўрокі “Осавиахима”. Было некалькі газаахоўнікаў: надзявалі, дыхалі, здымалі.

У вучобе, працы праходзіў навучальны год. Вясною 1941 года многіх сялян узялі на месячныя вайсковыя зборы. З нашай вёскі ў пачатку траўня пайшлі на зборы брат Ціхан і Буйніцкі Якуб Іванавіч. Праз лісты даведаліся, што Ціхан служыць каля вёскі Гожа на поўнач ад Горадні. Бабуля гаварыла: “Загінуў каля Горадні ў 1914 годзе сын Аляксандр, не дай, Божа, там смерць унуку”. Многа малілася. Мне прышлося зноў працаваць у полі. Пасеяў гарох і пасадзілі бульбу. Зусім засмуткавалі, калі ў пачатку чэрвеня атрымалі ліст, дзе брат паведамляў аб адтэрміноўцы іх збораў. Усім стала зразумела: будзе вайна.

Мама дагаварылася з жанчынамі Кумпяк і Дзікевіч з вёскі Дроздава (мужыкі іх праходзілі зборы з братам) паехаць у Гожу. На дорогу патрэбны былі грошы.

На час збораў нашу гаспадарку вызвалілі ад працоўных абавязкаў. Гаспадару канём абавязвалі вывезці на Лідскі аэрадром пэўную колькасць каменняў у залежнасць ад памераў зямлі ў гаспадарцы. Грошы плацілі не малыя кожную суботу. Брат да збораў збіў скрынку і некалькі разоў завёз каменні. На нашым хутары хапала каменняў. Наклаў іх, сабраў корм каню і пасля заходу сонца паехаў першы раз з дзядзькам Урбанам Аляксандрам. Дзядзька Аляксандра-першым, за ім я, драмалі пад стук калёс. Ноччу не сустракалі машын. На світанку былі на аэрадроме. З’яўляўся прыёмшчык. Каменні складалі ў акуратную клешку, ды так, каб больш было пустаты. Затым прыёмшчык замяраў. Такая разгрузка каменняў займала вялікую тэрыторыю. Пачалі замяраць на возе. Пры яздзе каменні ўтрасаліся, іх станавілася менш. Мужыкі рабілі двайное дно на 12-15 см. Разгадалі і гэты падман, за што не далічыліся грошай вясковыя “камбінатары”.

Грошай больш зараблялі трэцім спосабам. Сялянам з Нёманскага сельсавета плацілі за прывоз больш, чым, напрыклад, з Трацякоўскага. Землі былі ўласныя і гаспадары каменняў не давалі. У каго былі знаёмыя, завозілі пасля абеда з хаты, а назаўтра рана выконвалі бліжэйшы рэйс.

Азнаёміўся з парадкамі і самастойна ездзіў на аэрадром. У чэрвені не стала палявых работ. Вяскоўцы вазілі часцей каменні. Пад’едзеш да чыгуначнага пераезду, і там збіралася шмат фурманак. Мужчыны перадавалі лейцы пярэдняму возчыку і самі спалі або драмалі. Я таксама “прыпаркоўваўся” да каго-небудзь і ехаў з усімі разам.

Павінен сказаць, што падобныя працоўныя павіннасці сяляне адбывалі не раз. Успамінаю, як зімою 1940-1941 гадоў гуртом ездзілі ў вёску Дзямянаўцы Дзятлаўскага раёна вывозіць лес з Ліпічанскай пушчы. Бралі з сабою сена, сечку, авёс, харч сабе і ехалі на тыдзень. Талакой грузілі на сані і лісіцу (падсанкі, сучка) бярвенні і адвозілі да рэчкі.

Вернемся ў неспакойны чэрвень 1941 года. Атрымаў два разы грошы, а 21 чэрвеня за мяне – дзядзька Урбан. У гэты дзень з жанчынамі аўтобусам паехаў у Ліду. Праходзячы пераходам да чыгуначнага вакзала з правага боку ўбачылі цягнік “цялятнік”, у які загружалі “ненадзейных” людзей для адпраўкі ў “далёкія” краі. Чырвонаармеец з вінтоўкай са штыком узору 1891 года пакрыкваў на пешаходаў, хто затрымліваўся паглядзець. Такая “пачэсная доўгатэрміновая” камандзіроўка людзей з нашай вёскі ў 1939-1941 гадах абмінула.

Цягніком Масква-Горадня пасля абеду заехалі да канцавой станцыі. Аўтобуса да вёскі Гожа не было. Па вуліцы Ажэшкі і цяперашняй Максіма Горкага пяшком да заходу сонца былі каля летняга лагера. Па дарозе за шэсць ці сем кіламетраў ад Гожы да нас далучылася бабуля. Жанчыны з ёю разгаварыліся. Яна падрабязна расказала, як нам знайсці вайсковы лагер. А яшчэ паведаміла: за ракой Нёман шмат стаіць немцаў, заўтра яны дадуць бальшавікам, адтуль уцякаюць людзі. Мы расказалі мужчынам. Яны ведалі пра гэта, але не верылі, што заўтра пачнецца вайна.

Дрэннае ўражанне засталося ад сустрэчы з мужчынамі. Гімнасцёркі, галіфе, пілоткі, абмоткі і чаравікі мелі выгляд брудны і заношаны, самі

схуднелыя. Сапраўдныя "партызаны", так называлі іх сярод цывільных.

Вечарам па парадзе мужчын зайшлі ў першую хату, даволі прыгожую і ўтульную. Па перыметру вялікага падворка размясціліся хлявы, гумно і іншыя пабудовы. Вельмі здзівіліся: прыехалі здалёк і не баяліся, што будзе вайна. Мы спыталі: "Калі?" Адказалі: "Хутка!" Пачаставалі цёплай бульбай і кіслым малаком са смятанай. Ляглі спаць на кулявую салому, не распранаюся. Вечар ціхі і цёплы. Жанчыны знямогшыся моцна спалі. Ноччу ў гадзіны тры на падворку распараджаўся гаспадар з сынамі, за дашчатай перагародкай стукалі саганамі і прыглушана гаварылі. Прыслухаўся. Сярод стуку і гамонкі пачуў гул самалёта: то аддаляўся, то прыбліжаўся, відавочна кружыў над намі. Прайшло з паўгадзіны, і на захадзе загуло, застукала, забухала. Усхапіўся, разбудзіў жанчын. Выйшлі ў суседні пакой, і адтуль пачулася, што пачалася вайна. Нават прыбеглі знаёмыя з Горадні.

Сям'я тут жыла вялікая. Старэйшы сын жанаты. Яны ўсю ноч не спалі. Рыхтавалі месца для коней і жывёлы ў блізкім лесе. Гаспадыня хуценька накарміла нас булёнам і пажадала, каб мы ў лагеры пабачылі мужчын, бо яны могуць пайсці на перадавую. Над Нёманам ішла сапраўдная вайна: чуліся выбухі, нават стральба з вінтовак і кулямётаў.

Да лагера падышлі перад усходам сонца. О, дзіва?! Там цішыня, воіны спяць, вартавы акрыкнуў нас, не падпусціў да лагера (у сапраўднасці яны даўно апрануліся, але іх не выпускаллі з палатак). Каля рэчкі Гожанка пад дубам мы прастаялі да пад'ёму. Сонца высока паднялося над лесам. Дзесьці ў паўшостай паказаліся і павольна ішлі ў наш бок два камандзіры (першы з адной "шпалай", другі з дзвумя на гімнасцёрцы) з ручнікамі на руках.

Жанчыны падбеглі да іх. Адбылася такая размова паміж жанчынамі і, як высветлілася затым, камандзірам часткі і нампалітам.

- Таварыш камандзір, гэта пачалася вайна?
- Не.
- А што?
- Ідуць вялікія тактычныя манеўры.
- Дык на граніцы паўсюдна дым.
- Вы бачыце дымавую заслону.
-Там гарыць Горадня.

Адказ не пачуўся.

- Дазвольце сустрэцца з мужыкамі.
- Толькі пасля пад'ёму.

Вось так жылі гадамі пад "дымавой заслонай"!

Не магу забыць іх спакойную паходку, падобную на шпацыр, няспешнае распрананне да пояса, бадзёрую гаворку, размераныя рухі пры ўмыванні, смех і напэўна гумар. Затым павольна рушылі ў бок палатак. Над намі пранесліся на Горадню два самалёты (тупыя чырвоныя насы), ды так нізка, што падняліся над лесам, а затым за ім і зніклі. Высока ў небе кружыла нямецкая "рама", напэўна карэкціравала стральбу артылерыі. Над Горадняй у бязветранае надвор'е падняўся слуп дыму, амаль вертыкальнага. Над горадам лямалі нямецкія самалёты. Вакол іх разрываліся зенітныя снарады. Малюнак уражвальны: свабодна лятаюць самалёты, і ў бязладдзі разрываюцца снарады.

Наступныя дзеянні абаронцаў Радзімы нас канчаткова ўразілі. У шэсць гадзін пачуліся гукі трубы: ігралі пад'ём. З палатак выбеглі голыя да пояса, старэйшыя ў кашулях, воіны і размясціліся на травяністай пляцоўцы 100 м х 150 м супраць палатак, што стаялі ўскрай лесу. На пляцоўцы ў шахматным парадку зрэзалі дзёрн 50 см х 50 см для кожнага воіна. Відовішча прыгожае, але ў такі час?! Пачалася фізічная зарадка: чуўся разлік камандзіра, убачылі ўзмахі рукамі і нагамі.

Наступіла чарга прыбіраць ложкі, мыцца і апранацца. Толькі тады адпусцілі пагаварыць з намі. Паснедаў першы, другі батальёны, а трэці – не паспеў. Сыгралі баявую трывогу. Праз некалькі хвілін з'явіліся брат і мужыкі ў касках, з вінтоўкамі і патронамі на папругах. Сказалі, што пачалася вайна. Позняе прызнанне?! Паклікалі камандзіра батальёна. Па карце паказаў, як нам бліжэй ісці дадому. Я спісаў населенныя пункты. Мы развіталіся. Батальён пайшоў займаць баявую пазіцыю на поўдзень ад Гожы на ўзгорку ўздоўж шашы недалёка ад лагера.

Спачатку жанчыны ішлі ў названым кірунку. Параіліся паміж сабою, павярнулі на поўдзень і выйшлі на шашу ў Горадню: там сядзем на цягнік і паедзем у Ліду. Мае ўгаворы не дапамаглі. Рабіў спробу павярнуць на ўсход. Цвёрдасць жанчын прымусіла мяне "плесціся" з-заду. Ды здарылася нечаканае!

Справа за 70 м стаяла гумно. Паміж ім і шашою акапаліся зянітчыкі, але не стралялі, схаваўшыся пад гумном. Зверху лятала "рама". Зянітчыкі матам абразілі жанчын, сталі крычаць, каб уцякалі далей на ўсход. Жанчыны ўпарта ішлі ў горад. Тут засвістала, загуло, і каля гумна разарваўся снарад. Я ішоў ровам і там-жа ўпаў. Пачакаўшы, падняўся – жанын не бачна на шашы. Глянуў на ўсход: у той бок беглі жанчыны. Выпадак бачылі мужчыны з перадавой, здзіўляліся жаночай упартасці і засталіся спакойнымі за наша жыццё.

Скінулі абутак і басанож беглі так, што толькі праз тры кіламетры дагнаў. Адвёўшы дух, прыпыніліся і пачалі раіцца: куды ісці? Парашылі – на ўсход. Спакойна прайшлі яшчэ вёрст чатыры. Перад намі паказаўся прыгожы фальварачак, абсаджаны бярозамі, пасярэдзіне сад, дабротная хата, хлявы, гумно. Пад бярозамі сядзела ў кружку сем чырвонаармейцаў: стаяў саган з бульбай, ляжаў парэзаны хлеб, кіслае малако, сырадой у збанку. Саган стаяў на спецыяльнай падстаўцы, пад харчы пасланы абрус. Уразіла гасціннасць і жаданне аблягчыць становішча мужчын.

Гаспадары частавалі, хлопцы расказвалі.

Раніцай снарад разарваўся ў суседняй палатцы. Выскачылі, у чым маглі. Пачуліся крыкі, лаянка, неразбярыха, кудысьці беглі, а карацей кажучы – уцякалі на ўсход. (Тут мне падумалася: магло быць так з нашымі мужчынамі, "партызанамі". Відавочна, яны ў планы немцаў яшчэ не ўваходзілі). Жудасны выгляд быў у чырвонаармейцаў: двое ў гімнасцёрках, астатнія ў белых кашулях, яшчэ двое – у галіфе, астатнія – у кальсонах, некалькі – у чаравіках, былі босыя, у аднаго перавязана галава, у другога – рука (параніла асколкамі). Прыбеглі сюды чырвонаармейцы тэрміновай службы: стрыжаныя пад машынку, цяжка ім было затым схавацца сярод мясцовага насельніцтва: немцы здымалі шапку і правяралі даўжыню валасоў. Лагер іх размяшчаўся на беразе ракі Нёман, і з заходняга боку немцамі добра праглядаўся.

Пад цяністымі бярозамі аддыхаліся. Папілі халоднай вады, прыйшлі ў лагодны стан. Паслухаўшы аповяды чырвонаармейцаў, ацаніўшы абставіны, парашылі ісці кірункам, падказаным камандзірам батальёна, праз вёскі і мастэчкі: Цыдавічы, Багушоўка, Казіміраўка, Верцялішкі, Азёры, Аспучына, Шайбакі, Васілішкі, Паперня, Більтаўцы, станцыя Курган, Бабры, Няцеч, Навасады і Барвічы.

Каля вёскі Цыдавічы надарыўся возчык на вялікім з драбінамі возе, запрэжаным парай коней. Дагаварыліся, што падвязе на ўсход ад Верцялішак да шашы на Азёры. Адтуль ён паедзе на поўдзень. Добра памятаю, як праязджалі чыгунку за Багушоўкай. За транспарт заплацілі. Да Астрыно нас абагнала "палутарка" гружаная мэбляю, стаяў вазон з фікусам. За рулём сядзеў вайсковец, у кузаве – таксама вайсковец з жанчынай і дзецьмі. Відавочна з вялікіх начальнікаў хтосьці адпраўляў сям'ю на ўсход.

Праходзячы праз паселішчы, людзі пыталіся, як далёка знаходзіцца наша армія ад граніцы на захад. Мы расказвалі тое, што бачылі і чулі. Людзі не верылі: ахалі і охалі. Тады мы паказвалі ў неба, дзе за два дні не бачна было ні аднаго савецкага самалёта. Над намі несліся армады двухматорных нямецкіх загружаных самалётаў з душараздзіральным гулам. Ляцелі стройна, невысока ў такім парадку:



За імі другая і трэцяя дзевяткі. Ніхто іх не абараняў, ніхто на іх не нападаў. Назад ляцелі са звонкім гукам па тры, шэсць ці дзевяць значна вышэй.

Перад Астрыном жанчыны напалохаліся і ў сваіх расказах сталі асцярожнымі. Нейкі мужчына сказаў не разносіць правакацыі: здасць упаўнаважанаму міліцыянеру, Чырвоная Армія пайшла пераможна наперад на захад!

Прайшлі мястэчка Астрына, у вёсцы заначавалі. Падхапіліся шэрай гадзінай і рушылі ў дарогу. Нам было не да ежы. Харчаваліся сваімі запасамі. Жанчыны знаходзілі агульную размову з гаспадынямі, тыя частавалі нас малаком, супам ці баршчом. Ваду бралі ў бутэлькі. Праз Васілішкі да вёскі Паперня дайшлі без ніякіх прыгодаў. Стала весялей, бо гэта была першая вялікая вёска Лідчыны. Добра памятаю з левага боку вялізныя палац і гумно, возера, з правага – млын (якіх зараз няма). У адной з першых хат падсілкаваліся. Шлях быў яшчэ не малы, але сіл прыбавілася. Да ночы будзем дома!

У Паперні папярэдзілі: перайсці праз шашу да вёскі Більтаўцы будзе небяспечна. Там цэлы дзень перыядычна лятаюць два самалёты аднаматорныя і абстрэльваюць шашу. Даходзячы да шашы з правага боку ўбачылі хутар. Гаспадар сказаў, каб трохі пачакалі. Зараз самалёты паляцелі на Ліду, будуць ляцець адтуль і страляць па шашы з правага боку. Перачакаўшы пад гумном, мы пабеглі да Більтаўцаў. На шашы валяліся нейкія рэчы – не змог разабрацца. З правага боку ляжаў забіты конь і перавернуты вайсковы воз, з левага – стаяла "полутарка", а салдаты хаваліся за тоўстыя ствалы дрэў. У першай хаце злева папрасілі вады. Тут жа гаспадар паклікаў у хату і схаваў за печ. Самалёты варочаліся і страляллі. Калі выйшлі з хаты, гаспадар паказаў дзіркі ў хаце ад куляў.

Без прыгод, паспяшаючы, дайшлі да вёскі Барвічы. Тут мы разышліся: жанчыны – у Дроздава, я – у Дзітрыкі. Зайшоў у апошнюю хату злева да знаёмых: пагаварыць, трохі адпачыць. Удыхнуўшы паветра роднай мясціны, рушыў дамоў. І перад вачыма разыгралася трагедыя з нямецкім лётчыкам. Два лёгкія самалёты ляцелі з Ліды. Затым павярнулі ў бок Бярозаўкі, спікіравалі ўніз, зрабілі разварот і пайшлі ў піке другі раз. Першы самалёт узляцеў уверх, другі пачаў падаць, пачуўся выбух і падняўся дым. Самалёт-вядовец зрабіў пралёт над месцам падзення і падаўся ў бок Горадні. Так на вясёлай для нас ноце закончылася паездка пад мяжу. Як стала вядома пасля вайны, 23 чэрвеня 1941 года маставы ахоўнік старшына Кірыл Кліменка з дзесяцізараднай вінтоўкі, прытуліўшыся да сасны, збіў нямецкага аса, удзельніка баёў за Еўропу. Праз некаторы час сябры адкапалі яго цела і вывезлі ў Германію.

З заходам сонца быў на хутары. Мама на падворку плача, прыгаворвае, што адправіла меншага сыночка на вайну. Дакарала і вінавацiла сябе. Колькі радасці праз слёзы выказала, убачыўшы мяне. Даведалася аб маім здароўі, пачала распытваць пра Ціхана, жанчын і іх мужыкоў.

З вёскі Сялец да нас дзядзька Міхась, мамін брат, прывёз з куфрам бабулю Агату. Яна напалохалася разрываў бомбаў на чыгунцы і мосце. Назаўтра бабуля дала мне новенькія хадакі. Балелі

ногі, нацёр мазалі. Дзён пяць насіў пакуль не вылечыўся.

Суседзі не верылі, сумняваліся. Як магло здарыцца, што нашая магутная армія ў бязладдзі адступае? Ліда гарэла. Начальнікі прыціхлі. З'явіліся цывільныя людзі з-пад мяжы, затым адзіночкамі, па два і больш чырвонаармейцы. Яны расказвалі тое-ж самае. Раніцай чулася артылерыйская кананада. У небе лятaлі толькі нямецкія самалёты.

У сераду 25 чэрвеня на роверы паехаў у Бярозаўку запламбаваць зубы, падрыхтаваныя раней. Зубнога доктара не застаў. Паехала на ўсход. У вёсцы Сялец праз год немец-лейтэнант, зубны доктар, за два дзесяткі яек з абязбольваннем удала вырваў тыя два зубы.

Не хацелася такога павароту ў жыцці, але давялося пагадзіцца. Чырвоная Армія несла вялікія страты. 27чэрвеня 1941 года немцы ўвайшлі ў Ліду. Аб гэтым даведаліся ад чыгуначнікаў. Яны рамантавалі чыгунку да апошняга дня. Нейкі час у іх быў перапынак. Затым немцы паклікалі ўсіх на працу. З Ліды штурхалі да станцыі Нёман двухвосевыя таварныя вагоны з драўлянымі рамамі. Паставілі да Ліды, каб не можна было праехаць праз чыгунку шашою і дарогамі. З цягам часу іх разабралі на вагонку і металалом. Мы хадзілі па вагонах, сёе-тое знаходзілі. Я прынёс сшыткі і фотапаперу: адразалі паветраныя тармазныя шлангі на падэшвы і абцасы. Чыгуначная дарога Ліда-Баранавічы немцамі не выкарыстоўвалася. Восенню вагоны выцягнулі і каляю звузілі. Пачалі курсіраваць цягнікі.

У вёсцы некаторы час жылі чырвонаармейцы. Яны былі з далёкіх мясцін. Пачаліся ўборка збожжа і сенакос. Працоўныя рукі патрэбны. Беларусы паціхеньку рухаліся на ўсход ад вёскі да вёскі, ад знаёмага да знаёмага. Іх кармілі, паказвалі дарогу, каб не трапілі да немцаў. Некаторыя пажаніліся з нашымі дзяўчатамі, маладымі ўдовамі. Па сённяшні дзень жывуць іх дзеці.

У апошнія дні чэрвеня і пачатку ліпеня па шашы Беліца-Ліда рухаліся калоны немцаў. У гэты час брат дайшоў да хутароў вёскі Жучкі, пераапрануўся ў цывільнае і днём прыйшоў дамоў. Назбіралі дома і ў суседзяў адзення і брат занёс чырвонаармейцам тэрміновай службы. Праз нейкі час вайсковае адзенне забралі, калі па шашы перасталі ехаць нямецкія калоны.

Радасці, слёз было без канца: мама дачакалася сына. Многа цікавага, незразумелага засталося тады для мяне. Выклікала двайное пачуццё і разуменне паводзін камандавання Чырвонай Арміі падчас ваенных дзеянняў у той час. Помню, як брат у размовах з былымі чырвонаармейцамі, з сябрамі ў вёсцы часта паўтараў: была б такая зброя і тэхніка ў польскага камандавання, яны бы не два тыдні трымалі абарону. Як былі непадобныя адны на другіх! Польскія камандзіры вырашалі самастойна, не баяліся за вынікі, ведалі, што ў будучым іх не чакае смяротнае пакаранне, хутчэй – толькі ўзнагарода. Цяперашні час паказвае: дзе б ні ваявалі за сваю радзіму Польшчу, салдаты атрымоўваюць годную фінансавую дапамогу.

Іх актыўнасць і баявітасць у баях на працягу двух тыдняў выклікалі павагу ў салдат. Немцы ні разу не зайходзілі ім у тыл. Артылерыя ўвесь час манеўравала. Бачачы перавагу з боку немцаў, камандзіры выбіралі не лабавыя атакі і абарону, а тактыку партызан. Займалі зручныя пазіцыі, абстрэльвалі калоны немцаў, дэмаралізоўвалі іх, хутка адыходзілі, маючы толькі конную цягу.

Як вялі сябе савецкія камандзіры пад вёскай Гожай, часткова расказваў раней. Не лепш было потым, калі занялі абарону. Паводле расказаў брата ў дзве гадзіны дня немцы паказаліся на ўскрайку Гожы на крушні. Штосьці гаварылі, махалі рукамі, паказвалі ў іх бок. Далі каманду страляць з мінамётаў. Недалёт. Немцы зніклі. Доўга чакалі, а яны так і не з'явіліся. Праз некалькі гадзін з тылу ў даліне за ўзгоркам, дзе была баявая пазіцыя, загулі танкі, пачалі страляць. Можна сказаць: закончылася вайна з немцамі. Камандзіры разгубіліся: наперад не пойдзеш, з-заду страляюць. Парашылі групамі прабівацца на ўсход да мястэчка Азёры. Ці багата можна прайсці з мінамётнай плітой, руляй, мінамі ў страшэнную гарачыню? Сяк-так праз чыгунку дабраліся да ракі Котра. Тут у балотах і лясах заблудзіліся. Трое сутак выбіраліся, выйшлі на шашу, даведаліся: наперадзе ў Азёрах і далей немцы. Перайшлі шашу, паглыбіліся ў лес. Камандзір групы загадаў мінамёты, замкі і вінтоўкі пакідаць у балота і рэчку, самі ідзіце па хатах, а я з некалькімі чырвонаармейцамі (камандзіры адзяленняў тэрміновай службы) будзем рухацца на ўсход. Камандзір з Усходняй Беларусі быў прызваны на зборы раней. Вось так закончылася другая вайна брата з немцамі.

Брата здзівіла дрэнная арыентацыя камандзіраў на мясцовасці, іх баязлівасць прымаць рашэнні самастойна, аглядка на старэйшых, нерашучасць у дзеяннях.

У першыя два тыдні вайны пры невысветленых прычынах загінулі ў горадзе Ліда і іншых мясцінах Мулінскі Федзя Сцяпанавіч, Мулінскі Іван Іванавіч, Сівіцкі Аляксандр Іванавіч і Лукашэвіч Уладзімір Якаўлевіч.

Перад вайной на тэрміновую службу ў Чырвоную Армію быў узяты Урбановіч Броніcь Карлавіч. На пачатку вайны быў паранены, камісаваны, працаваў у Казахстане. Вярнуўся дамоў у 1945 годзе. Працаваў на чыгунцы рамонтным рабочым, затым брыгадзірам на станцыі Дварэц.

Улада "першых саветаў" закончылася, наступіў час "новага парадку Германіі". Перыяд, у якім штосьці было лепш, штосьці горш. Страху хапала ўсім, але на зямлі працаваць патрэбна. Усе воіны патрабавалі хлеб і да хлеба. У іх былі ружжы, а жыццё селяніна грош каштавала!

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




У выдавецтве "Мастацкая літаратура", г. Менск выйшла кніга Язэпа Янушкевіча "За архіўным парогам. Беларуская літаратура XIX - XX стагоддзяў у святле архіўных пошукаў".
Наклад 2000 асобнікаў. 384 ст.




У выдавецтве ГА БТ "Кніга", г. Менск выйшла кніга ўспамінаў Васіля Быкава "Доўгая дарога дадому"
Наклад 3000 асобнікаў. 544 ст.



У выдавецтве "Беларускі кнігазбор", г. Менск выйшла кніга "Беларусь - Японія. Матэрыялы другіх міжнародных чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча"
Наклад 600 асобнікаў. 400 ст.




У выдавецтве "Беларуская навука", г. Менск выйшла кніга Марата Батвінніка "Азбука на ўсе часы".
Наклад 2000 асобнікаў. 288 ст.




У выдавецтве "Беларусь" г. Менск выйшла кніга М. В. Доўнара - Запольскага "История Белоруссии"
Наклад 3500 асобнікаў. 680 ст.




У выдавецтве "Беларусь" г. Менск выйшла кніга Б. А. Лазукі "Гісторыя мастацтваў"
Наклад 3000 асобнікаў. 400 ст.
Выданне паўнаколернае



У выдавецтве БелСаЭС "Чарнобыль" г. Менск выйшла кніга Лідзіі Савік "Адна між замкаў. Літаратурны партрэт Вольгі Іпатавай"
Наклад 1000 асобнікаў. 168 ст.



**Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў.** *Літаграфія Міхала Андрыёлі, мастака-паўстанца, які змагаўся на Лідчыне.*